• выдаецца са жніўня 1917 г.   БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА   • цана 1000 рублёў

29 лютага 1996 г.
чацвер, №№ 58-59
(22861-22862)

# ЗВЯЗДА



## РОЗГАЛАС

### ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА: ДВА ВЫХАДЫ З КРЫЗІСУ

**Зараз у Рэспубліцы Беларусь у стадыі незавершанага будаўніцтва знаходзяцца прыкладна 143,1 тыс. кватэр і дамоў.**

Па сцвярджэнню старшыні камісіі па вывучэнню праблем жыллёвага будаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь П. Пракаповіча, для заканчэння пачатага будаўніцтва жылля ў цэнах чацвёртага квартала 1995 года патрабуецца прыкладна 24,2 трлн. руб. На думку экспертаў, існуюць два варыянты па тэрмінах вываду з крызісу жыллёвага будаўніцтва. Першы варыянт прадугледжвае аднавіць аб'ёмы будаўніцтва жылля на ўзроўні 1990 г. ужо ў 1996 г., а другі — дабіцца такога становішча на працягу 2 гадоў. У першым выпадку ў бягучым годзе неабходна ўвесці ў эксплуатацыю 85 тыс. кватэр і дамоў, для чаго з бюджэту будзе выдзелена 1,4 трлн. руб. на фінансаванне жыллёвага будаўніцтва. Яшчэ 600 млн. рублёў выдзяляецца за кошт адпаведнага змяншэння мяркуемых бюджэтных сродкаў на будаўніцтва і рэканструкцыю прамысловых прадпрыемстваў, у асноўным аграпрамысловага комплексу. У сваю чаргу для заканчэння будаўніцтва і рэканструкцыі прамысловых аб'ектаў можна накіраваць ільготныя крэдыты Нацбанка (2 трл. руб.).

Бюджэтныя грошы эксперты рэкамендуюць выкарыстаць для паляпшэння становішча ў сацыяльнай сферы (у дадзеным выпадку будаўніцтва бальніц, школ, жылля). У такіх жа аб'ёмах Нацбанк можа выдзеліць крэдыты для льготнага крэдытавання грамадзян. Для гэтых жа мэтаў камерцыйныя банкі ў стане накіраваць 10—15 працэнтаў усіх сваіх рэсурсаў. Магчымыя страты банкаў, на думку даследчыкаў, будуць кампенсавацца адпаведным змяншэннем іх абавязковых плацяжоў ў рэзервовыя фонды і некаторымі падатковымі льготамі. Усе мяркуемыя шляхі выхаду з крызісу ў жыллёвым будаўніцтве дазволяць ужо ў недалёкай будучыні выйсці на ўзровень 1990 г. уводу ў эксплуатацыю жылля. Па другому варыянту плануецца ўвод у эксплуатацыю ў 1996 г. прыкладна 55—60 тыс. кватэр, а ў 1997 г. выйсці на ўзровень 1990 г.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### СПРАВА КІРАЎНІКА «БЕЛМЕДБАНКА» ЗРУШЫЛАСЯ З МЕСЦА?

**Гісторыя з выкраданнем кіраўніка «Белмедбанка» Уладзіміра Валадзько, аб якой «Звязда», як і іншыя газеты, паведамляла па меры паступлення інфармацыі, відаць, пасля паўгадавога «перапынку» скранулася з месца.**

Напомнім чытачам, што знік банкір 11 верасня. Прычым, па сведчанню некаторых асоб, каля сямі гадзін вечара у той дзень ён знаходзіўся ў сваім кабінеце. Пасля таго Уладзіміра Валадзько ніхто не бачыў. Адзінае, што ўдалося знайсці пасля таямнічага знікнення фінансіста, — паперку з просьбай аб пералічэнні 300 тысяч долараў на рахункі двух прыбалтыйскіх банкаў. Як выявілася крыху пазней, гэта было патрабаванне аб выкупе, што, дарэчы, пацвердзілася і пасля тэлефонных званкоў злачынцаў родным банкіра. Грошы былі пералічаны ў Прыбалтыку, аднак ніякіх звестак ад Уладзіміра Валадзько атрымаць так і не ўдалося. Выкрадальнікі не спяшаліся забіраць або пераводзіць на іншыя рахункі долары, а справа банкіра з цягам часу ўсё больш ахутвалася цемраю. Сумна вядомыя заказныя забойствы Лісічука і Арціменi, якія да сённяшняга дня застаюцца нераскрытымі, прымусілі многіх меркаваць, што лёс і гэтага банкіра застанецца невядомым, а злачынцам усё сыдзе з рук.

Аднак на гэты раз супрацоўнікам МУС усё ж такі ўдалося намацаць нітачку, і «клубок» па справе кіраўніка «Белмедбанка» пацíху стаў разблытвацца. Праўда, афіцыйнага пацвярджэння гэтаму самі аператыўнікі не даюць.

Нам жа стала вядома з дасведчаных крыніц, што так званыя выкрадальнікі затрыманы міліцыяй. Чаму «так званыя»? Размова ідзе не аб выкраданні банкіра, а аб яго забойстве. Пад прымусам злачынцаў Уладзімір Валадзько напісаў вечарам 11 верасня паперу з просьбай аб пераводзе грошай, пасля чаго стаў непажаданым цяжарам для апошніх. Мабыць, арыентуючыся на тое, што выкраданне банкіра і патрабаванне выкупу набудзе шырокую агалоску, злачынцы забіваюць яго, а цела вывозяць на машыне і хаваюць. Пакуль складана рабіць высновы наконт таго, якім чынам забойцы меркавалі атрымаць грошы, але на сваю беспакаранасць яны адназначна разлічвалі. Зараз працягваецца следства па гэтай гучнай справе. Думаем, што хутка з'явяцца яе дакладныя падрабязнасці, з якімі мы, безумоўна, пазнаёмім чытачоў.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**



**Без адліг, без дажджоў і мокрадзі — на адным дыханні — адмарозіла і адснежыла зіма. І ў свой апошні дзень дорыць нам успышку прыгажосці — зіхоткі букецік шэрані.**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ НАВЕДАЕ НАФТАВІКОЎ ЗАХОДНЯЙ СІБІРЫ

**Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка 28 лютага накіроўваецца ў паездку да нафтавікоў у Заходнюю Сібір, паведаміў нашаму карэспандэнту прэзідэнт дзяржаўнага канцэрна «Белнафтапрадукт» Антон ЛОЙКА.**

На яго думку, галоўная мэта паездкі ў Заходнюю Сібір А. Лукашэнкі — пераканацца ў правільнасці выбару супрацоўніцтва з расійскімі нафтавымі кампаніямі «Лукойл» і «Юкас» і завяршыць работу з імі падпісаннем канчатковага пагаднення.

А. Лойка паведаміў, што яшчэ ў 1992 г. пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь было прынята рашэнне аб будаўніцтве комплексу глыбокай перапрацоўкі, кошт якой ацэньваецца ў 400—450 мільёнаў долараў ЗША. Аднак патрабуемых інвестыцый да гэтага часу ВА «Нафтан» не змагло атрымаць. Вырашэнне дадзенага пытання стала магчымым пасля падпісання ў снежні 1995 г. Пагаднення «Аб развіцці ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ў сферы пастаўкі і перапрацоўкі нафты і рэканструкцыі ВА «Нафтан» з удзелам суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі». Пагадненне прадугледжвае стварэнне ў рэспубліцы двух сумесных расійска-беларускіх прадпрыемстваў, заснавальнікамі якіх з расійскага боку выступяць нафтавыя кампаніі «Лукойл» і «Юкас», а з беларускага боку — канцэрн «Белнафтапрадукт» і ВА «Нафтан».

Мэтай стварэння першага СП з'яўляецца акумуляцыя сродкаў для будаўніцтва комплексу глыбокай перапрацоўкі нафты. Сродкі для будаўніцтва павінны быць атрыманы за кошт прыбытку ад пастаўкі ў рэспубліку і перапрацоўкі на ВА «Нафтан» не менш як 7 мільёнаў тон нафты ў год, а таксама прыцягненнем замежных крэдытаў. Для больш эфектыўнай дзейнасці гэтага СП плануецца перадаць яму ў канфідэнцыяльнае кіраванне тэрмінам на сем гадоў вытворчае аб'яднанне «Нафтан», а ў выпадку яго акцыяніравання — 51 працэнт акцый аб'яднання.

Долю статутнага капіталу ў гэтым СП мяркуецца размеркаваць наступным чынам: беларускаму боку — 26 працэнтаў, расійскаму — 74 працэнты.

Другое сумеснае прадпрыемства павінна выконваць будаўніцтва комплексу. У гэтым СП доля беларускага боку складзе 49 працэнтаў, а расійскага — 51 працэнт.

Пагадненне таксама прадугледжвае, што для рэалізацыі гэтага праекта ўрад рэспублікі забяспечыць шэраг падатковых льгот, якія павінны накіроўвацца на фінансаванне будаўніцтва за кошт капіталаўкладанняў беларускага боку.

Мяркуецца, што будаўніцтва будзе завершана на працягу бліжэйшых пяці гадоў.

Як вядома, ВА «Нафтан» з'яўляецца буйным прадпрыемствам па перапрацоўцы нафты ў Еўропе. У 1990 г. ім перапрацавана 24 мільёны тон вуглевадароднай сыравіны. У 1995 г. з-за адсутнасці сыравіны, а таксама цяжкасцей збыту нафтапрадуктаў аб'яднанне перапрацавала толькі 7,3 мільёна тон вуглевадароднай сыравіны, што складае каля 30 працэнтаў ад вытворчых магутнасцей. Глыбіня перапрацоўкі нафты на ВА «Нафтан» пры рабоце па паліўна-маслена-араматычным варыянце складае 65 працэнтаў, а па паліўным варыянце — 52 працэнты.

А. Лойка лічыць, што ўжо ў ходзе паездкі Прэзідэнта ў Заходнюю Сібір будуць падпісаны ўстаноўчыя дакументы па стварэнню сумеснага прадпрыемства як з беларускага боку ў асобе канцэрна «Белнафтапрадукт» і ВА «Нафтан», так і з боку расійскіх нафтавых кампаній «Лукойл» і «Юкас».

А. Лойка паведаміў таксама, што Прэзідэнт Беларусі наведае г. Лангепас, дзе пражываюць больш як 20 тысяч беларусаў, якія адкрывалі сібірскія нафтарадовішчы і асвойвалі іх на працягу 15 гадоў.

**Іван СЦЯПУРА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ШАЛАДОНАВА ПРЫМУСІЛІ НАПІСАЦЬ ЗАЯВУ. ПРАЗ 9 МЕСЯЦАЎ

**Ранішняе пасяджэнне сесіі Вярхоўнага Савета ўчора пачалося як звычайна з «рознага». У ім падзяліліся думкамі шэраг дэпутатаў, але адзначу найбольш цікавыя выступленні. Так, сакратар камісіі па міжнародных справах Вольга Абрамава, выступаючы ад імя фракцыі «Саюз працы» звярнула ўвагу на ідэю кампенсацыі грашовых укладаў насельніцтва, якія абясцэніліся ў выніку інфляцыі. Як вядома, аб гэтым нядаўна заявіў «Беларусбанк». Але па словах В. Абрамавай, прапанова банка па сутнасці не з'яўляецца кампенсацыяй і не нясе чакаемай выгады для людзей.**

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*



## ЗАЯВА

### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. Р. ЛУКАШЭНКІ І ПРЭЗІДЭНТА РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ Б. М. ЕЛЬЦЫНА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь і Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі, глыбока і ўсебакова прааналізаваўшы ход развіцця адносінаў паміж Беларуссю і Расіяй, увесь спектр двухбаковага супрацоўніцтва, лічаць неабходным у гэтых умовах зрабіць далейшыя захады па шляху нарошчвання ўзаемадзеяння, надаць якасна новы характар працэсу беларуска-расійскай інтэграцыі ў палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, культурнай, гуманітарнай і іншых галінах.

Грунтуючыся на гістарычных сувязях Беларусі і Расіі, пачуццях дружбы і роднасці двух народаў, іх волі да далейшага збліжэння, выказанай у выніках майскага (1995 года) рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і ў кастрычніцкіх (1995 года) рашэннях палат Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі, Прэзідэнты лічаць, што аб'яднанне матэрыяльнага і інтэлектуальнага патэнцыялаў абедзвюх дзяржаў з'яўляецца абавязковай умовай пад'ёму эканомікі, стварэння адпаведных умоў для павышэння ўзроўню жыцця і духоўнага развіцця, раскрыцця патэнцыяльных магчымасцей кожнага чалавека.

Імкненне брацкіх народаў да яднання прадыктавана не толькі гістарычнай неабходнасцю, агульнасцю лёсаў, духоўнай блізкасцю, але і дакладна выражанымі эканамічнымі патрэбнасцямі, асабліва ўлічваючы ўзаемазалежнасць і ўзаемадапаўняльнасць гаспадарчых комплексаў Беларусі і Расіі.

Прэзідэнты даручаюць урадам дзвюх дзяржаў у месячны тэрмін падрыхтаваць праект дагавора, які б вызначаў прынцыпы і асноўныя напрамкі далейшага ўсебаковага збліжэння. Пры гэтым Прэзідэнты зыходзяць з таго, што ў аснову асноў павінна быць пастаўлена задача ўзгаднення праводзімых эканамічных рэформаў, сінхранізацыі і уніфікацыі нацыянальных заканадаўстваў, стварэння сумесных органаў дзяржаўнага кіравання, што дазволіць сфарміраваць агульны рынак тавараў і паслуг, капіталаў і рабочай сілы і забяспечыць роўныя ўмовы, магчымасці і гарантыі для дзейнасці суб'ектаў гаспадарання і свабоднага прадпрымальніцтва. Пры гэтым павінна быць дасягнута больш інтэнсіўная канцэнтрацыя вытворчых, фінансавых і працоўных рэсурсаў для рэалізацыі сумесных эканамічных праграм, дзяржаўнай падтрымкі развіцця вытворчай кааперацыі, стварэння транснацыянальных вытворчых аб'яднанняў, перш за ўсё фінансава-прамысловых груп. Асаблівая ўвага будзе ўдзелена ўзгадненню сацыяльнай палітыкі, гарманізацыі нацыянальных сістэм сацыяльнай абароны насельніцтва, выраўноўванню ўзроўняў пенсіённага забеспячэння, дапамог і льгот ветэранам вайны і працы, падтрымцы інвалідаў і малазабяспечаных сем'яў.

Прэзідэнты маюць намер расшыраць сферу сумеснай дзейнасці, перш за ўсё ў такіх галінах, як правы чалавека і грамадзяніна, кантакты паміж людзьмі, культурныя сувязі, адукацыя, навука, а таксама знешнепалітычная дзейнасць, рэгіянальная бяспека, ахова навакольнага асяроддзя, барацьба з арганізаванай злачыннасцю.

Прэзідэнты Беларусі і Расіі ўпэўнены ў тым, што паглыбленне супрацоўніцтва паміж дзвюма дзяржавамі як раўнапраўнымі суб'ектамі міжнароднага права служыць інтарэсам умацавання Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

*г. Масква, 27 лютага 1996 года*

**А. Р. ЛУКАШЭНКА. Б. М. ЕЛЬЦЫН.**

### ЯПОНСКІ ПРЭМ'ЕР ЖАДАЕ ДАЛЕЙШАГА ПРАЦВІТАННЯ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

**На імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі паступіла тэлеграма ад прэм'ер-міністра Японіі Рутара Хасімота.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў аддзеле друку і інфармацыі беларускага Міністэрства замежных спраў, у тэлеграме, у прыватнасці, пан Хасімота падзякаваў Аляксандру Лукашэнку за добрыя пажаданні, выказаныя ім у адрас прэм'ера ў сувязі з яго ўступленнем на пасаду. Кіраўнік Кабінета Міністраў Японіі выказаў надзею, што пастаяннае развіццё адносінаў паміж нашымі дзвюма краінамі і паглыбленне ўзаемаразумення паміж народамі Японіі і Беларусі будуць працягвацца і ў далейшым. А сам Рутара Хасімота мае намер уносіць свой належны ўклад у дасягненне гэтых мэтаў.У заключэнне японскі прэм'ер пажадаў здароўя і вялікіх поспехаў кіраўніку нашай дзяржавы і далейшага працвітання народу Беларусі.

**БЕЛТА.**

## «КРУГЛЫ СТОЛ» У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ ШУКАЎ ВЫЙСЦЕ З КРЫЗІСУ

**Усе размовы аб рэфармiраваннi прамысловасцi, якiя вялiся ў апошнiя пяць гадоў, да гэтага часу не далi нiякiх практычных вынiкаў. Гэта заява зроблена на праведзеным 27 лютага ў Вярхоўным Савеце Беларусi «круглым стале». Да размовы за iм былi запрошаны кiраўнiк парламента Сямён Шарэцкi, старшыня Камiсii па эканамiчнай палiтыцы i рэформах Васiль Шлындзiкаў, кiраўнiкi мiнiстэрстваў, дырэктары буйнейшых прадпрыемстваў, прадстаўнiкi дзелавых колаў краiны.**

З першых жа выступленняў стала ясна, што колькасць поглядаў на шляхi выхаду беларускай эканомiкi з крызiсу толькi крыху ўступае колькасцi ўдзельнiкаў сустрэчы. Напрыклад, рэктар Бабруйскага недзяржаўнага iнстытута кiравання Мiкалай Бабрыцкi лiчыць, што падтрымка буйных iндустрыяльных прадпрыемстваў сёння ажыццяўляецца за кошт збяднення асноўнай масы насельнiцтва, валавы нацыянальны прадукт сёння не забяспечвае i паловы мiнiмальнага пражытачнага мiнiмуму беларускiх грамадзян. Выйсце толькi ў хутчэйшым правядзеннi працэдур банкруцтва i санацыi iндустрыяльных гiгантаў. А паводле слоў прэзiдэнта Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыi Мiхаiла Лаўрыновiча, неадкладнае вяртанне да нарматыўнай базы былога СССР адразу дало б цалкам станоўчыя вынiкi. Вядомы беларускi эканамiст Макс Куняўскi заклiкаў прысутных не кiдацца ў крайнасцi, хоць i прызнаў, што асноўная прычына эканамiчнага крызiсу ў краiне — шматгадовае супрацiўленне рыначным пераўтварэнням. На яго думку, калi захаваюцца тэндэнцыi, якiя намецiлiся ў першыя месяцы 1995 года, то планы, намечаныя ўказам прэзiдэнта па прыпыненню знiжэння аб'ёмаў вытворчасцi, будуць пад пагрозай.

Прапанаваныя ўдзельнiкамi «круглага стала» практычныя меры аздараўлення эканамiчнай сiтуацыi таксама былi вельмi супярэчлiвыя. Напрыклад, прапаноўвалiся два спосабы вырашэння праблемы скрытага беспрацоўя, якое на некаторых прадпрыемствах дасягае 70 працэнтаў ад спiсачнай колькасцi рабочых. Адзiн спосаб прадугледжвае скарачэнне персаналу прамысловых гiгантаў за кошт павелiчэння колькасцi рабочых месцаў у сферы малога i сярэдняга бiзнесу, другi — стварэнне iнстытута «грамадскiх работ». Iншымi словамi, размова iдзе аб фармiраваннi брыгад па расчыстцы вулiц ад снегу, рамонту дарог i да т.п. з лiку беспрацоўных i персаналу прадпрыемстваў, што прастойваюць.

Кiраўнiкi Вярхоўнага Савета рэспублiкi ўважлiва аднеслiся да ўсiх прапаноў удзельнiкаў «круглага стала».

**Уладзiслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## ГЕНЕРАЛЬНЫ ДЫРЭКТАР ММВБ ШУКАЕ АПРАЎДАННЯ?

**Выступаючы ў нядзелю перад тэлегледачамi, Прэзiдэнт рэспублiкi Аляксандр Лукашэнка абмовiўся аб тым, што iм падпiсаны ўказ аб вызваленнi ад пасады генеральнага дырэктара Мiжбанкаўскай валютнай бiржы Уладзiмiра Бiрука.**

Матываваў свой крок Аляксандр Рыгоравiч у тым лiку i тым, што цяперашнi генеральны дырэктар — чалавек несумленны, бо кожны месяц атрымлiваў каля 25 мiльёнаў рублёў зарплаты. Зразумела, гэты факт выклiкаў пэўны рэзананс у дзелавых колах нашай краiны. Мы паспрабавалi высвятлiць цяперашнюю сiтуацыю вакол падзей на ММВБ.

Карэспандэнт газеты звязаўся з Уладзiмiрам Бiруком. Як высветлiлася з размовы, Уладзiмiр Рыгоравiч пакуль указа не бачыў, толькi чуў аб iснаваннi такога.

На пытанне аб памеры яго зарплаты, генеральны дырэктар бiржы адказаў, што «гэта было б нядрэнна», аднак гэты факт, на яго думку, у вялiкай ступенi перабольшаны.

Што датычыць пытання, як, на яго думку, складуцца ў далейшым справы кiраўнiка (ужо былога?) ММВБ, Уладзiмiр Рыгоравiч адказаў лiтаральна наступнае: «Я пакуль не магу даваць нiякiх каментарыяў. Я проста папрасiў у Прэзiдэнта ў сваёй запiсцы аб асабiстай сустрэчы для тлумачэння. Аднак заява аб маiх даходах не мае пад сабой глебы».

На жаль, атрымаць каментарый наконт абвiнавачанняў у адрас спадара Бiрука нi ў памочнiкаў Прэзiдэнта, нi ў аналiтычным цэнтры Адмiнiстрацыi Прэзiдэнта, нi ў Нацыянальным банку рэспублiкi карэспандэнту «Звязды» не ўдалося.

**Iгар ШЧУЧЭНКА.**



## ШАЛАДОНАВА ПРЫМУСІЛІ НАПІСАЦЬ ЗАЯВУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Аляксандр Дабравольскi звярнуў увагу калег на нядаўняе распараджэнне намеснiка кiраўнiка адмiнiстрацыi Уладзiмiра Замяталiна, якое ён накiраваў дэканам усiх ВНУ Беларусi з патрабаваннем прадаставiць да 7 сакавiка звесткi аб выкладчыках i навуковых супрацоўнiках. Так, У. Замяталiн патрабуе ўказаць акрамя анкетных даных i iнфармацыю аб падручнiках i манаграфiях, якiя былi iмi выдадзены ў 1991—1996 гадах, аб грамадскай дзейнасцi i партыйнасцi навукоўцаў, аб грантах i узнагародах, якiя яны атрымалi. А. Дабравольскi выказаў занепакоенасць, што такое распараджэнне можа прывесцi да праследавання супрацоўнiкаў ВНУ за палiтычныя перакананнi i зрабiў дэпутацкi запыт на iмя Адмiнiстрацыi Прэзiдэнта Мiхаiла Мяснiковiча, дзе запатрабаваў растлумачыць, у якiх мэтах збiраецца iнфармацыя i на падставе якога заканадаўчага акта. Потым месца на трыбуне заняў Вiктар Ганчар. Яго выступленне — гэта рэакцыя на абвiнавачанне Прэзiдэнта ў «крэдыце памерам у 200 тысяч долараў на будоўлю трох асабнякоў». З яго слоў i тлумачэнняў вынiкае, што iнфармацыя не адпавядае рэчаiснасцi. У заключэнне В. Ганчар звярнуўся да в. а. Генеральнага пракурора з патрабаваннем узбудзiць крымiнальную справу ў дачыненнi да Прэзiдэнта Рэспублiкi Беларусь Аляксандра Лукашэнкi па п. 2 артыкула 128 КК (паклёп, звязаны з абвiнавачаннем у цяжкiм злачынстве). У якасцi маральнай кампенсацыi В. Ганчар запатрабаваў 200 тысяч долараў i, упэўнены ў перамозе, паабяцаў перавесцi грошы на рахунак Маладзечанскага дзiцячага дома для дзяцей са слабым зрокам. А што дачытыцца асабнякоў, то заявiў наступнае: «Калi Прэзiдэнт знойдзе хоць адзiн, я аформлю на яго iмя даравальную». Дарэчы, В. Ганчар заявiў, што з учарашняга дня пачынае завочны палiтычны дыялог з А. Лукашэнкам i паабяцаў выступаць у «розным» штодзень.

На пленарным пасяджэннi парламент прадоўжыў работу над падатковым заканадаўствам. У прыватнасцi, дэпутаты разглядалi папраўкi ў законы аб падатку на даходы i прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў i арганiзацый, аб падатку на дабаўленую вартасць i iншыя.

А ў кулуарах па-ранейшаму абмяркоўвалi рашэнне Вярхоўнага Савета аб Пасланнi Канстытуцыйнага суда адносна стану канстытуцыйнай законнасцi. Дарэчы, ва ўчарашнiм нумары мы паведамiлi быццам парламент выступiў за дадатковыя паўнамоцтвы КС. На самай справе дэпутаты прынялi рашэнне, каб абмеркаваць гэтае пытанне iншым разам. Вось тады i будзе вядома, дадуць суду дадатковыя паўнамоцтвы цi не.

Пасля кароткага перапынку парламент вярнуўся да вырашэння кадравых пытанняў, у прыватнасцi, да вызвалення з пасады Генеральнага пракурора Рэспублiкi Беларусь Васiля Шаладонава i прызначэння на яго месца Васiля Капiтана, якi апошнiм часам выконваў абавязкi Генеральнага пракурора. Як вядома, мiнулай вясной В. Шаладонаў падаў на iмя Прэзiдэнта заяву аб адстаўцы, хаця па закону павiнен быў накiраваць яе ў Вярхоўны Савет. Неўзабаве ён быў прызначаны намеснiкам мiнiстра па справах СНД. Тады Вярхоўны Савет XII склiкання, якi знаходзiўся ў няёмкiм становiшчы, не афармiў законным чынам адстаўку пракурора. З-за гэтага i ўзнiклi ўчора недарэчнасцi i спрэчкi вакол працэдуры вызвалення сп. Шаладонава. «Калi пытанне толькi ў маёй заяве, то можаце лiчыць, што я прашу адстаўку зараз», — сказаў з трыбуны былы пракурор. Але гэта не задаволiла дэпутатаў. Намеснiк старшынi Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка папрасiў В. Шаладонава напiсаць заяву, як гэтага патрабуе закон, а В. Ганчар нават унёс прапанову адмянiць вынiкi галасавання па пастанове аб вызваленнi В. Шаладонава, якую Вярхоўны Савет без уважлiвага абмеркавання ўжо прыняў некалькi хвiлiн таму. Нямала было выказана папрокаў i ў адрас камiсii па нацыянальнай бяспецы i персанальна ў адрас Мiкалая Карпiевiча i нават прагучала прапанова вызвалiць яго ад пасады. Пасля невялiкай паўзы В. Шаладонаў у зале пасяджэнняў сесii напiсаў заяву. Затым дэпутаты адмянiлi вынiкi папярэдняга галасавання i дavailable падрыхтаваць камiсii новы праект пастановы, дзе была б спасылка на дату, калi В. Шаладонаў перастаў выконваць абавязкi Генеральнага пракурора — 18 мая 1995 года. Канчаткова вырашыць пытанне дэпутаты запланавалi на вячэрнiм пасяджэннi.

У другой палове дня дэпутаты прыступiлi да абмеркавання праекта закона «Аб упарадкаваннi некаторых льгот для асобных катэгорый грамадзян», але неўзабаве прыйшлi да высновы, што праект патрабуе дапрацоўкi. Затым дэпутаты вызвалiлi ад абавязкаў Генеральнага пракурора В. Шаладонава i 149 галасамi зацвердзiлi на гэтай пасадзе В. Капiтана

**Юрась ЛЯШКЕВIЧ.**

## «ФОРДУ» НА БЕЛАРУСІ БЫЦЬ

**Падыходзiць да канца дыскусiя аб тым, цi быць на Беларусi вытворчасцi аўтамабiляў «Форд». 27 лютага калегiя Кабiнета Мiнiстраў адобрыла прапанову Мiнiстэрства эканомiкi, распрацаваную з iншымi зацiкаўленымi мiнiстэрствамi, аб стварэннi ў рэспублiцы сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства па вытворчасцi аўтамабiляў маркi «Форд».**

Прадугледжваецца, што адным з заснавальнiкаў сумеснага прадпрыемства з беларускага боку выступiць Мiнiстэрства па кiраванню дзяржаўнай маёмасцю i прыватызацыi, а ўкладам у статутны фонд прадпрыемства стануць будынкi, збудаваннi i iншая маёмасць, размешчаная на прамысловай пляцоўцы вытворчага аб'яднання «Мiнскi трактарны завод» у Мiнскiм раёне. Пытаннi, звязаныя з падаткаабкладаннем, мытнымi пошлiнамi, акцызамi будуць вырашаны ўказам Прэзiдэнта ў адпаведнасцi з беларускiм заканадаўствам.

На пасяджэннi калегii разгледжана таксама праграма занятасцi насельнiцтва на 1996 год. Беспрацоўе названа праблемай з праблем для маладой рэспублiкi. Паводле даных балансу працоўных рэсурсаў колькасць занятых у народнай гаспадарцы рэспублiкi за апошнiя чатыры гады зменшылася на 452 тысячы чалавек. На 1 лютага 1996 года ўжо зарэгiстравана 143 тысячы беспрацоўных. Яшчэ вышэйшыя маштабы скрытага беспрацоўя. Устойлiвай тэндэнцыяй з'яўляецца павелiчэнне колькасцi жанчын у структуры непрацаўладкаваных. Iх доля складае 64,3 працэнта на канец мiнулага года. Пры гэтым кожная сёмая беспрацоўная жанчына — нядаўняя выпускнiца школы, ПТВ, тэхнiкума, ВНУ, кожная трэцяя — вызвалена па скарачэнню штатаў. Хутка расце i маладзёжнае беспрацоўе. У агульнай колькасцi тых, хто звярнуўся ў службу занятасцi, моладзь ва ўзросце да 29 гадоў складае 46,3 працэнта. Ужо сфармiраваўся слой грамадзян, якiя маюць перапынак у рабоце звыш года. На жаль, гэта тэндэнцыя захаваецца i на блiжэйшую перспектыву. Прадугледжваецца, што да канца года колькасць зарэгiстраваных беспрацоўных складзе 185 тысяч чалавек. Таму зацверджаная калегiяй Кабiнета Мiнiстраў праграма прадугледжвае значнае павелiчэнне сродкаў на прафесiянальную падрыхтоўку i перападрыхтоўку беспрацоўных, стварэнне новых рабочых месцаў, матэрыяльную падтрымку незанятага насельнiцтва.

Зацверджаны таксама асноўныя напрамкi энергетычнай палiтыкi Рэспублiкi Беларусь на перыяд да 2010 года. Яе галоўны змест — энергазберажэнне i знiжэнне энергаёмiстасцi выпрацоўваемай прадукцыi i, вядома, шляхi развiцця айчыннай энергетыкi.

**БЕЛТА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...КУПІЦЬ МАРОЖАНАЕ

**Апошнi дзень зiмы, але надвор`е такое, што здаецца, хавайся ў шубы, палiто, надзявай шапку, шарсцяныя шкарпэткi, хутайся ў шалiк, а людзi ядуць марожанае?!**

Так, так, менавiта нават у маразы можна было ўбачыць у Мiнску прахожых з гэтым ласункам. Можа, марожанае перайшло ў разрад самых танных прадуктаў?

Карэспандэнт «Звязды» вырашыў даведацца, колькi каштуе сёння марожанае.

Мiнскi холадакамбiнат № 2 прыводзiць такiя розначныя адпускныя цэны на марожанае з 1 лютага 1996 года: малочнае без напаўняльнiка вагавое — 1200 руб., фасаванае — 1400 руб., у шакаладнай глазуры — 2300 руб. Сметанковае ў сваю чаргу каштуе 1900 руб., з напаўняльнiкам фасаванае — 2000 руб., у шакаладнай глазуры — 2800 руб.

Пламбiр без напаўняльнiка — 2200 руб., фасаваны — 2300 руб., пламбiр у шакаладнай глазуры — 3100 руб; пламбiр з напаўняльнiкам вагавы — 2200 руб., фасаваны — 2400 руб.

Можна набыць таксама торт-пламбiр вагой 1 кг коштам 34.200 руб.

**Аляксандр ВАСIЛЕЎСКI.**

## ЖЫЦЬ СТАЛІ ЛЕПШ, ЖЫЦЬ СТАЛІ ЗДАРАВЕЙ

**Як паведамiла загадчыца процiэпiдэмiчнага аддзялення Мiнскага гарадскога цэнтра гiгiены i эпiдэмiялогii Святлана Крэтава, агульная колькасць захворванняў у сталiцы ў мiнулым месяцы знiзiлася на 62 працэнты ў параўнаннi ў аналагiчным перыядам 1995 года.**

У той жа час назiраўся нязначны рост (у 1,2 раза) выпадкаў захворвання на вострыя кiшэчныя iнфекцыi: 307 чалавек супраць мiнулагоднiх 254. На дызентэрыю перахварэў 81 чалавек (у студзенi 1995-га — 28).

Ад сальманелёзу пацярпелi 38 чалавек (студзень 1995 -га — 111) — знiжэнне захворвання на 66 працэнтаў.

За ўказаны перыяд зарэгiстраваны 21 выпадак захворвання на вiрусны гепатыт А (знiжэнне на 36 працэнтаў), В — 18 выпадкаў (знiжэнне на 38 працэнтаў), эпiдэмiчны паратыт — 351 (знiжэнне на 25 працэнтаў).

Мiнгакокавая iнфекцыя таксама нязначна «пацяснiлася»: 12 выпадкаў у 1996 г. i 16 — у мiнулым.

Затое грып «падхапiлi» 26.670 чалавек (павелiчэнне на 143 працэнты).

Менш хварэлi на шкарлятыну (на 57 працэнтаў), ветраную воспу (на 71 працэнт), краснуху (на 79 працэнтаў).

Акрамя таго, на 43 працэнты знiзiлася колькасць хворых на ганарэю, на 9 працэнтаў — на каросту, на 20 працэнтаў — педыкулёз, на 38 працэнтаў — на мiкраспарыю.

**Надзея НIКАЛАЕВА.**

*ВОСТРЫ СІГНАЛ*

## ЛІХТАРЫ ГАРАЦЬ І ПРЫ СВЯТЛЕ СОНЦА

**Учора ў рэдакцыю патэлефанаваў мiнчанiн Л., якi пражывае ў мiкрараёне Чыжоўка i расказаў дзiўную гiсторыю пра тое, чаму мы бедна жывем.**

Ён не адзiн дзень ходзiць пешшу на работу па кальцавой дарозе на завод колавых цягачоў i сэрца яго аблiваецца крывёю з-за таго, што на яго шляху суткамi гараць дарожныя лiхтары, нават пры яркiм святле сонца. Прыкладны маршрут — ад моста цераз Свiслач, якi знаходзiцца памiж Чыжоўкай i аўтазаводам i аж да чыгуначнага моста ў напрамку ад аўтазавода да мiкрараёна Шабаны.

Рабочы МЗКЦ не змог дакладна ў рублях падлiчыць, колькi дарэмна «матаюць» лiхтары, колькасць якiх больш за 70, а магутнасць кожнага (прыкладная) — 800 Вт. Безгаспадарчасць гарадскiх службаў сталiцы, як кажуць, у наяўнасцi.

На жаль, сёння можна ў многiх раёнах сталiцы назiраць такую карцiну. А што, калi не адстаюць ад Мiнска ў гэтым плане «лiхтарныя службы» iншых гарадоў рэспублiкi?..

**Уладзiмiр ЗДАНОВIЧ.**

*ГОРШ І НЕ ПРЫДУМАЕШ*

## ГОРКІ ПРЫСМАК ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**У апошнi час даволi часта можна пачуць, што ў рэспублiцы кепска iдзе прыватызацыя. Мы «ўключылiся ў гэты працэс» i цяпер зусiм не рады.**

Жывём мы ў трохкватэрным аднапавярховым доме. Раней ён адносiўся да жыллёвага фонду Жлобiнскага раённага вузла сувязi (РВС). Па настойлiвасцi яго адмiнiстрацыi (кiраўнiк нават папярэдзiў: «Калi не прыватызуеце, прыватызую я, i пойдзеце на вулiцу») у 1994 годзе мы прыватызавалi гэтыя кватэры. Плату за карыстанне цяплом i вадой уносiлi, як i раней, у касу РВС. Але сёлета ў студзенi ён распаўся на дзве ўстановы: раённы вузел электрасувязi i раённы вузел паштовай сувязi. Наш дом не быў узяты на баланс нiводным з iх. Затое ў месячны тэрмiн нам прапанавалi заключыць дагавор аб ацяпленнi са Жлобiнскiм лакаматыўным дэпо. I вось тут мы адчулi ўсю «асалоду» ад таго, што значыць быць уласнiкам. Калi звярнулiся ў лакаматыўнае дэпо (дом ацяпляецца ад яго кацельнi), то пачулi: вы павiнны заплацiць за ацяпляльны сезон 45 мiльёнаў рублёў. Гэта болей, як 2 мiльёны за кожную кватэру ў месяц. Не, дык абрэжуць трубы i паставяць заглушкi. Карацей кажучы, да канца сезона нас будуць ацяпляць, а калi не заплацiм, адключаць ад трасы. Сумняваемся ў законнасцi такой умовы (ведаем, што насельнiцтву цяпло павiнна прадавацца зусiм па iншых цэнах), але як дабiцца праўды? Мы з мужам iнжынеры. Я зараз знаходжуся ў дэкрэтным водпуску, маем дваiх дзетак. Добра, калi мы на ўсю сям'ю атрымаем мiльён рублёў, а дзе ж узяць два? У нашых суседзяў грошай таксама не нашмат болей.

Нас супакойваюць: праводзьце газ. Але дзе ўзяць 1000 долараў, каб перарабiць усю сiстэму ацяплення, купiць кацёл, калонку, трубы? Мы ведаем, не плацяць жа такiя грошы жыхары прыватызаваных кватэр у дзяржаўных дамах i ўладальнiкi кааператыўнага жылля. Чым мы адрознiваемся ад iх? Нiхто з нас не працуе ў камерцыi, а ўсе ў дзяржсектары. Мы з мужам работнiкi таго ж вузла электрасувязi. Чаму з намi так абыходзяцца?

**Святлана КЕДРЫК.**

г. Жлобiн.

*З нагоды прыняцця Пастановы ВС «Аб пасланні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь «Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 1995 годзе» карэспандэнты «Звязды» гутараць з тымі, хто прыняў актыўны ўдзел у абмеркаванні пытання, — дэпутатамі Віктарам ГАНЧАРОМ і Уладзімірам НІСЦЮКОМ.*

## Віктар ГАНЧАР: «Матывы маёй дзейнасці ў Вярхоўным Савеце — чыста грамадзянскія»

**— ВІКТАР ІОСІФАВІЧ, як, на ваш погляд, будзе рэалізоўвацца пастанова Вярхоўнага Савета, толькі што прынятая парламентам, і ці сапраўды яна паспрыяе ўсталяванню канстытуцыйнай законнасці ў нашай дзяржаве?**

— Змест пастановы Вярхоўнага Савета ў многім вынікае са зместу паслання Канстытуцыйнага суда, і большасць пунктаў пастановы з'яўляецца фактычнай рэалізацыяй прапаноў КС. Я звярнуў бы ўвагу на некаторыя прынцыповыя, на мой погляд, палажэнні, што ўтрымліваюцца ў пастанове, якія павінны забяспечыць канкрэтны механізм рэалізацыі законнасці ў нашай краіне. У прыватнасці, ключавым пунктам з'яўляюцца даручэнні Камісіі па заканадаўству распрацаваць такога роду механізм, уключаючы адказнасць за невыкананне Канстытуцыі, законаў і рашэнняў Канстытуцыйнага суда. Я думаю, што гэта прынцыповы пункт, які прымусіць многіх службовых асоб задумацца, перш чым ісці на парушэнне дзеючых законаў і на прамое невыкананне рашэнняў Канстытуцыйнага суда. Частка пунктаў пастановы датычыць прывядзення ў адпаведнасць заканадаўства з рашэннямі КС, што былі прыняты летась. Нарэшце, хачу адзначыць адпаведнае даручэнне камісіям Вярхоўнага Савета ўнесці на разгляд сесіі пытанне аб тлумачэнні асобных артыкулаў Канстытуцыі. Гэта шлях да таго, каб дакладна размежаваць паўнамоцтвы галін улады...

**— Аднак А. Лукашэнка днямі заявіў, што ён не дазволіць «уразаць» яго паўнамоцтвы. Як тут можна захаваць канструктыўны падыход?**

— Вярхоўны Савет можа забяспечыць захаванне канструктыву толькі адным шляхам: калі ён сам без эмоцый, без напальвання страсцей, хаця яго падштурхоўваюць да гэтага, будзе жорстка прытрымлівацца закону і гэтак жа жорстка адстойваць любыя спробы іх парушэння. Я лічу, што Вярхоўны Савет якраз і стаіць на такіх пазіцыях. Што датычаць заяў, якія, мякка кажучы, супярэчаць Канстытуцыі, то я не магу іх каменціраваць. З другога боку, я ўпэўнены, што калі ВС будзе займаць такую пазіцыю, то Прэзідэнту вельмі складана будзе ёй нешта проціпаставіць. Тыя эмоцыі, якія дэманструе А. Лукашэнка падчас двух сваіх апошніх выступленняў, ужо выяўляюць гэта.

**— І ўсё ж, ці не стане сённяшняя пастанова ВС прадметам для калізіі паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі? Хаця б па пытанні аб Канстытуцыйным судзе як такім: вы прапануеце расшырыць паўнамоцтвы КС, а Прэзідэнт — увогуле скасаваць яго...**

— Мяне здзіўляе нават сама пастаноўка такіх пытанняў... Я не думаю, што ў дзяржавы ёсць нейкія перспектывы, калі вышэйшыя службовыя асобы стануць на шлях знявагі Канстытуцыі і законаў. Калі браць рэальныя механізмы ў гэтай праблеме, то Вярхоўны Савет прапаноўвае шлях у рамках дзеючай Канстытуцыі і заканадаўства. І мы яго рэалізуем. Пастаноўка ж пытання аб скасаванні КС незразумелая і з пункту гледжання Канстытуцыі і законаў, і з пункту гледжання здаровага сэнсу, бо ніякіх альтэрнатыўных прапаноў, акрамя меркавання аб усенародным выбранні суддзяў, якое нельга нават ацаніць, — няма. Калі Прэзідэнт вынесе пытанне на рэферэндум, то яго фармулёўка будзе зацвярджацца Вярхоўным Саветам. І калі Вярхоўны Савет вынясе сваю альтэрнатыўную фармулёўку, я ўпэўнены, што ў насельніцтва хопіць здаровага сэнсу і разумення сітуацыі, каб падтрымаць захаванне ў нашай краіне канстытуцыйнасці і законнасці. Дарэчы, у апошні час, нягледзячы на адсутнасць інфармацыі, адбываецца зрух у масавай свядомасці. Як паказваюць мае сустрэчы з выбаршчыкамі, людзі ўжо гатовы ў выпадку, калі будзе працягвацца знявага Канстытуцыі і законаў, ствараць грамадскія камітэты ў абарону Канстытуцыі.

**— Віктар Іосіфавіч, дазвольце некалькі пытанняў больш прыватнага характару. Як усё-такі тлумачыцца, што вы, былы паплечнік А. Лукашэнкі па выбарах, сталі адным з самых яркіх і прынцыповых яго апанентаў у Вярхоўным Савеце? Ці няма тут нейкіх асабістых матываў?**

— Я магу падтрымаць Прэзідэнта толькі ў тым, што я сапраўды не ўдзельнічаў у яго выбарчай кампаніі. Таму да паплечнікаў я магу прылічвацца даволі ўмоўна. Сапраўды, мы маральна падтрымлівалі А. Лукашэнку настолькі, наколькі былі ўпэўнены, што гэта адзіны тады кандыдат, які мог тарпедаваць прагнілую ўладу і папярэдні рэжым. Далей гэтага мая падтрымка ніколі не ішла. Што датычыць кароткатэрміновага знаходжання ў яго камандзе, то мае матывы прыходу былі зразумелымі і відавочнымі. Я заўсёды з павагай ставіўся да любога выбару насельніцтва. А тым больш выбару, які не меў прэцэдэнтаў у пасляваеннай Заходняй Еўропе... Аднак я хутка ўпэўніўся, што ў гэтай камандзе не проста цяжка працаваць, але і небяспечна, бо, па-першае, каманда характарызавалася поўным непрафесіяналізмам, а па-другое, каманда гэтая стала на шлях знявагі закона. Таму я хутка пакінуў гэтую каманду... Што датычыць матываў маіх паводзінаў цяпер — то яны чыста грамадзянскія, паколькі кожны разумее, што можа ісці за такім развіццём сітуацыі. Там, дзе не выконваецца закон, вынікі заўсёды аднолькавыя: хаос і свавольства. Для любой краіны выкананне закона — святы абавязак кожнага грамадзяніна, і калі ён парушае закон, то ён называецца правапарушальнікам, незалежна ад таго, якую пасаду ён займае...

**— Тым не менш, відавочна, што такая ваша дзейнасць ужо выклікала негатыўную рэакцыю з боку А. Лукашэнкі, калі ён заявіў 26 лютага аб фактах вашай асабістай карупцыі, аб трох асабняках...**

— Ведаеце, яшчэ ні разу ніводная заява Прэзідэнта аб карупцыі не была наглядна і рэальна пацверджана... Я адказаў бы на ваша пытанне пытаннем маёй жонкі: «Пакажы мне, калі ласка, гэтыя тры асабнякі...» Відаць, асновай для падобнага роду неабгрунтаваных заяў паслужыў рэальны факт, які, аднак, не даваў ніякіх падстаў для такіх дзікіх заключэнняў...

А факт быў такі: я, як былы супрацоўнік Інстытута народнай гаспадаркі, атрымаў зямельны ўчастак, які зарастаў пустазеллем, і мне на праўленні выказалі патрабаванне, каб я яго неяк выкарыстоўваў. Але тады ні ў мяне, ні ў сям'і не было на гэта ні магчымасцей, ні грошай, ні жадання. І я дамовіўся саступіць гэты ўчастак калегу. А паколькі зямлю тады перадаць было нельга, а толькі нейкую пабудову — таму я ўзяў крэдыт на будаўніцтва фундамента, які я на працягу паўгода і вярнуў. Новым уладальнікам участка з'яўляецца Анатоль Быкаў, вельмі добра знаёмы А. Лукашэнку, бо падчас выбарчай кампаніі апошні карыстаўся яго машынай...

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Уладзімір НІСЦЮК: «Мы павінны стаць узорам для выканаўчай улады»

**— Уладзімір Пятровіч, вы задаволены вынікамі абмеркавання паслання?**

— Так, я лічу, што Вярхоўны Савет рацыянальна, стрымана і дэталёва разгледзеў Пасланне Канстытуцыйнага суда. На жаль, мы не ведаем, як адрэагаваў на гэты дакумент Прэзідэнт, але ў сваёй пастанове мы адзначылі магчымасць ініцыіравання сумеснай сустрэчы прадстаўнікоў усіх галін улады, каб Прэзідэнт, Старшыня Вярхоўнага Савета, старшыня Канстытуцыйнага суда, кіраўнікі ўсіх вышэйшых судовых структур агульнымі намаганнямі вярнуліся да паслання, абмеркавалі яго і прынялі механізм рэалізацыі вывадаў, якія зрабіў суд. Прынамсі, прапаноўваліся два праекты першага пункта пастановы: пагадзіцца з вывадамі суда і прыняць іх да ведама (гэта прапаноўваў Юрый Малумаў). Я задаволены, што дэпутаты падтрымалі першую прапанову, за якую галасаваў і я. У цэлым я рады, што суд знайшоў у парламенце падтрымку.

**— Такім чынам, гэтая пазіцыя дэпутатаў знімае і размовы аб магчымай ліквідацыі Канстытуцыйнага суда?**

— Калі мы хочам стаць цывілізаванай краінай, то трэба будаваць і цывілізаваную палітычную структуру. Канстытуыйныя суды існуюць у большасці краін і з'яўляюцца абавязковым суб'ектам дэмакратычнай прававой дзяржавы. Іншая справа, што можа шляхам унясення змен у Канстытуцыю трэба даць суду нейкія дадатковыя паўнамоцтвы ці, наадварот, частку іх забраць. Дарэчы, сёння многія гавораць аб вынясенні Канстытуцыі на агульнарэспубліканскі рэферэндум. На жаль, зараз наш беларускі народ, пры вялікай маёй павазе да яго, не ў стане самастойна вырашыць свае адносіны да такіх складаных рэчаў. Давайце глядзець на прыкладзе мінулага рэферэндуму, праціўнікам якога я быў. Людзі галасавалі не за перакананні, а пераважна пад уплывам эмоцый. Таму вельмі хацелася б, каб спачатку пачаўся палітычны і эканамічны лікбез, каб народ разбіраўся хаця б у элементарных рэчах.

**— Дарэчы, як бы вы ацанілі з пункту гледжання канстытуцыйнасці апошнія выказванні Прэзідэнта адносна «наведзення парадку ў банкаўскай сферы»?**

— Лічу, што Аляксандр Рыгоравіч не заўсёды паслядоўны ў сваіх дзеяннях. У гэтым яго бяда. Спачатку ён кажа аб падтрымцы прадпрымальнікаў, а потым губіць банкаўскую сістэму, якая з'яўляецца стрыжнем прадпрымальніцтва. Так званае адзяржаўленне банкаў выбівае аснову дзейнасці многіх сур'ёзных структур: яны не будуць верыць у стабільнасць гэтых банкаў, не панясуць туды свае грошы. Такія антырынкачныя крокі адначасова адпужваюць замежных інвестараў, якія сёння часта нават гарантыям урада не вераць. Таму я мяркую, што такая непаслядоўнасць ударыць яшчэ больш па нашым незайздросным эканамічным становішчы.

**— Вы не аднойчы выказвалі заўвагі па рабоце Вярхоўнага Савета. А сёння ўжо нярэдка можна пачуць, што парламент стаў падобным на ранейшы, працуе марудна і неэфектыўна.**

— Хачу сказаць, што ў нас шмат тэхнічных, арганізацыйных, матэрыяльна-фінансавых праблем. І ў іх з'яўленні вінавата хутчэй выканаўчая ўлада, якая забрала пад сваю апеку тыя матэрыяльныя каштоўнасці, якія раней былі на балансе Вярхоўнага Савета. Мне сорамна казаць, але няхай людзі ведаюць, што нашы дэпутаты, мусіць, самыя бедныя. Пачнём з дробязей. Мне як намесніку старшыні пастаяннай камісіі па лініі матэрыяльнага забеспячэння выдалі палову пачка паперы, два алоўкі і шарыкавую ручку, усё астатняе мне прыйшлося прынесці сваё. Так, у нас шмат жадання працаваць, энергіі, энтузіязму, але... Толькі днямі зацверджана зарплата тых, хто працуе на пастаяннай аснове, са службовым жыллём да гэтага часу праблема не вырашана. Той дом, які Вярхоўны Савет будаваў для дэпутатаў, хутчэй за ўсё, будзе аддадзены Прэзідэнтам навукоўцам. Ды і наўрад ці можна нас папракнуць у маруднасці і неэфектыўнасці. Тое, што мы дэталёва працуем над падаткамі, трэба, наадварот, вітаць. Мы не імкнёмся правакаваць процістаянне з Прэзідэнтам, хаця нас абвінавачваюць у гэтым. Разумею, што людзі чакаюць ад парламента законаў, а не валтузні. Таму і будзем імкнуцца да гэтага, каб стаць узорам і для выканаўчай улады.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*ПРА НАБАЛЕЛАЕ*

## Адраджэнне без нацыянальнай адукацыі — фікцыя

З высокаэрудзіраванай навукова-педагагічнай інтэлігенцыяй, здаецца, у нас аніякай праблемы не існуе. Цяпер у сферы асветы працуе велізарная колькасць кандыдатаў і дактароў навук. Радуе, што апошнім часам у нас множацца шэрагі правадзейных членаў і членаў Беларускай акадэміі адукацыі (БелАА). І калі ўлетку мінулага года ў сродках масавай інфармацыі з'явіліся паведамленні, што моўны рэжым у агульнаадукацыйных школах будзе вызначацца не адпаведнымі кампетэнтнымі дзяржаўнымі органамі, а спантанна, праз жаданне бацькоў, дык нам здавалася, што вышэйпералічаныя элітарныя катэгорыі педагогаў-навукоўцаў будуць ладзіць чэргі ля кабінетаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета, Старшыні Кабінета Міністраў, Міністэрства асветы, каб давесці гэтым высокім асобам, што ў нашай няпростай, супярэчлівай сітуацыі мова навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах павінна быць функцыяй толькі дзяржаўных органаў, інакш загубім беларускае нацыянальна-культурнае Адраджэнне, не забяспечым парытэту беларускай і рускай моваў у гэтым звяне народнай адукацыі, як таго патрабаваў майскі рэферэндум 1995 года.

Гэтак яно і выйшла на справе: нідзе так не парушана моўная пазіцыя рэферэндуму, як у сферы адукацыі. Усяго гэтага магло б не быць, каб элітарная частка навукова-педагагічнай інтэлігенцыі не праявіла такой пасіўнасці, каб своечасова забіла ў набат, клічучы палітыкаў не губіць кволыя парасткі беларускай нацыянальнай школы. Іх мы практычна загубілі. Вельмі добра было б, каб такая шкодная пасіўнасць, абыякавасць да беларускай нацыянальнай адукацыі не былі ўласцівы новым, абраным у студзені, гэтага года, правадзейным членам і членам-карэспандэнтам БелАА. Бо калі колькасць такіх паважаных педагогаў-навукоўцаў будзе расці, а нацыянальная адукацыя занепадаць, дык, чаго добрага, у людзей можа скласціся ўражанне, што планамернае, інтэнсіўнае развіццё Беларускай акадэмічнай педагагічнай навукі адбываецца ў нас зусім не ў інтарэсах беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, а хутчэй наадварот.

Мы спецыяльна яшчэ задоўга да заканчэння чарговага навучальнага года выносім на абмеркаванне грамадскасці праблему нацыянальнай адукацыі, бо толькі пачынаючы рабіць канкрэтныя крокі ўжо сёння, можна будзе дасягнуць чагосьці пазітыўнага ў дадзенай лёсавызначальнай для беларускага народа справе да таго, як моладзь зноў пойдзе 1 верасня гэтага года на вучобу. І развязаць дадзеную праблему трэба ўжо пачынаючы з 1996/97 навучальнага года праз пераўтварэнне хаця б дзвюх-трох рускамоўных вышэйшых навучальных установаў у беларускамоўныя. Прычым аніякія спасылкі на аб'ектыўныя ці суб'ектыўныя цяжкасці, перашкоды не павінны брацца пад увагу. Нам ніколі не дачакацца такой пары, што яны возьмуць ды знікнуць самі па сабе, — іх проста трэба рашуча пераадолець. Выбраныя для пераводу на беларускую мову навучання вышэйшыя навучальныя ўстановы павінны быць укамплектаваны адданымі ідэі беларускай нацыянальнай адукацыі кіраўнікамі, пачынаючы ад дэканаў, загадчыкаў кафедраў і канчаючы рэктарам.

У тых жа вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, дзе беларуская мова будзе ўводзіцца на год-два пазней, трэба моладзі даць такі аб'ём ведаў па дадзеным прадмеце (гэтага можна дасягнуць найперш праз выкладанне шэрага дысцыплін па-беларуску), каб кожны мог вольна размаўляць і пісаць на ёй. Бо няздольнасць нашых людзей старэйшых, сярэдніх і малодшых пакаленняў падтрымліваць між сабою кантакты на беларускай мове ёсць самы пераканаўчы доказ недасканаласці нашай учарашняй і сённяшняй сістэмы народнай адукацыі.

Зразумела, пераход не на словах, а на справе да беларускай нацыянальнай адукацыі запатрабуе прыняцця і шэрагу іншых практычных захадаў. Але магчымасць выказацца па іх хочацца пакінуць за іншымі. У дадзенай праблемы няма недахвату ў зацікаўленых асобах як з боку палітыкаў, інтэлігенцыі, так і саміх радавых людзей. Таму што ад яе вырашэння цалкам залежыць, быць беларусам да канца асіміляваным, ці ўсё ж самабытным этнасам.

**Ефрасіння АНДРЭЕВА, доктар педагагічных навук, прафесар.**
**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар.**

*ЗДАРОЎЕ*

## ЖЫЦЦЁ — ПРАЦЭС ПАМІРАННЯ?

**Магілёўскі абласны сацыялагічны цэнтр апублікаваў вынікі даследавання ўзроўню занепакоенасці сваім здароўем жыхароў раёнаў, пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы. У прэамбуле вучоныя адзначаюць, што часам хворыя па медыцынскіх паказчыках людзі ўяўляюць сабой эталон актыўнасці і аптымізму, а ў іншых выпадках можа быць стан хранічнай дэпрэсіі ў абсалютна здаровых. Так што медыцынскія і сацыялагічныя параметры здароўя людзей супадаюць далёка не заўсёды.**

Што выявілася на гэты раз?

З трывогай думаюць аб сваім здароўі 78 працэнтаў апытаных. Тры чвэрці рэспандэнтаў занепакоены здароўем сваіх дзяцей, прычым нават у адносна чыстых раёнах. Добрым назвалі самаадчуванне толькі 7,7 працэнта ўдзельнікаў апытання.

Сярод фактараў, якія скарачаюць жыццё, людзі лічаць галоўнымі радыяцыйнае забруджванне і зніжэнне даходаў. Апошняя акалічнасць пазбаўляе іх магчымасці змяніць месца жыхарства. Паказальна, што ўзрост як фактар пагаршэння здароўя аказаўся толькі на сёмым месцы.

«Чарнобыльцы» Магілёўшчыны, падобна, пацвярджаюць сумны афарызм Льва Талстога: жыццё ёсць працэс памірання.

Але як жыць з такім настроем?

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# ПАГОСТ, ЯК ЛЮСТЭРКА НАШАГА ЖЫЦЦЯ

**Бывае, цяжкае жыццё пражыў чалавек, але перад смерцю дае радні наказ, каб пахавалі яго з музыкай, альбо просіць, каб на памінках стаяла толькі магазінная гарэлка.**

А адзін стары, яшчэ задоўга да смерці, наказаў дзецям, каб паклалі яго ў труну, якую сам зрабіў. Калі ж бацька памёр, прыехалі сыны, дасталі з гарышча дамавіну і вырашылі абцягнуць чорнай тканінай. Тут і ўбачылі, што труна з двайным дном, якое акуратна ўслана савецкімі рублямі ды траякамі.

У кожнага сваё жыццё і смерць свая. Ды і ў апошні шлях праводзяць нябожчыка неаднолькава. Сёння пахаванне па самаму нізкаму разраду абыходзіцца радні ў пару мільёнаў. А ўпарадкаванне магілы каштуе значна даражэй, бо калі нябожчык трапіў на могілкі, то ўступае ў сілу адно няпісанае правіла: помнік на магіле павінен быць «...як у людзей... каб не смяяліся... не паказвалі пальцам...» І радня імкнецца ўладкаваць апошні прытулак блізкага чалавека на свой густ і лад. Разуменне прыгожага найчасцей звязваецца з колькасцю патрачаных на надмагілле грошай.

Чыста гранітная пліта каштуе 6 млн.рублёў, а ўвесь помнік абыдзецца каля дзесяці мільёнаў. На пагостах пануюць безгустоўнасць і пампезнасць. Не любяць у нас яснасці і стройнасці. І тут не важна: вясковыя гэта могілкі ці сталічныя, прэстыжныя.

Модным стала выбіваць на граніце партрэты нябожчыкаў ці нават цэлыя карціны. З асаблівай любоўю, не лічачыся з затратамі, бацькі ўпрыгожваюць магілы сваіх дзяцей. Замілаванне могуць выклікаць вершаваныя радкі на помніку ці папяровыя кветкі на магіле, але тут ёсць адзін істотны момант.



Амаль ніхто ў нас не займаецца на прафесіянальным узроўні вырабам помнікаў, уладкаваннем магіл. Чалавек пакінуты сам-насам са сваімі праблемамі. Майстры па вырабу помнікаў нічога параіць не могуць, бо яны ўмеюць найперш рэзаць і шліфаваць камень, а не думаць над прапорцыямі і формай помнікаў. Іх цікавіць у першую чаргу фінансавы бок справы.

Відавочна, тут магла б сказаць сваё слова царква і растлумачыць, што справа не ў вышыні стэлы на магіле, што на могілках усе роўныя і г. д. Але задача нашых святароў зводзіцца толькі да адпявання. Адслужыў паніхіду, атрымаў грошы, а што стаяць будзе на магіле — клопат радні.

Улады апошнім часам забаранілі акружаць магілы агароджамі, але гэта датычыцца толькі могілак у буйных гарадах. А ў раённых цэнтрах ды вёсках ставяць агароджы з падсобнага матэрыялу, з таго, што трапляецца пад руку. Пра нейкую гармонію тут гаварыць не прыходзіцца. Пруты, металічныя высечкі, вугалкі ствараюць эклектрычныя ўзоры. І фарбуюць агароджы ў зялёны, блакітны, белы колер.

Усё ў жыцці цесна звязана. І могілкі фактычна адлюстроўваюць наша грамадства. Пахадзіўшы сярод помнікаў, можна беспамылкова сказаць пра стан культуры народа, яго рэлігійную прыналежнасць і г. д. Пагосты Беларусі сведчаць, што беларуская мова ў заняпадзе. Што ёй няма месца нават на могілках. Практычна ўсе надпісы на помніках зроблены па-руску ці па-польску.

Міжвольна звяртаеш увагу, што на каталіцкіх могілках больш парадку і чысціні. І людзі ўладкоўваюць могілкі ў цэлым, а не толькі магілы сваіх блізкіх. На праваслаўных жа прыходзіцца бачыць, калі чалавек, згробшы смецце са «сваёй» магілы, кідае на суседнюю, асабліва калі яна старая.

Цікава, што паступова радня забывае дарогу да магіл памершых. Найчасцей наведваюць бацькі магілы дзяцей. У адносінах жа да бацькоў дзеці больш стрыманыя. І лёгка можна прасачыць, што гадоў праз трыццаць—пяцьдзесят на магіле пануе запусценне. Унукі рэдка ўспамінаюць сваіх дзядуль і бабуль.

На мой погляд, ідэальнымі і з фінансавага, і з эстэтычнага боку былі б могілкі, якія ўладкоўваліся б па прынцыпу прастаты і далікатнасці. На зялёным газоне праз пэўны інтэрвал аднолькавыя помнікі. І гэтаму нам трэба павучыцца ў амерыканцаў. Практычнасць у іх не на апошнім месцы. А пры нашай беднасці не выкарыстаць гэта грэх. Праўда, да гэтага ў нас наўрад ці дойдуць рукі, да таго ж нам усё яшчэ важна і што людзі скажуць...

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ*

# СПАДЧЫНА ПА ЗАВЯШЧАННЮ. КАМУ ЯНА НАЛЕЖЫЦЬ?

***Пытанні аб праве на спадчыну важныя, бываюць вельмі заблытаныя і зусім не выпадкова яны цікавяць многіх нашых чытачоў.***

***Сёння на іх адказвае натарыус Раіса Мікалаеўна Лукашэвіч.***

**— Пасля смерці маёй бабулі засталася прыватызаваная кватэра, дача і іншая маёмасць. Кватэру яна завяшчала маёй сястры. Каму павінна дастацца астатняя маёмасць? Лічу, што сястра сваё ўжо атрымала, а іншых наследнікаў няма.**

— Частка маёмасці, якая засталася незавешчанай, дзеліцца паміж наследнікамі па закону. У іх лік уваходзяць і тыя, якім другая частка маёмасці была пакінута па завяшчанню.

У дадзеным выпадку дача і іншая маёмасць (акрамя кватэры) будзе падзелена пароўну паміж вамі і вашай сястрой.

**— Чуў кансультацыю юрыста, які ўпамінаў аб абавязковай долі ў спадчыне. Хто мае права на гэту долю?**

— Згодна з арт. 530 Грамадзянскага кодэкса, незалежна ад таго, што напісана ў завяшчанні, некаторыя асобы будуць мець пэўную долю ў спадчыне. Яна павінна складаць не менш як дзве трэці той долі, якая належала па закону. Да іх адносяцца: непаўналетнія ці непрацаздольныя дзеці (у тым ліку ўсыноўленыя), непрацаздольныя муж ці жонка, бацькі (усынавіцелі) і ўтрыманцы памёршага.

Можна прывесці такі прыклад. Іваноў завяшчаў усю сваю маёмасць дачцэ. Пасля яго смерці на спадчыну пачаў прэтэндаваць і сын, якому на дзень смерці бацькі было ўжо 60 гадоў. Паколькі іншых наследнікаў няма, сын атрымае трэць маёмасці бацькі, таму што ён мае права на абавязковую долю, пра якую мы вядзём размову.

**— Як перадаюцца ў спадчыну прадметы хатняга ўжытку, напрыклад, мэбля?**

— Прадметы звычайнай хатняй абстаноўкі і побыту па закону пераходзяць да наследнікаў, якія пражывалі сумесна са спадчынадаўцам да яго смерці не менш аднаго года. Але калі ёсць завяшчанне на ўсю маёмасць, то гэтыя прадметы і пяройдуць да наследнікаў па завяшчанню.

— Яшчэ да вайны мой бацька ажаніўся ў другі раз. У 1944 годзе яго і мачаху адправілі ў Германію, і вярнуліся яны пасля вайны. Бацькоў я дагледзеў да самай іхняй смерці.

**Яшчэ пры жыцці мачахі ёй паступілі грошы ад фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне». Гэтыя грошы мы пакінулі ў банку, і мачаха склала завяшчанне, даўшы мне права распараджацца імі на працягу трох гадоў. Грошы ў хуткім часе давялося зняць (спатрэбіліся на лякарствы), і завяшчанне ў мяне забралі. Таму, калі пасля яе смерці на рахунак паступілі дадатковыя маркі, мне іх не выдалі: сказалі, што завяшчанне парвалі, і запатрабавалі дакументы, якія пацвердзілі б сваяцтва. Атрымліваецца, што я не наследнік?**

— Мяркуючы па пісьму, вам была выдадзена даверанасць на распараджэнне рахункам, якая ў сувязі са смерцю даверніка страціла сілу.

Калі ж дапусціць, што было складзена завяшчанне, то яго дублікат можна атрымаць там, дзе яго засведчвалі.

Наследнікам па закону вы, на жаль, не з'яўляецеся.

**Падрыхтавала Наталля ДОЎНАР, юрыдычны кансультант «Звязды».**

*З ЗАЛЫ СУДА*

# «АДПОМСЦІЛА»... МЁРТВЫМ

**Няма большага гора, чым назаўжды страціць блізкага чалавека. Невыносна цяжка родным праводзіць нябожчыка ў апошні шлях. А яшчэ ж і вялікія матэрыяльныя затраты трэба несці на пахаванне, што вельмі складана ў цяперашняй нялёгкай эканамічнай сітуацыі. І як добра, што ў такі час прыходзяць на дапамогу кіраўнікі і таварышы па рабоце, знаёмыя, суседзі, падзяляючы шматлікія клопаты і затраты. Людзі заўсёды ўдзячныя тым, хто не пакінуў іх у бядзе, падтрымаў спагадлівым словам, падзяліў боль, дапамог матэрыяльна.**

Але ў жыцці сустракаюцца і іншыя з'явы. На жаль, ёсць у нашым грамадстве і такія асобы, якія, страціўшы ўсякае сумленне, апаганьваюць магілы, здзекуюцца з памяці мёртвых і пачуццяў жывых.

Валянціна Люцыянаўна Рыхліцкая пахавала свайго мужа на Варапаеўскіх могілках 22 чэрвеня мінулага года. На другі дзень прыйшла на магілу і ўбачыла, што з яе зніклі пакінутыя ўчора жывыя ружы. Як горка плакала жанчына і над сваім горам, і з-за людской бесчалавечнасці, губляючыся ў здагадках: хто ж мог забраць кветкі, каму яны спатрэбіліся?

А 11 ліпеня ў раённы аддзел унутраных спраў паступілі адразу дзве заявы ад жыхарак Варапаева. Адна — ад В. Рыхліцкай, другая — ад Г. Кукліс. І ў абедзвюх гаварылася пра апаганьванне магіл. Першая паведамляла аб украдзеных ружах, а другая, якая таксама нядаўна пахавала мужа напісала так: «Прыйшла на яго магілу і жахнулася: крыж быў зламаны, вянок і кветкі парваныя і раскіданыя».

Работнікі міліцыі ўважліва аднесліся да гэтых заяў, праявілі аператыўнасць і пасля праведзенай праверкі ўзбудзілі крымінальную справу. Расследаваннем устаноўлена, што апаганьванне магіл учыніла 62-гадовая жыхарка г. п. Варапаева Алена Юрэвіч. Што ж сабой уяўляе гэта жанчына? Па месцы жыхарства яна характарызуецца з адмоўнага боку. Схільная да крадзяжоў, п'янства. Па характару грубая, скандальная. Людзі скардзіліся ў мясцовы пасялковы Савет, што яна крадзе з могілак кветкі, шкляныя слоікі, свечкі. У пассавеце імкнуліся ўздзейнічаць на яе, але ўсё было безвынікова.

Калі злачынства А. Юрэвіч было даказана, яна поўнасцю прызнала сваю віну і дала даволі дзіўныя паказанні: «Я прыйшла на могілкі г. п. Варапаева, на якіх пахаваны мае родныя. На магіле Рыхліцкага ўбачыла жывыя ружы і вырашыла ўкрасці іх, каб потым пакласці на магілу сваёй маці. Праз некалькі дзён каля касцёла я сустрэла Ганну Кукліс (дарэчы, А. Юрэвіч — прыхаджанка касцёла. — Аўт.), якая абвінаваціла мяне ў крадзяжы кветак з магілы Рыхліцкага. З-за гэтага я пакрыўдзілася на Кукліс і задумала адпомсціць ёй». Аб тым, што яна са злосці ўчыніла, чытачам ужо вядома.

У судовым працэсе пацярпеўшыя не маглі стрымаць горкіх слёз. Тым не менш, не настойвалі на суровым пакаранні сваёй злапамятнай крыўдзіцелькі, хаця ў адпаведнасці з артыкулам 224 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь яна магла быць пакарана за апаганьванне магіл да трох гадоў пазбаўлення волі. Суд улічыў раскаянне абвінавачваемай ва ўчыненым, яе пажылы ўзрост, сямейнае становішча, а таксама тое, што раней да крымінальнай адказнасці не прыцягвалася, і прыгаварыў яе да аднаго года пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору да двух гадоў. Такім чынам А. Юрэвіч дадзена магчымасць выправіць свае паводзіны.

...Адыходзяць з жыцця людзі. Але застаюцца ўспаміны пра іх. Родныя і блізкія прыходзяць на магілы не толькі для таго, каб дагледзець і прыбраць іх, але, як напісала ў сваёй заяве Г. Кукліс, каб «пасядзець, падумаць, успомніць мінулыя гады», звярнуцца ў думках да тых, хто некалі быў побач, хто па-ранейшаму дарагі. І знявага гэтай святой памяці — проста бесчалавечнасць. Гэта — варварства, вандалізм. Хочацца спадзявацца, што асуджаная ўсвядоміла ўсю сваю віну. Ну, а калі ў каго-небудзь іншага, да яе падобнага, падымецца рука на тое, каб апаганіць магілу, то няхай ведае: яго чакае не толькі людское асуджэнне, але і крымінальная адказнасць.

**Анатоль СЕЎРУКОЎ, пракурор Пастаўскага раёна.**

*ГЭТА МЫ, ГОСПАДЗІ...*

# ЦЯЖКА ЖЫЦЬ НА ГЭТЫМ СВЕЦЕ. АЛЕ І НА ТОЙ СВЕТ ТРАПІЦЬ НЯПРОСТА

**35-гадовага Сяргея Палякова даставілі ў Гродзенскую туберкулёзную бальніцу 13 лютага. Праз 4 дні чалавек памёр, аднак 27 лютага пахаваны яшчэ не быў.**

«Гэта ёсць месца, дзе смерць вучыць жыць», — такія словы ў перакладзе з латыні можна прачытаць на фасадзе будынка, куды Сяргей Палякоў трапіў з бальнічнага ложка. Тут размешчана патолагаанатамічнае бюро і морг, інакш кажучы (прабачце за, магчыма, недарэчнае параўнанне) — апошні прыпынак на шляху нябожчыка з гэтага свету ў той.

Па хрысціянскаму звычаю пахаванне адбываецца на трэці дзень пасля смерці чалавека. Аднак Сяргея хаваць не спяшаюцца: ён нікому не патрэбны.

З гісторыі хваробы гэтага чалавека, які пакутаваў ад адкрытай формы туберкулёзу, вынікае, што, яшчэ летась трапіўшы ў бальніцу, ён не вельмі клапаціўся пра сваё выздараўленне, як кажуць, парушаў рэжым. Чым займаўся пасля лячэння — можна толькі здагадвацца. Дакладна вядома, аднак, што пры паўторным афармленні ў бальніцу ў Сяргея ўжо блыталіся думкі, ён няправільна назваў нават свой дамашні адрас. Адносна ж месца работы ў адпаведнай графе медыкі запісалі «бомж».

Пасля таго, як здарылася непапраўнае, супрацоўнік патолагаанатамічнага бюро пачаў шукаць сваякоў нябожчыка, бо ніхто не рыдаў ля яго цела, увогуле ніхто не аб'яўляўся. Тут зробім невялікі экскурс у недалёкае мінулае — гады на тры-чатыры назад. Тады ў бюро прыехала тэлебачанне з пытаннем: «Ці ёсць факты, калі чалавека адмаўляюцца хаваць яго родныя?» Не, такіх фактаў не было, ніводнага. Але ішоў час, мянялася жыццё, мяняліся і норавы. І тое, што яшчэ ўчора выглядала як кашмарны сон, сёння зусім не сон і нават не надзвычайнае здарэнне, а хутчэй з'ява, якая паступова пераходзіць у разрад тыповых. Усё часцей у сваякоў то няма грошай на пахаванне нябожчыка, то адсутнічае жаданне паклапаціцца аб апошнім шляху чалавека, асабліва калі сувязі з ім даўно разарваліся («Гэта вялікія расходы. А што ён нам даў?»).

Летась у Гродне памёр адзін бомж. Удалося-такі адшукаць у Мінскім раёне яго сыноў. Прыязджаюць яны у горад над Нёманам і прапануюць патолагаанатамам ...грошы на пахаванне старога. «Не трэба, — адказалі медыкі сынам. — Не хочаце — горад сам пахавае вашага бацьку, а вы за гэтыя грошы лепей яго памяніце...»

...Званок супрацоўніка патолагаанатамічнага бюро на кватэру, дзе пражываў Сяргей Палякоў. Трубку падымае кватарант. Паводле яго слоў, жонка нябожчыка недзе па-суседству п'е з раніцы да вечара. Відавочна, што клопаты наконт труны і вянка ў яе планы не ўваходзяць. З іншага боку, даваць жалобны рытуал (а канкрэтней, матэрыяльную дапамогу ад дзяржавы) падобным асобам даволі небяспечна. Летась адна жанчына атрымала грошы на пахаванне брата і адразу ўзялася за памінкі, так і не ўспомніўшы пра нябожчыка. Неўзабаве гісторыя паўтарылася, з той толькі розніцай, што не было каму хаваць гэту жанчыну.

У такой сітуацыі хто, акрамя дзяржавы, паклапоціцца аб нябожчыку? Райвыканком аплачвае ўсе затраты спецкамунбыткамбінату і той хавае. Праўда, тут ёсць адно «але». Улады не возьмуцца за пахаванне, пакуль не атрымаюць дакументальнае пацвярджэнне аб тым, што ў нябожчыка ўвогуле няма блізкіх сваякоў, альбо распіску, што яны адмаўляюцца хаваць чалавека. Не пазайздросціш у такіх выпадках спецыялісту патолагаанатамічнага бюро, асабліва калі сваякі нябожчыка пражываюць за межамі Беларусі. Як іх адшукаць? Па просьбе медыкаў у пошукі па сваіх каналах уключаецца міліцыя. Працуе яна добрасумленна, але на ўсё патрэбны час, і немалы. У выніку аднаму пенсіянеру давялося месяц (?!) праляжаць у моргу, пакуль горад яго не пахаваў, бо радня з блізкага замежжа ў Гродна так і не прыехала. Калі ж сваякі прыедуць, дык не выключана, што яны страцяць прытомнасць, бо тое, што ўяўляе сабой нябожчык пасля працяглага знаходжання ў моргу (умовы тут, вядома, не заходнія), лепш не канкрэтызаваць, каб пабергчы нервовую сістэму нашых чытачоў. Дык каму ж становіцца лягчэй ад зацягвання з пахаваннем?

Калі на працягу пяці—сямі дзён сваякі нябожчыка не аб'явяцца, трэба яго хаваць, гавораць у патолагаанатамічным бюро. А потым шукаць сваякоў колькі трэба. Але такі парадак ад нас не залежыць. Патрэбны адпаведны закон.

Тым часам пакуль невядома, хто і калі пахавае Сяргея Палякова. Да справы падключылася міліцыя.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# ЗНЕСЕНЫЯ НАВАЛЬНІЦАЙ,
## або Каму яшчэ «баліць» Афганістан

**Афганская вайна, аб якой некалі так шмат гаварылі, маўчалі, крычалі і плакалі, скончылася сем гадоў таму. Не ў адной душы пакінула след, не адзін лёс закранула... Сёння, калі сціхлі тыя эмоцыі, захліснутыя новымі хвалямі няўрымслівага жыцця, паўднёва-ўсходнія гарачыя вятры па-ранейшаму далятаюць да Беларусі. Подыхі афганскіх навальніц — не выключэнне.**

**Паводле даных прадстаўніцтва УВКБ (Упраўлення Вярхоўнага камісарыята па справах бежанцаў) ААН на Беларусі, з чатырох тысяч чалавек, якія ў пошуках лепшай долі прыбылі да нас з далёкага замежжа, пераважная большасць — да 95 працэнтаў — былыя жыхары Афганістана.**

### «МЫ — НЕНАДОЎГА. ДА КАНЦА ВАЙНЫ...»

Статыстыка, кажуць, навука дакладная. У нашым выпадку дакладнасць гэта бачна простым вока з самага ўваходу ў прадстаўніцтва ўзгаданай міжнароднай арганізацыі. Хаця, калі больш дакладна, не бачна, а чутна. Варта толькі спытацца ў смуглявых людзей, што чакаюць сваёй чаргі на прыём.

Не ва ўсіх няма праблем з рускай мовай, так што некаторыя скажуць вам толькі адно слова — назву краіны: Афганістан.

Групе пажылых людзей, пераважна жанчын, з трох-чатырохгадовай дзяўчынкай, пашанцавала з перакладчыцай. Гаваркая, але крыху насцярожаная сімпатычная дзяўчына. Усмешка, што амаль не сыходзіць з яе твару, — дзіўная. Нібы з адценнем вінаватасці. У чым? Ці проста падалося? Але ў вачах нешта накшталт перапрашэння. Вось так: «Мы нічога дрэннага не робім, нікому не замінаем...»

У дзяўчыны прыгожае імя — Шакіра. Не так даўно яна была гэткай жа студэнткай, як і многія яе аднагодкі тут, у Мінску. Цяпер вучоба скончана, ёй падабаецца яе мірная спецыяльнасць бухгалтара.

— Гэта — мая сям'я. Мы жылі пад Кабулам. Я прывезла іх сюды, бо ў нас — вайна... — Шакіра змаўкае і кідае ўважлівы позірк проста ў вочы. І чамусьці працягвае так:

— Разумееце, там страляюць, іх там усіх могуць забіць...

Тут яны жывуць у адным з інтэрнатаў. І, па словах былой студэнткі, а зараз бежанкі, — усё ў іх добра. (Так добра, што трэба зайсці ў ААН.)

Аднак самая старая з жанчын, мабыць, ні слова не разумеючы з нашай гаворкі, кідае трывожны позірк, і мая новая знаёмая, усміхнуўшыся, змаўкае.

Праз колькі хвілін яна «ловіць» мяне на лесвіцы.

— Вы не ведаеце... дзе б мяне маглі ўзяць на працу? Я вельмі хацела б працаваць. Не абавязкова па спецыяльнасці. Я змагу... І мая сястра таксама. Але замежнікаў нідзе не бяруць!

І Шакіра, і яе сваякі сказалі мне: заставацца на Беларусі назаўсёды яны не збіраюцца, хочацца дадому. «Перачакаем, пакуль вайна скончыцца...» Праўда, калі тое скончэнне будзе, не ведае ніхто.

— Не так ужо ўсё і дрэнна, — сказала Шакіра на развітанне, — толькі каб працаваць... Але нешта прыдумаем!

Вядома, грошы патрэбны кожнаму грамадзяніну любой краіны. Прычым кожнаму іх чамусьці не хапае. Ні УВКБ ААН, ні беларускія міграцыйныя службы не могуць усім дапамагчы матэрыяльна. Такіх, як Шакіра, прыходзіць шмат. Усё ж крыху дапамагаюць хворым, старым. Але часцей гэтым людзям, каб жыць і выжыць, трэба «нешта прыдумляць», спадзеючыся толькі на сябе і свой розум. Не вельмі прыемна адчуваць сябе бедным (або, калі мы ўжо амаль усе небагатыя, бяспраўным ці жабраком). Таму ніхто з іх не збіраецца сядзець на шыі чужой дзяржавы, міжнародных арганізацый і сваіх тутэйшых знаёмых, нават калі тыя самі прапануюць дапамогу (апошняе неаднойчы праверана). І яшчэ нікому не хочацца здабываць грошы несумленным шляхам.

### ЧУЖАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА. НАВАТ ДЗВЕ

«Гэтыя хлопцы — наш галаўны боль», — сказалі мне ў Вярхоўным камісарыяце ААН. Я вырашыла завітаць да герояў размовы ў госці.

Гісторыі іх жыцця адрозніваюцца ад іншых гісторый бежанцаў некалькімі «дробязямі», якія ўшчэнт перакрэсліваюць любы лёс. Але аб усім па парадку.

Толькі сем гадоў, прыблізна трэцюю частку жыцця, Азіз правёў на сваёй радзіме. Яму жылося някепска. Бацькі тады былі віднымі дзеячамі, займалі высокія пасады. Калі ў Афганістане змянілася ўлада, яго бацькоў арыштавалі і пакаралі. І сямігадовы хлопчык пачуў: «Для цябе будзе лепш, калі ты як найхутчэй адсюль з'едзеш». Разам з такімі ж, як ён, трапіў у Савецкі (тады яшчэ) Саюз.

Сярод дзяцей у інтэрнатах не было рускіх (мне гэта нагадвае «Толькі для...» — нейкі апартэід у інтэрнацыянальнай краіне, магчыма, я перабольшваю). Сам Азіз аб гэтым успамінае мімаходзь, без эмоцый. Некалькі разоў засяроджвае ўвагу на тым, як іх добра даглядалі, вучылі і выхоўвалі. Спачатку доўга жылі ў Таджыкістане, потым — Іркуцк, Валгаград, Масква... У Мінск трапілі нібыта «ненадоўга», але так і засталіся вучыцца ў адным з тэхнікумаў.

Сённяшнія рэаліі іх жыцця нагадваюць становішча паміж небам і зямлёю. Дакладней — паміж краінамі. Кожная з якіх па-свойму родная.

— Мы выраслі тут, мы тут выхаваны, мы ўжо — «рускія»...

Там, на радзіме, у іх нікога няма. Тут... У Азіза тут — родны брат. У інтэрнаце яшчэ трынаццаць такіх, як ён. Усяго па Беларусі — каля ста «сяброў па няшчасцю».

Недзе на свеце жывуць яшчэ два яго браты. Дзе — невядома. Ды што там! Невядома, ці жывуць... Магчыма, знойдуць адзін аднаго калі-небудзь.

Тым з гэтых хлопцаў, хто яшчэ вучыцца ў тэхнікуме, прасцей. Спакайней. Астатнім, каму ўжо пашчасціла атрымаць дыплом, часта даводзіцца закранаць балючую тэму ў гаворках з адміністрацыяй інтэрната. Сціслая назва тэмы гучыць так: «Калі да гэткага і гэткага дня не заплаціце за інтэрнат, будзеце выселены».

Але рускія (беларускія?) афганцы жывуць дружна. Той, у каго ёсць грошы, спансіруе таго, у каго іх няма. Заўтра можа атрымацца наадварот, і падтрымка — нешта само сабой зразумелае.

Крыштальная мара кожнага з іх не ўражвае арыгінальнасцю. Кожны марыць уладкавацца на пастаянную працу.

Хаця беспрацоўя хапае, на прадпрыемствах іх часам згаджаюцца ўзяць. Калі прынясуць нармальныя дакументы.

Пасведчанне бежанца, якое выдае гэтым людзям УВКБ ААН, нармальным дакументам не лічыцца. І не толькі кіраўнікамі, якім патрэбны на прадпрыемствах рабочыя рукі і ўвогуле сумленныя працаўнікі. З гэтых дакументаў, бывае, смяюцца і міліцыянеры. Могуць увогуле парваць «гэтую паперку...»

— Асабліва часта такое бывала ў пачатку мінулага года, вясной, — гаворыць Азіз. — Зараз стала крыху лепей.

Мне ўжо даводзілася чуць раней аб гэтым «крыху лепей». У асноўным — ад былых жыхароў паўднёвых краін. Часам ад іх тутэйшых сяброў. Гэта значыць, што ў нас ад пачатку мінулага года ўжо прывыклі да вайны ў Чачні, але ўсё яшчэ яе вельмі баяцца. Але з якой краіны блізкага і далёкага замежжа ты б да нас ні трапіў (прыехаў сам ці цябе правезлі гадоў чатырнаццаць таму) — «асобы каўказскай нацыянальнасці» і грозная постаць тэрарызму будуць мроіцца на кожным кроку. Для нашых афганцаў гэта «званне», вядома, забяспечана на ўсе сто. З усімі адсюль вынікамі і наступствамі. Самае нявіннае — праверка дакументаў. У любым месцы (нават калі зойдзеш у краму па хлеб). Выпадак, калі дакументы запатрабавалі на парозе прадстаўніцтва ААН паплечнікі тых, хто ўчора, смеючыся, разарваў «гэтую паперку», можна лічыць анекдатычна-бытавым.

— Праўда, калі ідзеш па вуліцы з дзяўчынай, — усміхнуўся раптам Азіз, — тады не чапаюць.

— ...Ведаеце, з усіх гарадоў, дзе давялося жыць, Мінск самы лепшы. Не ведаю, чаму, але з'язджаць адсюль страшэнна не хочацца. Каму мы зараз там, у Афганістане, патрэбны?

Ні Азіз, ні яго сябры так ні разу і не сказалі: «Там, дома...» Яны самі не ведаюць, дзе цяпер іх дом. Не ведаюць, як жыць далей і каму яны патрэбны.

Магчыма, сапраўды, спатрэбіліся б у якасці «воінаў за ідэю», безгаловых аматараў пастраляць ці проста забойцаў — на радзіме ці ў іншых краінах?

Нібы імгненна прачытаўшы мае думкі, мой суразмоўца адразу паставіў кропку:

— Ваяваць не хочам!..

### ЧАГО ХОЧАМ АД ІХ МЫ?

Не я канкрэтна, не шаноўны чытач, а наша грамадскасць у цэлым.

«У агульным і цэлым» гэта выглядае так...

Каб рэгістраваліся ў адпаведных органах. Каб былі на ўліку, як на далоні. Каб мелі грошы, але зараблялі іх у суладдзі з законамі. Каб не забываліся, што ў гасцях. Каб мелі «нармальныя дакументы», не напаміналі пра Афган (савецкі і паставецкі). Каб не дадавалі хвароб нашай нездаровай эканоміцы і не жылі лепш за «нашых». Каб не былі, у рэшце рэшт, «нярускімі»...

...Пяць гадоў таму да маёй сяброўкі па студэнцкім інтэрнаце Розбі прыехалі з Кабула мама з маленькай сястрой. Усе вакол хутка заўважылі, што 4-гадовая Мірыям амаль не расстаецца з суседскай аднагодкай Вікай. Але спачатку ніхто не заўважаў адну рэч.

Аднойчы я стала выпадковай назіральніцай іх гульні. Цікавая была гульня! Вешаючы пялёнкі, я прыслухалася, аб чым гамоняць малыя...

А Божа мой! Гамоняць на розных мовах. Віка — на добрай беларускай (толькі прыехала з бацькамі ад бабулі). Мірыям — па-афганску. А то проста зірнуць адна на адну моўчкі, як змоўшчыкі. То лялькам песні, па-свойму кожная, пяюць, то якую ламачыну з інтэрнацкага кутка прыцягнуць — дом будаваць.

Але ж то былі толькі дзеці!

**Таццяна СНІТКО.**

## У СВЕЦЕ

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

● **АДБЫЛАСЯ ЎРАЧЫСТАЯ ЦЫРЫМОНІЯ ПРЫНЯЦЦЯ РАСІІ Ў ЕС**

Учора прайшла афіцыйная цырымонія ўступлення Расіі ў Савет Еўропы. Расійская Федэрацыя стане 39-м членам старэйшай арганізацыі кантынента. На ўрачыстую цырымонію ў Страсбург прыбылі міністр замежных спраў Расіі Прымакоў і дэлегацыя расійскіх парламентарыяў. Прымакоў уручыў генеральнаму сакратару Савета Еўропы граматы аб далучэнні Расіі да статута і агульнага пагаднення аб прывілеях і імунітэце. Ён падпісаў Еўрапейскую канвенцыю аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод.

● **АПАЗІЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕ ДЗЕЙНІЧАЦЬ**

Як працяг адкрытага тэрору супраць урадавых сіл з боку баевікоў ісламскай апазіцыі расцэньваюць кіраўнікі праваахоўных органаў Таджыкістана напад на супрацоўнікаў аднаго з аддзелаў унутраных войскаў рэспублікі, якое адбылося ў аўторак ноччу. У выніку інцыдэнту два чалавекі загінулі і чацвёра ўзяты ў заложнікі. Дзве аўтамашыны, на якіх ехалі работнікі міліцыі, поўнасцю спалены.

● **РАБІЦЬ ПРАГНОЗЫ РАНА**

Паводле Бі-бі-сі, першыя сур'ёзныя крокі на шляху да больш цеснай эканамічнай інтэграцыі Расія і Беларусь зрабілі. Аднак, як лічыць карэспандэнт гэтай кампаніі, наўрад ці хто зараз возьмецца прагназіраваць, як у далейшым складуцца двухбаковыя адносіны, асабліва калі ўлічваць маючыя адбыцца ў Расіі прэзідэнцкія выбары. Радыёстанцыя адзначае, што цеснае эканамічнае збліжэнне Расіі і Беларусі можа аказацца крайне цяжкім грузам для расійскай эканомікі, таксама яшчэ вельмі далёкай ад рэальнай стабілізацыі.

● **ФАЛЬШЫЎКІ РОБЯЦЦА НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ**

Высокапастаўленыя прадстаўнікі Злучаных Штатаў паведамілі, што фальшываманетчыкі на Блізкім Усходзе працягваюць друкаваць стодоларавыя банкноты вельмі высокай якасці. Прадстаўнік амерыканскай адміністрацыі назваў гэтыя купюры «самымі рэальнымі фальшывымі банкнотамі». Як заяўляе «Голас Амерыкі», існуе падазрэнне, што ў вытворчасці фальшывых долараў замешаны некаторыя ўрады краін рэгіёна, магчыма, Ірана і Сірыі.

● **МІЖНАРОДНЫ ТРЫБУНАЛ ПАЧАЎ СЛУХАННЕ**

Міжнародны трыбунал па былой Югаславіі ў Гаазе пачаў трохдзённае слуханне па справе сербскага палітыка Мілана Магдыча. Былы прэзідэнт самаабвешчанай Рэспублікі Сербскай на тэрыторыі Харвацкай Краіны, абвінавачваецца ў тым, што ў маі 1995 года двойчы аддаваў загад аб бамбардзіроўцы Заграба. Гэта акцыя павінна была быць помстай за напад харвацкай арміі на краінскіх сербаў. Абвінавачанне мае намер дабіцца ў адносінах да Магдыча міжнароднага ордэра на арышт.

● **КАМЕНЬ У БОК ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ**

Іран падпісаў з Францыяй пагадненне аб сумесным будаўніцтве міжнароднага аэрапорта недалёка ад Тэгерана, чыгуначных пуцей для руху скорасных паяздоў. На думку карэспандэнта Бі-бі-сі, само па сабе гэта пагадненне нельга назваць буйной здзелкай, аднак,магчыма, яно пачне сабой новую старонку ў адносінах між Парыжам і Тэгеранам. Такое развіццё падзей можа выклікаць гнеў з боку Злучаных Штатаў, якія працягваюць заклікаць сваіх саюзнікаў узмацніць міжнародную ізаляцыю Ірана.

● **ЗАХОДНІМ КІТАЙЦАМ ПАГРАЖАЕ ГАЛОДНАЯ СМЕРЦЬ**

Кітайскі ўрад звярнуўся па дапамогу да сусветнага супольніцтва з паведамленнем аб тым, што дзесяткам тысяч жыхароў заходніх правінцый краіны пагражае галодная смерць. Крытычнае становішча краіны ўзнікла з-за доўгіх завірух і моцных маразоў, калі тэмпература апускалася да -40°С. Прадстаўнікі міжнароднай гуманітарнай арганізацыі медыцыны, якія вывучалі становішча на месцах, ацанілі яго як катастрафічнае

● **«МАДОННА» ЗНАЙШЛА ПРЫТУЛАК У ЯПОНІІ**

Знакамітая «Мадонна», у вобразе якой вялікі сюррэаліст Сальвадор Далі адлюстраваў сваю рускую жонку Галіну, пасля доўгіх вандровак па Японіі, нарэшце, знайшла сабе прытулак у правінцыяльным музеі горада Фукуока, на поўдні краіны. Карціна была выкуплена за пяць мільёнаў дзвесце тысяч долараў у кампаніі «Крыдыт сезан», якая займаецца фінансавымі аперацыямі. Да яе яна трапіла ад прыватнага калекцыянера, што разбагацеў на біржавой гульні. Гарадскі музей Фукуока вядомы ў Японіі даволі багатай калекцыяй сучаснага мастацтва і плануе ператварыць палатно Сальвадора Далі ў ядро сваёй экспазіцыі.

● **ЗАБОЙСТВА НА РЭЛІГІЙНАЙ ГЛЕБЕ**

Буйнейшае за апошнія чатыры гады калектыўнае забойства на рэлігійнай глебе адбылося ў егіпецкай правінцыі Ас'ют. Група тэрарыстаў, як мяркуецца, членаў экстрэмісцкай мусульманскай групоўкі, расстраляла васьмярых хрысціян. Міністэрства ўнутраных спраў Егіпта аб'явіла, што гарыстая мясцовасць, у якой схаваліся злачынцы, блакіравана падраздзяленнямі сіл бяспекі. Арыштаваны семдзесят пяць вядомых прыхільнікаў арганізацыі мусульманскіх экстрэмістаў.

● **ЗША ВЯРТАЮЦЦА ДА СТАРОЙ ДОБРАЙ ШКОЛЬНАЙ ФОРМЫ**

Прэзідэнт Клінтан пачаў кампанію па ўвядзенню для амерыканскіх школьнікаў абавязковай школьнай формы. Выступаючы перад бацькамі адной са школ Каліфорніі, ён растлумачыў гэта тым, што трэба аб'яднаць школьнікаў і спыніць злачынствы сярод дзяцей, якія часта адбываюцца з-за таго, што некаторыя навучэнцы ходзяць на заняткі ў занадта дарагой вопратцы. Біл Клінтан заначыў, што распачаць гэтую кампанію яго прымусіла жонка Хілары. Амерыканскі ўрад наконт гэтага пакуль адказу не даў.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», радыё «101,2» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Чаму мужчыны «галодным поглядам» часта праводзяць прыгожую жанчыну? Гэта пытанне паспрабавалі высветліць брытанскія псіхолагі. Яны правялі ў некалькіх краінах даследаванні шкалы каштоўнасцей мужчын з розным тэмпераментам. Аказалася, што больш за ўсё мужчын заварожвае адчувальны рот — за яго падалі голас 83 працэнты апытаных. Далей у спісе ідуць: вялікія пругкія грудзі, доўгія ногі, стройная фігура, а таксама акруглыя бёдры... Два апошнія месцы ў секс-спісе займаюць міндальныя вочы і доўгія густыя валасы.

**ІТАР-ТАСС.**

*У 60 тысяч долараў абышлася вядучаму ток-шоу адной з радыёстанцый Квебека Андрэ Артуру яго прафесіянальная прыстойнасць. Ён выпусціў у эфір «вутку», сцвярджаючы, што Одры, жонка лідэра квебекскіх сепаратыстаў Люсьена Бушара, мае намер пачаць шлюбаразводны працэс, паколькі, маўляў, яе муж, празмерна заняты палітычнай дзейнасцю, не ўдзяляе належнай увагі сям'і.*

*Муж і жонка Бушар падалі на радыёжурналіста ў суд, абвінаваціўшы яго ў паклёпе. Да суда справа не дайшла, паколькі адказчык своечасова зразумеў, што, не маючы доказаў, расплачвацца давядзецца яму. Праз адваката ён уступіў у перамовы з мужам і жонкай і ў выніку расплаціўся 60 тысячамі долараў.*

**«Труд».**

Паставіць заслон зладзеям, якія наведвалі куратнік, вырашыла жыхарка Уфы баба Нюра. Кожны дзень яна недалічвалася ў сваіх васьмі нясушак па два яйкі. Аднойчы яна высачыла разбойнікаў. Імі аказаліся пацукі. Калі баба Нюра зайшла ў куратнік, то ўбачыла дзіўную сцэну: адзін няпрошаны госць сядзеў у курыным гняздзе на задніх лапах і, абхапіўшы яйка пярэднімі лапамі, перадаваў яго свайму напарніку. Спудзіўшы пацукоў, старая вырашыла перахітрыць зладзеяў і паклала яйкі ў пасткі. Аднак пацукі абыходзяць іх бокам. Яйкі працягваюць знікаць.

**ЕАН.**

## Алесь ПІСЬМЯНКОЎ



### ДАР

*У сны мае пачаў часцей*
*Заходзіць дзед Варфаламей.*

*Заходзіць дзед, прыносіць скрынку*
*І дастае са скрынкі скрыпку,*
*І кажа ціха:*
*— Вось... Бяры...*
*Цябе Бог выбраў для ігры.*
*Бяры, бяры, не будзе лішняй,*
*Яна ў мяне з часоў Францішка...*
*А я кажу Варфаламею,*
*Што не збіраюся ў Арфеі,*
*Што месца скрыпачцы ў музеі,*
*Калі вазьму — не зразумеюць.*
*А ён за мною следам ходзіць,*
*А ён сваё, сваё даводзіць:*
*— Маёй душы не знаць спачыну,*
*Пакуль я скрыпку не пакіну:*
*Я зберагаў яе для сына,*
*Ды сын у Прусіі загінуў...*
*Вазьмі, вазьмі... Так, хлопча, трэба.*
*Так я хачу, так хоча неба.*
*І я — узяў...*
*І тут жа ўскочыў,*
*Сном ашаломлены прарочым.*

*Навошта ўзяў? І што я ўмею,*
*Унук вясковага Арфея?*

### НАДЗЕЯ

*Залатая мяцеліца*
*Зноў сярэбранай зменіцца.*
*Можа ўсё пераменіцца,*
*Можа ўсё перамеліцца.*
*Можа ўсё, што засмечана,*
*Заіскрыцца,*
*Засвеціцца.*
*І забудзецца дробнае,*
*І згадаецца добрае,*
*І прыпомніцца роднае,*
*Векавое,*
*Нязводнае,*
*І з усмешкаю ветлаю*
*Павітаецца светлае.*
*Павітаецца,*
*Парукаецца...*

### ДЗЕНЬ НА РАДЗІМЕ

*Пакуль дыхаю родным дымам,*
*Мне пад небам маім нязмрочна,*
*Як за пазухай у радзімы,*
*Як народжанаму ў сарочцы.*

* * *

***Вечнасці паром...***
***Віктар Стрыжак***

*Я ўсё яшчэ жыву,*
*Цалую вусны любай,*
*Я ўсё яшчэ плыву*
*Без вас, Стрыжак і Рубін.*

*Мяне вітае гром,*
*Вясна частуе сокам,*
*А памяці паром*
*Плыве да Налібокаў.*

*А памяці паром*
*Начуе ў ціхай Заспе,*
*Цяпельца за Дняпром*
*Да раніцы не гасне.*

*Нябыту халадок.*
*Высокія аблокі.*
*Прыпомніўся радок*
*І ўдарыў токам.*

### РАЗВІТАННЕ З ВЕКАМ

*Вось зноў «свае» і «не свае»,*
*Зноў кроў гарыць на пыльных ботах.*
*Табе пяшчоты нестае,*
*Маленькай кропелькі пяшчоты.*

*Ты б з ёю быў зусім другі*
*І свой бы час пражыў інačай,*
*Ты б скалануўся, каб убачыў*
*Свае пякельныя кругі.*

*Табе, мой век, я не суддзя*
*І мне вініць цябе бязбожна,*
*Бо я не проста падарожнік,*
*Твае я кроўнае дзіця.*

* * *

*Забываў —*
*не выпала,*
*І паліў —*
*не выпаліць.*
*Ані ў Бога —*
*вымаліць,*
*Ані ў д'ябла —*
*выманіць,*
*А баліць —*
*не выбаліць,*
*А баліць —*
*не вымавіць.*

### КАСТАЛЬСКАЯ ВАДА

***«Кастальская вада — сімвал паэзіі»***
***Слоўнік антычнасці***

*Я п'ю ваду кастальскую*
*За Рудзенскам, за Талькаю...*
*Філолагі ўсміхаюцца,*
*Гісторыкі здзіўляюцца*
*І робяць твары строгія:*
*— Што ў вас па міфалогіі?*
*— Па Рыму і па Грэцыі*
*Хадзіў я на ўсе лекцыі.*
*— Дык дзе ж вада кастальская?*
*— За Рудзенскам, за Талькаю...*

# ГІМНАЗІЧНА-ПАЭТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

**У гімназіі № 195 (дырэктар — Тамара Іванаўна Вечар) беларускай сталіцы прайшла сустрэча з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам. Амаль тры гадзіны «трымалі» гімназісты вядомага літаратара і грамадскага дзеяча. Моладзі цікава было ўсё — дзесяткі самых розных пытанняў задалі пісьменніку юнакі і дзяўчаты.**

Сустрэчу з Нілам Гілевічам нельга палічыць неспадзяванай ці выпадковай. У сценах гімназіі ідзе працэс сапраўднага паэтычнага выхавання. На пачатку сёлетняга навучальнага года павіншаваць дзяцей з Днём ведаў прыходзіў паэт Леанід Дранько-Майсюк. Дарэчы, у гімназіі прайшла і прэзентацыя яго кнігі «Стомленасць Парыжам». Паэтычны дыялог з гімназістамі правёў і Сяргей Законнікаў. У гасцях у гімназістаў пабывалі і маладыя паэты Міхась Скобла, Алесь Бадак. І гэта ўсё за адзін толькі навучальны год. Душа і сэрца паэтычных ранішнікаў і вечарын — Марыя Мікалаеўна Малкіна, намеснік дырэктара гімназіі па выхаваўчай рабоце.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*СЯДЗІ І СЛУХАЙ*

# ПЕСНІ ЧАКАЮЦЬ ВЕРНЫХ СЯБРОЎ

**У Альтэрнатыўным тэатры аднаўляецца цыкл канцэртаў «У гасцях у «Крамы». 4 сакавіка «Крама» запрасіла мазырскі гурт «Парадокс», які на беларускай рок-каранацыі быў названы лепшым у намінацыі «Дэбют года».**

Што сабой уяўляюць «дэбютанты», знаўцы року зразумеюць. А што да самой «Крамы» — яе фанаты, напэўна, даўно чакаюць аднаўлення «рок-абанемента». Дзе яшчэ пачуць любімы гурт? Толькі два альбомы «Крамы» пакуль убачылі свет. Спачатку з'явіўся «Камэндант». А вось самы першы альбом — «Хворы на рок-н-рол» тры гады чакаў свайго часу і толькі зусім нядаўна яго выпусціла фірма «Вігма». Між іншым, гурт «Крама» свае недапісаныя альбомы можа складваць на паліцу. Яшчэ два — «Дарожны» і «Лянівыя танцы» чакаюць лепшых часоў, калі можна будзе заплаціць за добрую студыю, каб іх запісаць.

Акрамя сваіх традыцыйных канцэртаў у «Альтэрнатыўным», «Крама» запісвае сумесную песню (сл. Зм. Лукашука, муз. І. Вашкевіча) з Анатолем Ярмоленкам, якая прысвечана дзесяцігоддзю Чарнобыля.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

# Лютаўскія юбіляры опернага тэатра ва ўспамінах Анатоля Багатырова

**Не прыпомню сярод апошніх гадоў ніводнага, які быў бы так насычаны юбілейнымі датамі майстроў опернай і балетнай сцэны, як сёлетні. А самы «ўраджайны» месяц у ім — люты. Тут і 75-годдзе дырыжора Яраслава Вашчака, і залаты юбілей рэжысёра Маргарыты Ізворска-Елізар'евай, і ажно тры ўрачыстыя даты салістаў оперы. Днямі спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння заслужанага артыста Беларусі Валяр'яна Каліноўскага, а апошнія дні месяца азнаменаваны 90-годдзем народных артыстаў рэспублікі Рыты Млодак і Міхаіла Зюванава.**

**Яны нарадзіліся амаль дзень у дзень, нейкі час працавалі поплеч, аднак 16 гадоў, што раздзяляюць іх прыход у трупу (адпаведна 1933 і 1948 г.), прымушаюць аднесці спевакоў да розных пакаленняў артыстаў тэатра. Сталыя аматары оперы яшчэ памятаюць гэтых двух яркіх артыстаў у спектаклях, а па радыё іх галасы можна пачуць і ў нашы дні.**

**Ад Валяр'яна Каліноўскага, якога амаль 55 гадоў няма сярод жывых, засталіся толькі некалькі фотаздымкаў у архіве нашага опернага, пажоўклыя газетныя выразкі ды светлая памяць у сэрцы жонкі Таццяны Баначыч і ўжо нямногіх сяброў, сярод якіх — патрыярх беларускай кампазітарскай школы Анатоль Багатыроў. Агульная работа, узаемная павага і тая тонкая духоўная сувязь, што ўсталёўваецца паміж творцам і выканаўцам, яднаюць Анатоля Васільевіча таксама з Млодак і Зюванавым. Гутарку з ім прапануем зараз увазе чытачоў.**

— Мне зараз часта ўспамінаецца, як стварыўся наш оперны тэатр. Я толькі што прыехаў з Віцебска вучыцца ў Мінскі музычны тэхнікум. Было гэта ў верасні 1930 года, і якраз тады ж была адкрыта оперная студыя. Пры паступленні я паказаў сябе добрым піяністам і свабодна чытаў з ліста, таму мой настаўнік па фартэпіяна Георгій Пятроў, які ўжо тады пачаў працаваць у опернай студыі хормайстрам і дырыжорам, узяў мяне канцэртмайстрам. Тады кіраўніком опернага класа тэхнікума і вакальным кансультантам студыі быў знакаміты спявак, які калісьці ззяў зоркай першай велічыні ў мастацтве. Ён удзельнічаў у дзягілеўскіх сезонах у Парыжы разам з Шаляпіным. Гэта быў Антон Пятровіч Баначыч. Ён прывёз з сабой з Саратава групу вельмі здольных вучняў. Там былі і Валяр'ян Каліноўскі, і Міхаіл Дзянісаў, і жонка Баначыча Таццяна. Пасля смерці Баначыча яна выйшла замуж за Каліноўскага...

Валяр'ян быў прыгожы высачэзны мужчына, вельмі сцэнічны, з цудоўным барытонам. Мы неяк адразу пасябравалі. Дарэчы, было ў нас на той час агульнае захапленне — прэферанс. Часта збіраліся, да нас далучаліся і іншыя артысты са студыі — Ісідар Балоцін, Дзянісаў. Але ж і працавалі заўзята! Каліноўскі быў адзіным выканаўцам партыі цара Дадона ў першай пастаноўцы студыі «Залаты пеўнік» Рымскага-Корсакава (быў гэта 1931 год). Гэтая басовая партыя была не па голасу яму, аднак дублёра, на жаль, ён не меў, давялося праспяваць цара Дадона 17 разоў запар, амаль без перапынкаў...



Я і пазней працаваў з Каліноўскім, чуў яго ў многіх партыях. У маёй оперы «У пушчах Палесся» ён выконваў ролю пана Длугошыца, у Маскве на дэкадзе беларускага мастацтва паказваў яе. Усё, што рабіў Валяр'ян, было высокапрафесіянальна. Ён быў выдатным акцёрам, не толькі спеваком, кожны спектакль упрыгожваў.

Пачатак вайны застаў Каліноўскага ў адпачынку. Сям'я трапіла ў Мінску пад акупацыю, а сам ён паехаў у Маскву і быў забіты асколкам у адну з першых бамбёжак. У маёй памяці ён захаваўся душэўным, добрым, прыязным чалавекам.



З Рытай Млодак я пазнаёміўся, калі ўжо быў адкрыты тэатр оперы і балета. Уразіла самая першая яе роля — Домны Сабуравай у «Царскай нявесце». Узрадаваўся, што такі цудоўны голас, такая цікавая артыстка з'явілася ў тэатры. Потым давялося шмат сустракацца з ёю па канцэртмайстарскай рабоце. Наш оперны тады часта пасылаў брыгады абслугоўваць самыя аддаленыя мясціны — Лельчыцкі раён, Жыткавічы, Мазыр, Тураў. Не раз выязджала са мной і Млодак. Пазней нас звяла падрыхтоўка да дэкады ў Маскве. Рыта Веніямінаўна планавалася дублёркай Соф'і Друкер на партыю Аўгінні ў маёй оперы, але ж так яе і не спявала. Галоўныя партыі ў беларускіх операх так размеркавалі паміж трыма лепшымі нашымі сапрана — Александроўскай, Млодак, Друкер, каб кожнай спявачцы дасталася адна партыя, не больш. Млодак і дома, і ў Маскве выконвала ролю Надзейкі ў оперы «Кветка шчасця». Поспех мела велізарны...

Млодак спявала практычна ўсе сапранавыя партыі ў спектаклях тэатра. І пры гэтым шмат энергіі аддавала выкананню твораў беларускіх кампазітараў. Па-мойму, не было кампазітара, чые б творы яна не выконвала, — такая яна была адданая нашаму нацыянальнаму мастацтву. Я бясконца ўдзячны ёй за цудоўны запіс майго раманса ваенных гадоў «Дарагая мая Беларусь» на вершы Пімена Панчанкі, за выкананне рамансаў на вершы Лермантава, першых маіх «Санетаў Шэкспіра». І ўвогуле, у мяне захаваліся самыя цёплыя і светлыя ўспаміны пра Рыту Млодак.

З Зюванавым у мяне былі прыемныя чалавечыя кантакты. Ён удзельнічаў у пастаноўцы маёй «Надзеі Дуравай», вельмі ярка выконваў ролю старога Дурава. Калі я яшчэ быў рэктарам, Міхаіл Акімавіч паступіў на апошні курс нашай кансерваторыі ў клас прафесара Віцінга і паспяхова яе скончыў. І пры мне ж прыйшоў у кансерваторыю выкладаць спевы. Якім ён быў чалавекам? Я сказаў бы, як большасць спевакоў — з усімі добрымі якасцямі і недахопамі, што ўласцівы гэтай асаблівай чалавечай пародзе. Між іншым, быў самалюбівы, не вельмі любіў, калі яму ў вочы гаварылі нешта крытычнае. Але мне вельмі падабаліся яго прынцыповасць, сумленнасць, аб'ектыўнасць. Ён вельмі добра праявіў сябе, калі быў членам журы ўсесаюзнага конкурсу ў Маскве. Ён падтрымліваў студэнтаў не толькі сваіх, але і чужых таксама. Увогуле, яму была ўласціва любоў да моладзі, да студэнтаў... Мяркуючы па тым, як Міхаіла Акімавіча ўспамінаюць былыя студэнты, любоў была ўзаемнай.



**Алена САЛАМАХА.**

**На здымках** з архіва: сцэна з оперы «Кармен» Ж. Бізэ: В. Каліноўскі (у цэнтры) — Эскамільо, І. Балоцін (злева) — Данкайра, К. Пуроўскі (справа) — Рэмендада; сцэна з оперы А. Рубінштэйна «Дэман»: Р. Млодэк — Тамара, М. Дзянісаў — Дэман; М. Зюванаў у ролі Дурава ў оперы А. Багатырова «Надзея Дурава».

# ЭКАНОМІКА ПАТРАБУЕ: КАЛГАСЫ ПАВІННЫ ЗАЙМАЦЦА ВЫТВОРЧАСЦЮ. І ТОЛЬКІ...



**Беларускі навукова-даследчы інстытут эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу распрацаваў праект аграрнай рэформы. Падзея, магчыма, і не з разраду суперзначных. Колькі ўжо за апошнія гады нам розных праектаў і пражэктаў прапаноўвалі. Большасць з іх ператваралася ў мыльныя бурбалкі. І здаралася гэта найчасцей з-за таго, што рэчаіснасць настолькі здзіўляла сваёй непрадказальнасцю, наколькі здзіўлялі арыгінальнасцю планы, меркаванні таго альбо іншага праекта. Невядома, што здарыцца і са згаданай праграмай, правільней кажучы — яшчэ толькі з праектам аграрнай рэформы. Паглядзім. А пакуль жа — гутарка толькі пра характар сацыяльнага раздзела гэтай працы. Адказвае на пытанні загадчык сектара сацыяльнай палітыкі і развіцця вёскі Беларускага НДІ эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу, кандыдат эканамічных навук Міхаіл АНТОНЕНКА.**

**— У праекце праграмы рэфарміравання вы разам з калегамі распрацоўвалі раздзел, што датычыцца сацыяльнай сферы. Распытваючы пра гэта, найперш хацелася б ведаць, чым кардынальна новым адрозніваецца сённяшні хаця б навуковы падыход да згаданай праблематыкі?**

— Мы не стараліся адкрываць Амерыку. Гледзячы на чужаземны вопыт, прыйшлі да высновы, што калгасы павінны займацца выключна вытворчасцю. І толькі...

**— Але ж вы і самі бываеце ў вёсцы і добра бачыце, што сялянам часам са сваімі сацыяльна-бытавымі клопатамі болей як у калгасную кантору і звярнуцца няма куды. Атрымліваецца, што старшыня, кіруючы гаспадаркай на дадзенай тэрыторыі, адказвае за ўсё. І за транспарт для пенсіянераў, якім трэба прывезці дровы, і за рамонт дома, не кажучы ўжо пра дарогі і г. д...**

— Вось і дрэнна атрымліваецца. Вы можаце сабе ўявіць, што той ці іншы завод займаецца вырашэннем жыллёва-камунальных праблем сваіх рабочых? Напрыклад, рамантуе водаправод, сістэму каналізацыі ці робіць што іншае ў гэтым напрамку?

Дзіўнае, зразумела, пытанне. А вось калгас моўчкі ўзваліў на свае плечы ўсе гэтыя клопаты. І гэта пры тым, што ніхто не здымае з сельскіх суб'ектаў гаспадарання падаткаў. Выходзіць, што калгас плаціць як быццам двойчы. Спярша — у бюджэт, з разлікам, што выплаты павінны ісці на сацыяльную сферу. А пасля яшчэ і займаецца ўшчыльную гэтай сферай.

**— Вы прапануеце скараціць падаткі?**

— У дадзеным выпадку размова зусім не пра падаткі. А пра тое, каб разгрузіць калгасы. Мы крытыкуем гаспадаркі за пастаянныя дзяржаўныя датацыі. А паглядзіце, колькі калгасы і саўгасы ўзялі на сябе неўласцівых ім функцый. Быў час, калі багацейшыя гаспадаркі ўтрымлівалі палацы культуры, клубы, уводзілі штатныя адзінкі культасветработнікаў. А дзіцячыя садкі — колькі грошай, матэрыяльных выдаткаў яны патрабуюць.

**— Але ж і ў горадзе заводы мелі, як вядома, дзіцячыя сады, яслі...**

— Гэта раней. Сёння ж заводы ў большасці сваёй перадалі сады на баланс мясцовых уладаў. Нашмат паменела і заводскіх сталовых. Так павінна быць і на вёсцы — адказваць за развіццё сацыяльнай інфраструктуры абавязаны мясцовыя органы ўлады. У нас часта крытыкуюць сельскія Саветы, што, маўляў, у іх няма рэальнай улады. Таму і няма, што ніякай уласнасцю яны не распараджаюцца, нічым не апякуюцца.

Згодна з праектам мы прапануем стварыць спецыяльныя агенцтвы, якія б адміністравалі бюджэтнымі сродкамі. Частка расходаў фінансавалася б за кошт насельніцтва.

Другая палова — з бюджэтнай кішэні. За мяжою, у тых жа ЗША, з падаткаў утвараецца спецыяльны фонд, які і фінансуе большасць сацыяльных праграм сельскага насельніцтва.

**— Безумоўна, рацыянальнае зерне ў вашых разважаннях, у прапановах да абмеркавання ёсць. Але ж ці не падаецца вам, што шлях да вырашэння праблемы можа аказацца надзіва доўгім?**

— І нават пры самых песімістычных прагнозах працаваць, планаваць, праектаваць, шукаць і ў некага (у першую чаргу — на вопыце багатых краін) вучыцца ўсё ж трэба. А што датычыць нашага асэнсавання рэалій вясковага жыцця, то, канешне ж, да той пары будзе гібець сацыяльная сфера, пакуль усур'ёз не будзе распачата рэфарміраванне формаў гаспадарання. Сацыяльная сфера можа стаць новай і будзе задавальняць вясковых жыхароў толькі пры ўмове рэфарміравання калгасаў. Не іначай.

**— А ці ўлічваеце вы ў сваіх праектах думкі, меркаванні саміх вясковых жыхароў?**

— Калі б мы працавалі на гараджан, то тады б можа і не ўлічвалі. А так — зразумела ж, імкнёмся апірацца на грамадскую думку вясковага насельніцтва.

**— І што паказваюць апошнія сацыялагічныя апытанні?**

— Недзе каля трох чвэрцяў жыхароў вёскі выступаюць за рэфарміраванне калгасаў у той ці іншай ступені.

**— А калі гаварыць больш дакладна, то якая частка вясковага насельніцтва гатова была б заняцца фермерствам?**

— Недзе каля 10 працэнтаў. Дарэчы, лічба гэта трымаецца недзе ўжо больш як тры апошнія гады. Менавіта змена формы ўласнасці вядзе да змены псіхалогіі чалавека.

Думаю, што фермер, навучаны лічыць кожную капейку, ужо не пойдзе да калгаснага старшыні прасіць машыну «за так». Сёння ж часам мы проста не задумваемся, што задавальненне той ці іншай патрэбы вымагае ці то грашовых, ці то іншых матэрыяльных выдаткаў.

**— З вамі нельга не пагадзіцца ў тым, што сацыяльнае развіццё вёскі павінна разглядацца ў кантэксце рэформы ўсяго аграпрамысловага комплексу...**

— І болей таго. Трэба разумець рэформу як шматпланавую сістэму арганізацыі, фінансавання і кіравання дзяржаўнай праграмай развіцця эканомікі вытворчасці і сацыяльнай інфраструктуры.

**— Толькі вось — і я думаю, што вы гэта цудоўна разумееце, — пікантнасць сённяшняй сітуацыі заключаецца ў тым, што працэс перадачы, калі можна так сказаць, сацыяльных функцый мясцовым органам улады прыпадае на той час, калі жывыя, гаротныя, абяздоленыя людзі могуць і ў калгасе падтрымкі ніякай не атрымаць, і ў сельсавеце падмогі не дачакаюцца.**

— Мяккасць рэформаў у эканоміцы, прамысловасці, а хутчэй — кволасць іх прывялі да таго, што мы сёння маем па ўсёй краіне. Так будзе і ў сельскай гаспадарцы, тым болей — у побытавым вясковым жыцці.

Банкруцтва калгасаў стане і банкруцтвам сацыяльнай сферы. Іншая справа, што выйсце трэба шукаць на такім зрэзе: сацыяльнае развіццё павінна апярэджваць астатнія накірункі рэфарміравання аграпрамысловага комплексу.

**Гутарыў**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

---

*НАЎЗДАГОН*

*Мікалай ГУРЫН:*

# «РЭФАРМІРАВАННЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ РАНА ЦІ ПОЗНА, АЛЕ АДБУДЗЕЦЦА»

На мінулым тыдні ў Мінску адбыўся рэспубліканскі семінар-нарада па праблемах развіцця фермерскіх гаспадарак. Так атрымалася, што па тэрмінах правядзення мерапрыемства супала з пяцігоддзем з моманту прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы». Гэтыя дзве акалічнасці сталі нагодай для сустрэчы карэспандэнта «Звязды» з намеснікам кіраўніка ўпраўлення рэфарміравання, прыватызацыі і сацыяльнага развіцця Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Мікалаем Гурыным.

**— Мікалай Мікалаевіч, давайце прыгадаем: недалёкія перабудовачныя гады прайшлі пад акампанемент размоў аб тым, што на зямлі павінен з'явіцца гаспадар. Тым не менш (па стану на 1 лютага), на Беларусі за ўсе гады рэформаў створана толькі 3037 фермерскіх гаспадарак, прычым 488 з іх ужо спынілі сваё існаванне. Такім чынам, масавай фермерызацыі краіны не адбылося. Чаму?**

— Фермерства на Беларусі — праблема неадназначная, і вырашэнне яе залежыць ад многіх фактараў. Па-першае, гэта пытанне псіхалогіі, бо весці самастойную гаспадарку наважыцца далёка не кожны. Як правіла, такі крок вымушаны і тлумачыцца ён беспрацоўем.

Другі фактар чыста эканамічны. Напрыклад, у 1991 годзе фермер-пачатковец меў магчымасць атрымаць крэдыт пад 2 працэнты гадавых і набыць за яго ўвесь неабходны набор сельгастэхнікі. Зараз крэдыт выдаецца з разліку 5 мільёнаў на кожны гектар зямлі. Калі сярэдні фермерскі надзел складае 20 гектараў, то атрымліваецца, што гэтых грошай не хопіць нават на адзін трактар. Да таго ж сёння крэдыт выдаецца ўжо пад 36 працэнтаў гадавых. Для камерсантаў гэта, вядома, мізэр, але для фермера такі працэнт не такі ўжо і маленькі. Асабліва калі ўлічыць, што выплату працэнтаў па крэдыту ён мусіць пачаць літаральна з першага месяца пасля атрымання грошай. Але вядома: прыбытак з'явіцца толькі тады, калі фермер вырасціць і здасць прадукцыю. І дай Бог, каб пасля гэтага на працягу хаця б двух-трох месяцаў ён атрымаў свае зробленыя грошы. Бо ёсць выпадкі, калі разлікі затрымліваюцца на паўгода.

Нарэшце, вельмі балючай для станаўлення фермерства праблемай апошнім часам можна лічыць законапаслухмянасць кіраўніцтва на месцах. Альбо, кажучы інакш, — праблему атрымання зямлі. У законе вызначана, што зямлю павінен выдзяляць райвыканком са згоды кіраўніка калгаса ці саўгаса. Таму фактычна пытанне ўпіраецца ў жаданне (ці, дакладней, — у нежаданне) апошняга. З іншага боку, ніякіх прававых рычагоў уздзеяння тут няма. Як вынік, працэс выдзялення фермерам зямлі рэзка запаволіўся. Калі ж зямля ў рэшце рэшт і даецца, як правіла, яна далёка не лепшай якасці.

**— Наконт апошняга можна заўважыць: значны ўплыў на прыняцце рашэнняў аб выдзяленні зямлі фермерам аказваюць агульныя сацыяльныя праблемы вёскі...**

— Сапраўды, пры ўсёй, на першы погляд, недарэчнасці гэтага тэзіса, факт застаецца фактам: на вёсцы існуе вялікі лішак працоўных рэсурсаў. Так, у сярэднім на аднаго калгасніка прыпадае ўсяго 2-3 гектары зямлі. Калі ў такіх варунках выдзеліць фермеру 20 ці, скажам, 50 гектараў, праблема толькі абвострыцца. Зразумела, гэтага нельга не ўлічваць.

**— Усё сказанае вышэй можна аднесці да цяжкасцей аб'ектыўных. Але многае залежыць ад саміх фермераў.**

— Тут таксама існуюць праблемы, і першнаперш — эканамічная і псіхалагічная раз'яднанасць фермераў. Нярэдка сярод іх можна пачуць: у калгасах мы ўжо папрацавалі і больш не жадаем. Але мяркуйце самі, навошта фермеру на тыя ж 20 гектараў набываць асобны трактар ці камбайн — тэхніку, якая за выключэннем некалькіх тыдняў будзе прастойваць цэлы год? Кааперацыя павінна шырока ўжывацца не толькі пры вытворчасці прадукцыі, але і пры яе перапрацоўцы, пры абслугоўванні тэхнікі і г. д. Гэта не мая асабістая думка, гэта, калі хочаце, шлях усяго Захаду.

**— Вядома, што на Беларусі існуе Саюз фермераў. Наколькі ён сябе апраўдвае?**

— У саюз, які па логіцы мусіў аб'яднаць усіх, хто вядзе самастойную гаспадарку, уваходзяць толькі каля шасцісот з трох тысяч фермераў. У большасці ж пазіцыя такая: што нам гэты саюз дасць? Аднак не сакрэт — фермеру патрэбны не толькі матэрыяльныя сродкі, але і пэўная, магчыма, нават палітычная, арганізацыя, якая будзе адстойваць інтарэсы гэтай сацыяльнай катэгорыі.

**— Два гады таму была спроба выдаваць адмысловую газету для фермераў — «Новая зямля». Што з ёй зараз?**

— Газета была вельмі неабходная і добрая, але разам з тым і вельмі запалітызаваная.

Паколькі «Новая зямля» фінансавалася з фонду падтрымкі фермерскіх гаспадарак, мінулым летам, падчас распрацоўкі новага палажэння аб фондзе, мы спрабавалі ўставіць асобны пункт аб газеце. На жаль, не атрымалася.

**— Дарэчы, наколькі значная дзяржаўная падтрымка фермерскіх гаспадарак?**

— Грошы выдаткоўваюцца, але з вялікімі складанасцямі. Напрыклад, летась з запланаваных 61,5 млрд. рублёў было атрымана толькі 44 млрд. 225 мільёнаў. На гэты год у праекце бюджэту вызначана 80 мільярдаў, прытым на першы квартал — 19 мільярдаў. Але зноў: пакуль пералічана толькі 1 млрд. 300 мільёнаў рублёў.

За кошт фонду падтрымкі фермерскіх гаспадарак праводзіцца электрычнасць, вада, дарогі і г. д.

На гэтыя мэты ідзе прыкладна 70 працэнтаў ад усіх выдаткоўваемых сродкаў. На жаль, далёка не паўсюль ставяцца да гэтых грошай ашчадна, па-гаспадарску. З іншага боку, напрыклад, у Старадарожскім, Смалявіцкім, Дзяржынскім раёнах кіраўніцтва імкнецца размяшчаць фермерскія гаспадаркі, па-першае, кампактна, і па-другое, побач з паміраючымі вёскамі. Калі пракладваецца дарога, яна вядзецца не толькі да некалькіх фермерскіх сядзіб адразу, але і да бліжэйшай вёскі. Тое ж самае можна сказаць пра электрычнасць, водазабеспячэнне і г. д.

**— Відаць, нельга абысці ўвагай і тэму адносінаў да фермераў жыхароў навакольных вёсак...**

— Выпадкаў, калі згаралі фермерскія сядзібы, сапраўды нямала. Шмат выпадкаў рэкету, рабавання фермераў. Але, як правіла, гэтыя фермеры самі не здолелі «ўпісацца» ў дадзенае сацыяльнае акружэнне. Бо ёсць і адваротныя прыклады: калі фермер дапамагае жыхарам бліжэйшых вёсак касіць сена, вазіць дровы і нават адчыняе для іх невялікія крамкі. Зразумела, і стаўленне да такіх фермераў зусім іншае.

**— Мікалай Мікалаевіч, як бачна, сёння праблем у фермерства шмат. Але ўсё-такі: ці мае яно перспектывы на Беларусі?**

— Рэфарміраванне нашай сельскай гаспадаркі рана ці позна, са скрыпам ці не, але адбудзецца. Тут не варта выдумляць веласіпед — за фермерствам будучыня. Праўда, трэба не проста падзяліць зямлю, але адначасова імкнуцца знізіць сабекошт сельгаспрадукцыі, стварыць на вёсцы новыя працоўныя месцы — напрыклад, тыя ж перапрацоўку прадукцыі, сферы абслугоўвання і гандлю не абавязкова выносіць толькі ў буйныя гарады.

Увогуле ж, я гляджу на перспектывы фермерства з аптымізмам. Бо з цяперашніх фермераў прынамсі кожны трэці — у добрым сэнсе фанатык сваёй справы, ён кіне яе хіба што пад дулам аўтамата. Менавіта гэтыя людзі павінны стаць тым падмуркам, з якога пачнецца адраджэнне нашай вёскі.

**Сяргей ГРЫБ.**

**Аляксандр ГРЫГОР'ЕЎ, намеснік старшыні праўлення «Міжкамбанка»:**

# «МЫ ПРЫЙШЛІ Ў БЕЛАРУСЬ ЗАРАБЛЯЦЬ ГРОШЫ. СКУПКА БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І БАНКАЎ У НАШЫ ПЛАНЫ НЕ ЎВАХОДЗІЦЬ»



**Днямі ў Мінску маскоўскі камерцыйны банк «Міжкамбанк» праводзіў аднадзённы семінар з удзелам вядучых банкаўскіх спецыялістаў Беларусі. Правядзенне такіх мерапрыемстваў у рэспубліцы для дзелавых людзей з Расіі стала ўжо добрай традыцыяй, таму мяркуем, што беларусам цікава было б ведаць, чаму масквічы праяўляюць да іх такую ўвагу, што сёння ўяўляе сабой «Міжкамбанк» у Расіі.**

## *Кароткая даведка*

***«Міжкамбанк» пачаў працаваць у чэрвені 1990 года і за кароткі тэрмін па асноўных якасных і колькасных паказчыках увайшоў у лік буйнейшых незалежных камерцыйных банкаў Расіі. З'яўляючыся універсальным крэдытным інструментам, «Міжкамбанк» спецыялізуецца на абслугоўванні знешняга гандлю, валютных аперацыях і міжнародных разліках.***

***Індывідуальны падыход да патрэб кожнай кампаніі і высокі стандарт якасці дазволіў «Міжкамбанку» сфарміраваць шырокую кліентурную базу, якая складаецца з вядучых знешнегандлёвых аб'яднанняў, сумесных прадпрыемстваў і іншафірмаў, такіх, як «Аўтаімпарт», «Тэхмашэкспарт», «Тэхмашімпарт», «Экспартлес», «Саюзхімэкспарт», «Гамахім», «Авіяэкспарт», «Энергамашэкспарт»,«Ладаэкспарт», «Mc Donald`s —Moskow», «Coca-Cola», «МТД Volvo — Sevice», «Philips», «Reuters» і іншыя.***

***«Міжкамбанк» мае генеральную ліцэнзію Цэнтральнага банка Расіі па правядзенню валютных аперацый і дазвол на работу з каштоўнымі металамі. Банк з'яўляецца членам міжнароднай дылінгавай сеткі «Reuters Dealing», сістэм S.W.I.F.T., Micex, заснавальнікам і ўдзельнікам Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы, афіцыйным дылерам Цэнтральнага банка Расіі па аперацыях з дзяржаўнымі кароткатэрміновымі бескупоннымі аблігацыямі.***

***Аб тым, з якой мэтай «Міжкамбанк» прыйшоў у Беларусь, як ён прыжыўся ў рэспубліцы, якую праводзіць палітыку, — наша размова з намеснікам старшыні праўлення «Міжкамбанка» Аляксандрам Грыгор'евым.***

**— Аляксандр Валер'евіч, мяркую, што многім і спецыялістам айчыннай банкаўскай аферы, і проста звычайным абывацелям цікава будзе ведаць, з якой мэтай буйны маскоўскі банк з'явіўся ў Беларусі?**

— Мы прыйшлі сюды зарабляць грошы. Праўда, скупка прадпрыемстваў і банкаў у нашы планы не ўваходзіць.

Калі казаць больш канкрэтна, то «Міжкамбанк» жадае працаваць з беларускімі банкамі, не абнадзейваючы пры гэтым эканоміку рэспублікі прамымі партфельнымі інвестыцыямі.

Мы прыйшлі на беларускі рынак прыкладна 2,5 года таму. Першым нашым партнёрам быў «Белпрамбудбанк». Аднак мы даволі хутка асвоіліся, і круг нашых партнёраў імкліва пашыраўся. Сёлета, акрамя «Белпрамбудбанка» партнёрамі «Міжкамбанка» з'яўляюцца «Белаграбанк», «Белзнешэканомбанк», а дзесьці паўтара года таму прыбавіліся «Белбізнесбанк» і «Пріорбанк».

**— У чым жа заключаецца спецыфіка работы вашага банка?**

— Яна заключаецца ў тым, што мы працуем з буйной кліентурай і зарыентаваны на індывідуальнае абслугоўванне буйнога банка.

Наогул, у Беларусі зараз мы працуем прыкладна з дзесяткам банкаў і хацелі б наладзіць супрацоўніцтва з яшчэ большай колькасцю такіх фінансавых структур, аднак мы не заўсёды можам задаволіць патрэбы таго ці іншага дробнага банка ў цэнавай палітыцы.

Дарэчы, адзін з відаў нашай дзейнасці — клірынг, па якому мы працуем з 52 банкамі Украіны.

**— Скажыце, з якой максімальнай сумай банкаўскай аперацыі вы згодзіцеся працаваць?**

— Канешне, калі беларускі бок прапануе нам сумесны праект на 10, 20 ці 30 мільёнаў рублёў, то з такімі грашыма працаваць будзе проста нецікава.

Мінімальная стаўка — 1 мільярд расійскіх рублёў, ці 2—3 мільярды беларускіх. Гэта менавіта тая сума, з якой мы пачынаем працаваць і пачынаем забяспечваць вельмі добрыя і прывабныя ўмовы для беларускіх банкаў, якія могуць знайсці сваё вырашэнне ў выглядзе спецыяльных траставых аперацый, разлікаў па Расіі, у форме міжнародных разлікаў.

Для мяне сёння крыху дзіўна, чаму ў Беларусі слаба развіты дакументарныя аперацыі па міжнародных разліках беларускіх банкаў як з Расіяй, так і з банкамі далёкага замежжа. У гэтым плане той жа Узбекістан значна абышоў вашу рэспубліку. Мы вельмі актыўна працуем з многімі прадпрыемствамі гэтай краіны, у якой даволі шырока выкарыстоўваюцца дакументарныя акрэдытывы і дакументарныя гарантыі.

А гэта ж форма разлікаў, якая абараняе перш за ўсё інтарэсы беларускіх прадпрыемстваў, паколькі існуюць аб'ектыўныя супярэчнасці паміж інтарэсамі банкаў і інтарэсамі прадпрыемстваў.

Пры гэтым акрэдытыў — тая форма разлікаў, якая забяспечвае кампраміс паміж гэтымі супярэчнасцямі і забяспечвае абарону прадпрыемстваў як пры імпарце, так і пры экспарце.

На мой погляд, беларускія банкі маглі б больш актыўна выкарыстоўваць акрэдытывы і гарантыі.

**— Аляксандр Валер'евіч, на ваш погляд, як далёка адарвалася Расія ў вядзенні банкаўскай справы ад Беларусі і іншых краін СНД?**

— Ведаеце, пасля распаду СССР Расія гадоў на 10 апярэджвала некалі братнія рэспублікі. Потым гэтая дыстанцыя скарацілася дзесьці да 5 гадоў. І зараз адставанне ліквідуецца высокімі тэмпамі. Думаю, што праз 2-3 гады ніякай розніцы ў банкаўскіх структурах Расіі, Беларусі, Украіны, Казахстана не будзе.

**— Не сакрэт, што Беларусь апошнім часам збіраюцца наведаць некаторыя расійскія банкі, адкрыўшы тут свае прадстаўніцтвы. Гэта ў поўнай меры датычыцца да маскоўскага банка «Расійскі крэдыт». А расійскае акцыянернае таварыства «Газпром» купляе 70 працэнтаў акцый беларускага банка «Алімп».**

**Ці не чакаецца такога кроку з боку «Міжкамбанка»?**

— Спачатку коратка аб ідэалогіі «Міжкамбанка» наконт прыходу ці непрыходу на нейкі рынак ў выглядзе прадстаўніцтва.

Сёння мы маем свае філіялы і рабочыя структуры ў Англіі, Бахрэйне, Кіеве. Нам прапаноўвалася некалькімі банкамі Беларусі заснаваць у Беларусі прадстаўніцтва ці даччыны банк. Але мы адмовіліся, таму што зыходзілі з чыста этычных меркаванняў.

Уявіце сабе сённяшнюю расійскую банкаўскую мадэль. Калі б два - тры гады таму да нас прыйшлі галандскі ING Bank ці швейцарскі Credit Suisse і яшчэ шэраг вядучых банкаў свету, то яны адразу занялі б першыя 10 пазіцый сярод буйнейшых банкаў Расіі.

Але ж іншаземныя банкіры прыйшлі да нас у мінулым годзе і занялі месцы ў чацвёртым дзесятку расійскіх банкаў. І мы зараз іх не баімся.

Тая ж самая сітуацыя назіраецца і ў вас. Калі сюды прыйдуць буйныя расійскія банкі з больш передавымі тэхналогіямі і методыкамі, з больш высокім аб'ёмам рэсурсаў, то яны нажывуць ворагаў з ліку вядучых беларускіх банкаў, паколькі ўзнікае супярэчнасць інтарэсаў, за якой звычайна ідзе канфлікт.

А вось праз тры гады беларускія банкі дасягнуць такой стадыі капіталізацыі і такога ўзроўню развіцця, што яны спакойна прымуць прышэльца і будуць з ім працаваць на роўных.

**— Аляксандр Валер'евіч, вы вельмі ўпэўнена расказваеце пра патэнцыял многіх расійскіх банкаў у параўнанні з беларускімі. Між тым, у банкаўскай сістэме Расіі назіраецца крызіс.**

— Вы маеце рацыю. Расійская банкаўская сістэма перажывае сёння не лепшыя часы. Вельмі незайздроснае становішча ў «АўтаВАЗбанка», «Унікомбанка», «Рускага харчовага банка». У нас ёсць інфармацыя, што ў Расіі каля дзесятка буйнейшых банкаў знаходзяцца ў вельмі цяжкім стане. Гэта сведчыць аб тым, што наступае крызіс. Аднак астатнія банкі, сярод якіх «Міжкамбанк», выжывуць. Не сумняваюся, што яны дастойна пройдуць гэты этап і будуць паспяхова працаваць далей.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# Белдзяржпатэнт: таварныя знакі ад «пірацтва» застрахаваць не можам

**У СВЕЦЕ ІСНУЕ шмат спосабаў зарабіць грошы. Аб гэтым яшчэ заяўляў герой Ільфа і Пятрова Астап Бендэр, у якога было 400 варыянтаў «скалаціць» капейку. Праўда, з развіццём цывілізацыі круг іх значна пашырыўся. І сёння ўжо можна смела сцвярджаць, што чалавецтва зрабіла вялікі крок наперад у гэтым накірунку. З'явіўся універсальны спосаб «рабіць грошы», які заснаваны ўсяго толькі на выкарыстанні звычайнага таварнага знака. Хто, напрыклад, не чуў пра «Adidas», «Мерседэс», «Мальбара»?**

У краінах з развітой рыначнай эканомікай пры продажы фірмаў улічваецца не толькі кошт асноўных і абаротных фондаў, але і вартасць іх таварнага знака, маркі прадукцыі, якія могуць быць у шмат разоў вышэй за кошт таго абсталявання, на якім гэтая прадукцыя вырабляецца.

Напрыклад, таварны знак «Кэмел» ацэнены ўладальнікам у 10 мільёнаў долараў. Гаспадар «Coca Cola» гатовы падумаць наконт продажу сваіх васьмі літар не менш чым за 3 мільярды «зялёных». Карпарацыя «Філіп-Морыс» купіла фірму «Крафт» амаль за 13 мільярдаў долараў ЗША, што ў чатыры разы перавышае балансавы кошт фірмы. А таварны знак вядомай у свеце гарэлкі «Сталічная» на знешнім рынку складае ні многа ні мала, а $ 400 мільёнаў. Гэта лічба прыраўніваецца дзесяцігадоваму аб'ёму продажу савецкай гарэлкі за мяжу з маркай «Сталічная».

Таму не дзіўна, што ў бязмежным моры ананімных тавараў вырабы, што носяць на сабе вядомыя таварныя знакі, ствараюць эліту таварнага свету, за імі стаяць адсутнасць праблем са збытам прадукцыі, вялікія абаротныя капіталы, рэклама прадукцыі і, безумоўна, росквіт фірмы.

Апошнім часам высокую рэпутацыю знакамітых таварных знакаў стараюцца скарыстаць у якасці крымінальнай прынады розныя структуры падпольнага бізнесу, прапануючы даверлівым пакупнікам шырокі набор халтуры ў выглядзе адзення, абутку, парфумы, прадуктаў харчавання пад маркай вядомай у свеце фірмы.

Не абышоў гэты працэс і Беларусь, да якой, як і да большасці краін былога Саюза, подых цывілізацыі дайшоў са значным спазненнем. Раней, як вядома, патрэбы ў прыярытэце свайго таварнага знака над іншымі як бы і не было: уся прадукцыя маркіравалася вядомым савецкім пяцікутнікам, што азначала Знак якасці. Аднак час дыктуе свае ўмовы, і сёння ўжо рэспубліцы патрэбна мець самастойныя рычагі, каб падтрымліваць парадак на рынку прадукцыі з вядомымі таварнымі знакамі, рэгуляваць узаемаадносіны паміж іх гаспадарамі і звычайнымі спажыўцамі тавараў, абараняць свае і замежныя фірмы ад пірацтва з боку тых, хто хоча нажыцца «на халяву», а таксама даваць развіццё новым відам прадукцыі, рэгіструючы яе па жаданню гаспадара пад сваім таварным знакам.

Усімі гэтым справамі займаецца дзяржаўнае патэнтнае ведамства, утворанае тры з паловай гады таму. Аб тым, што гэта за служба, як яна прыжылася ў Беларусі, — наша размова з начальнікам аддзела экспертызы таварных знакаў і прамысловых узораў Яўгенам Зінкевічам.

**— Яўген Віктаравіч, кажуць, што з'яўленне нейкага новага структурнага падраздзялення ў эканоміцы заўсёды выклікана вострай неабходнасцю.**

— Не магу адказваць за іншыя новаўвядзенні ў выглядзе розных камісій, інспекцый, а вось у з'яўленні свайго патэнтнага ведамства Беларусь даўно мела неабходнасць. І перш за ўсё для таго, каб наша рэспубліка ў вачах замежных партнёраў, якія выпускаюць шэраг вядомых у свеце тавараў, выглядала цывілізаванай дзяржавай.

Белдзяржпатэнт — гэта афіцыйны дзяржаўны орган, які займаецца экспертызай аб'ектаў прамысловай уласнасці (вынаходніцтва, прамысловыя ўзоры, таварныя знакі), на аснове вынікаў якой мы прымаем рашэнне. Калі яно станоўчае, то заяўніку будзе выдадзены патэнт на вынаходку, патэнт на прамысловы ўзор і пасведчанне на таварны знак. А калі адмоўнае, то такі ахоўны дакумент на рукі не выдаецца. Праўда, у гэтым выпадку ў заяўніка ёсць права апратэставаць рашэнне экспертызы, прадставіць сваё матываванае пярэчанне ў суд. Па выніках яго пытанне можа вырашыцца на карысць заяўніка ці застацца без змянення.

**— Сёння надзвычай актуальным з'яўляецца выкарыстанне таварнага знака, паколькі менавіта па ім вызначаецца попыт на тую ці іншую прадукцыю.**

— Усё даволі проста. Калі чалавек — фізічная ці юрыдычная асоба — стаў гаспадаром нейкага таварнага знака, то ніхто без яго дазволу не можа карыстацца значком ці надпісам. Праўда, калі ўладальнік па свайму жаданню ці на нейкіх умовах хоча поўнасцю ўступіць таварны знак іншай асобе, ці надзяліць правам карыстання гэтай сімволікай часткова — то калі ласка. Няхай толькі аформіць сваё рашэнне праз Белдзяржпатэнт.

**— Вы можаце сказаць, які аб'ём работы выкананы айчынным патэнтным ведамствам за гады існавання?**

— Заяўкі на рэгістрацыю таварных знакаў паступаюць па двух накірунках. Першы — міжнародны. У красавіку 1993 года Беларусь далучылася да так званага мадрыдскага пагаднення «Аб міжнароднай ахове таварных знакаў». Сутнасць гэтага пагаднення ў наступным: краіна ці заяўнік, падаўшы адну толькі заяўку ў Жэневу, у Сусветную арганізацыю інтэлектуальнай уласнасці (САІУ), можа атрымаць ахову таварнага знака ва ўсіх дзяржавах, якія падпісалі дакумент у Мадрыдзе.

Дык вось, па лініі міжнароднай у нашу арганізацыю паступіла каля 7 тысяч заявак, а ў нацыянальнае ведамства крыху менш.

На сённяшні дзень праверана звыш 1000 заявак, на многія з якіх выдадзены патэнтныя дазволы і пасведчанні. Механізм іх выдачы, згодна з законам Рэспублікі Беларусь, не вельмі складаны. Схема такая: падача заяўкі — экспертыза — рашэнне. Калі станоўчае, то далей ідуць аплата дзяржпошліны і рэгістрацыя.

**— На ваш погляд, ці здольны зараз гэты закон абараніць права ўладальніка на таварны знак?**

— Не, вядома. Сённяшняму часу вельмі ўласцівы выпадкі «пірацкага» выкарыстання таварных знакаў. А сістэмы, якая б дазваляла яго ўладальніку быць упэўненым, што сімволіку не ўкралі, практычна няма. І мы застрахаваць ад «пірацтва» нікога не можам.

У нас, на жаль, пакуль няма патэнтнага суда. У гэтай галіне права малавата кампетэнтных суддзяў. Аднак у «Белдзяржпатэнце» створаны і афіцыйна пачынае дзейнічаць адміністрацыйны орган, які будзе вырашаць спрэчкі ў адносінах да таварных знакаў. Гэта — апеляцыйны савет.

**— Мяркую, ён зоймецца раскруціць клубок вакол таварнага знака «Гарэлка Крамлёўская», гаспадаром якой напачатку аднаасобна быў беларускі патэнтауладальнік Цярэшчанка... А потым раптам уладальнікам «крамлёўкі» стала і адна маскоўская фірма.**

— Сапраўды, «Гарэлка Крамлёўская» — гэта этыкетка-таварны знак, афіцыйна зарэгістраваны ў Беларусі на імя Мікалая Цярэшчанкі. А з Масквы зараз ад адной арганізацыі ў апеляцыйны савет паступіў пратэст. У сваёй матывацыйнай скарзе масквічы прыводзяць шэраг довадаў, якія зводзяцца да аднаго: рэгістрацыя таварнага знака «Гарэлка Крамлёўская» была зроблена з парушэннем пэўных пунктаў закона.

Вырашыць гэтую спрэчку — прэрагатыва апеляцыйнага савета пры патэнтным ведамстве, які ва ўстаноўленым парадку разгледзіць скаргу расійскага боку і вынесе вердыкт.

**— Яўген Віктаравіч, наколькі я ведаю, «гарэлка «Крамлёўская»» быццам бы выпускалася ў Бельгіі.**

— Так. Атрымалася, што іншаземцы зблыталі ўсе карты спадару Цярэшчанку. Пасля таго, як ён падаў заяўку на рэгістрацыю «крамлёўкі», тое ж самае зрабіла і адна бельгійская фірма. Заўважце, што і малюнак, і надпіс «Крамлёўская» былі вельмі падобныя, я ўжо не кажу пра саму назву. У такіх выпадках прыярытэт мае той, хто раней атрымаў пасведчанне аб таварным знаку. У гэтым выпадку перавага на баку нашага земляка. Таму беларуская экспертыза прыняла рашэнне аб адмове бельгійцам у рэгістрацыі таварнага знака «Гарэлка Крамлёўская». Мы зыходзілі таксама з таго, што, калі б гарэлка з такой назвай і з элементамі Крамля стала выпускацца за мяжой, то наш спажывец памылкова думаў бы, што ўказаны напой выпускаецца дзесьці ў Расіі ці ў Беларусі.

Што ж тады робіць бельгійская фірма? Яна пераўступае права на міжнародную заяўку прадпрымальнікам з Масквы, якія ўжо знаходзяцца бліжэй да Крамля, чым беларус, і як бы маюць на назву «Крамлёўская» больш правоў. А падабенства назвы і малюнка пры гэтым застаецца. Дык вось, высветліць, хто мае больш правоў на выкарыстанне ў Беларусі назвы «Гарэлка Крамлёўская», у хуткім часе прыйдзецца апеляцыйнаму савету.

**— Яўген Віктаравіч, а калі ўявіць сабе, што заўтра да вас прыйдуць пасланцы фірмаў, якія захочуць зарэгістраваць сабе «Adidas» ці «Coca Cola», таму што ў Беларусі гэты таварны знак не зарэгістраваны...**

— Але ж не забывайце, што гэтыя назвы вельмі папулярныя ў свеце. І толькі па гэтай прычыне мы адмовім заяўніку. Дарэчы, аб гэтым сказана ў адным з артыкулаў Парыжскай канвенцыі. Наогул, вызначаць вядомасць таго ці іншага таварнага знака — прэрагатыва патэнтнага ведамства ці судовага органа. Аднак такія назвы, як «Ford», «Kodak», «Pepsi»,»Puma» і г. д., з'яўляюцца агульнавядомымі, і тут у нас не ўзнікае пытанняў.

**— Што ж тады чакае «падпольшчыка», які «нелегальна» выкарыстоўваў імя вядомай фірмы ў карыслівых мэтах і трапіў у поле зроку сапраўднага ўладальніка таварнага знака?**

— Гаспадар мае поўнае права падаць на аферыста ў суд, які павінен прымяніць да яго штрафныя санкцыі і канфіскаваць тавар з фірменным знакам.

**— Яўген Віктаравіч, на ваш погляд, у Беларусі ёсць свае таварныя знакі, па якіх пакупнік адразу вызначае яго прыналежнасць?**

— Вядома. Я адзначыў бы таварныя знакі такіх фірмаў, як «Люваль», «Дайнова», «Пушэ». Не сумняваюся, што колькасць іх будзе расці. Бо папулярнасць у народзе сімвала той ці іншай арганізацыі — гэта якасць і прэстыж іх прадукцыі.

А гэта цягне за сабой высокі тавараабарот і бязбеднае фінансавае існаванне, аб чым сёння многім можна толькі марыць.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# ЛАЎРЭНЦІЙ ЦАНАВА — «ЛЕТАПІСЕЦ» ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ НА БЕЛАРУСІ?




**Доўга прадстаўляць кіраўніка НКУС БССР у гады сталінскіх рэпрэсій Л. Цанаву няма патрэбы. Перад намі дзеяч, на чым сумленні не адно загубленае жыццё, не адзін зламаны чалавечы лёс.**

**Але не ўсім вядома спроба былога міністра ўстанавіць манаполію на права напісання кніг па гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай. Відавочным было прамое злоўжыванне службовым становішчам.**

Усё пачалося з выпадковай гутаркі ў ЦК КПБ Л. Цанавы з першым сакратаром ЦК М. Гусаравым. Размова адбывалася ў другой палове ліпеня 1948 года і тычылася галоўным чынам падрыхтоўкі гаспадарак рэспублікі да ўборкі ўраджаю. Здавалася, што яна ў рамках гэтага пытання і закончыцца. Але нечакана сакратар ЦК закрануў тэму трыццацігоддзя ўтварэння БССР: яму хацелася правесці свята «з помпай» і падключыўшы да яго шырокія колы грамадскасці, у тым ліку і навукоўцаў. У гэты момант Цанава і прапанаваў сябе ў якасці... аўтара працы па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Гусараў не выказаў якіх-небудзь пярэчанняў грознаму субяседніку.

Хацеў гэтага Цанава ці не, але ён сапраўды натрапіў на вельмі важную для рэспублікі тэму: лёс краіны і яе жыхароў у гады вайны. Больш за 2 мільёны загінуўшых грамадзян БССР — гэтая лічба гаворыць не толькі аб ахвярах, але і аб вялікім укладзе беларускага народа ў разгром фашысцкіх захопнікаў.

Да таго часу ў асноўным закончылася работа па перадачы ў архіўныя фонды дакументаў былога Беларускага штаба партызанскага руху і была вылучана камісія для распрацоўкі парадку доступу да гэтага матэрыялу, у якую ўключылі і Цанаву. У тую пару пачала складвацца рэспубліканская школа вучоных-гісторыкаў — з ліку маладых людзей і прайшоўшых шляхі вайны даследчыкаў. Не было нічога дзіўнага ў іх намеры выдаць збор навуковых прац па ваеннай тэматыцы. Гэта думка хвалявала і кіруючых асоб, сярод якіх нямала было ветэранаў вайны, асабліва былых партызан. І яны гатовы былі прыняць удзел у творчым асваенні здзейсненага ў 1941—1945 гг.

Усё гэта насіла аб'ектыўны, заканамерны характар. Тыя людзі, якія засталіся ў жывых, хацелі аддаць належнае памяці загінуўшых у час самай суровай у гісторыі цывілізацыі вайны, пачаць шырокае і прынцыповае вывучэнне таго, што адбылося ў краіне за чатыры гады.

А Цанава разглядаў тэму «Беларусь і вайна» як магчымасць вырашыць не толькі грамадскія, але і асабістыя задачы. На гарызонце перад ім маячылі лаўры пісьменніка-баталіста.

Праўда, саіскальнік будучага грамадскага прызнання разумеў штучнасць свайго становішча. Таму аднойчы, каб неяк застрахаваць сябе з гэтага боку, ён у час выступлення на бюро ЦК КПБ як бы між іншым зазначыў пра сваю вялікую арганізатарскую работу па засылцы ў Беларусь у час вайны дыверсійных чэкісцкіх груп. З ім, пераглянуўшыся, пагадзіліся члены бюро і запрошаныя. Да таго часу ЦК ужо ведаў аб сапраўдным інтарэсе кіраўніка вядучага сілавога міністэрства ў гэтым пытанні.

У адзін са жнівеньскіх дзён 1948-га кабінет Цанавы стаў своеасаблівым месцам правядзення нейкага імправізаванага навуковага савета. Сюды былі выкліканы адказныя супрацоўнікі апарату ўпраўлення МДБ рэспублікі Дзеравянка Аляксандр Васільевіч, Марозкін Георгій Сямёнавіч, Сапелкін Мацвей Васільевіч і Салюцін Мікалай Рыгоравіч. Троххвіліннае ўступнае слова гаспадара кабінета насіла характар загаду. Запрошаным было даручана напісанне знакамітай зараз кнігі, якая ў канчатковым варыянце атрымала назву «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў». Цікава, што сярод сапраўдных аўтараў толькі адзін меў вышэйшую адукацыю, яшчэ адзін з'яўляўся непасрэдным удзельнікам партызанскага руху ў Беларусі, і не было ніводнага беларуса.

Актыўны ўдзельнік гэтай падзеі А. Дзеравянка ўспамінаў: «Работа пачалася з таго, што мы склалі прыкладны план будучай кнігі і прадставілі яго на разгляд «аўтару» кнігі Л. Цанаве...

Матэрыялы збіраліся даволі доўга. Па шэрагу пытанняў... звярталіся ў Беларускі музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, у партархіў ЦК КП Беларусі ў горадзе Магілёве, куды мы выязджалі ў камандзіроўку адзін ці два разы, у архіў МУС БССР у г. Мінску, да начальнікаў абласных упраўленняў МДБ (яны рабілі гэта па асабістай просьбе Цанавы). Даводзілася таксама звяртацца да шэрагу партызанскіх камандзіраў, якія або давалі матэрыял у пісьмовым выглядзе, або расказвалі вусна. Шэраг матэрыялаў Цанава атрымаў асабіста ў ЦК КП Беларусі і ў ЦК ЛКСМБ».

Аб шырокім разгортванні збору «фактуры» таксама сведчыць паказанне былога супрацоўніка МДБ БССР А. А. Сяргеева (сакавік 1954 г.): «Па асабістаму ўказанню Цанавы мною і іншымі начальнікамі ўпраўленняў для гэтай кнігі збіраліся ў вобласці (Віцебскай) факты аб патрыятычнай дзейнасці грамадзян, якія знаходзіліся пад акупацыяй немцаў. Гэтыя факты перапраўляраліся праз адпаведныя органы РА МУС (дарэчы, такое заданне мною давалася ўсім нач. РА МУС), пасля чаго абагульняліся і ў выглядзе даведак накіроўваліся ў сакратарыят міністэрства, дзе гэтыя матэрыялы праходзілі адпаведную апрацоўку і аддаваліся ў друк».

Міжволі ўзнікае адчуванне, быццам гістарычную працу рыхтавала, адклаўшы ўбок надзённыя справы, калі не ўся Беларусь, дык добрая яе палова.

Вось што сцвярджаецца адносна асабістага ўкладу Л. Цанавы ў паказаннях Г. Марозкіна:

«Аб несумленнасці Цанавы гавораць яго паводзіны пры напісанні кнігі «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў» ...Былі выпадкі, калі Цанава нам гаварыў, што ён прыедзе ў міністэрства ў дзесяць гадзін раніцы ў нядзелю. Мы добрасумленна прыходзілі з Дзеравянкам і працавалі, а Цанава пазвоніць нам па тэлефоне, каб мы чакалі, а фактычна прыязджаў тады ў гадзін пяць-шэсць і, азнаёміўшыся з тым, што мы зрабілі, пачынаў нас лаяць, называць гультаямі, гаварыў, што мы зрабілі мала. Нярэдка наогул у нядзельныя дні, калі мы працавалі, ён не прыязджаў. Роля Цанавы не абмяжоўвалася толькі гэтым. Ён прымаў удзел разам з намі ў складанні плана кнігі, праглядваючы напісанае намі, рабіў заўвагі, у адпаведнасці з якімі мы ўносілі праўкі. Быў выпадак, калі дзве старонкі Цанава напісаў сам, але калі мы прачыталі з Дзеравянкам напісанае ім, то рашуча ўсё перарабілі. Былі выпадкі, калі ён дыктаваў нам тэзісна, што на яго думку павінна быць сказана ў адпаведных раздзелах кнігі, але ўсё гэта патрабавала ад нас вялікай самастойнай работы па напісанню асобных раздзелаў».

Захаваліся паказанні машыністак міністэрства дзяржбяспекі Казаковай, Самонавай і Тарабрынай. Яны аднадушна сцвярджаюць, што ў першапачатковым выглядзе матэрыялы кнігі напісаны рукой Дзеравянкі, Марозкіна, Сапелкіна і Салюціна. У аўтарстве Цанаве адмаўляюць, бо яго почырк добра ведалі.

З адной з крыніц вядома, што Цанава абяцаў ва ўступе да першай кнігі падзякаваць людзям, якія з ім супрацоўнічалі. Гэта сусветная форма ўзаемапаважлівых адносінаў паміж творчымі асобамі. Але нават на гэта ў яго не хапіла ні такту, ні характару.

Кніга складалася з дзвюх частак, і яе тамы ўбачылі свет (на рускай мове) адпаведна ў 1949 і 1951 гадах. Першы том перакладзены на беларускую мову і выйшаў з друку ў 1951 годзе.

Вось што напісаў у сваіх паказаннях А. Дзеравянка: «Мне вядома таксама, што пасля выхаду ў свет першай часткі кнігі нейкая навуковая ўстанова рэспублікі (відаць, Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР) падрыхтавала матэрыялы на прадмет прадстаўлення Л. Цанавы ў камітэт па Сталінскіх прэміях як «аўтара» працы па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны».

Па іншых звестках вядома, што Цанава, знаходзячыся пад уплывам станоўчых рэцэнзій, выказваў нават думку аб напісанні ім п'есы на партызанскую тэму.

Кніга, безумоўна, была падрыхтавана (маючы на ўвазе грамадска-палітычныя ўмовы таго часу) на нядрэнным навуковым і літаратурным узроўні. Гэта быў у пэўным сэнсе вынік працы многіх людзей, не толькі супрацоўнікаў апарату ўпраўлення МДБ. Яна хутка знайшла свайго адрасата. Нягледзячы на ўсе недахопы, з'явілася пэўным укладам у распрацоўку ваеннай праблематыкі.

Ёй не пашанцавала хіба што з методыкай падрыхтоўкі, арганізаванай несумленным чалавекам. Усё гэта выкрылася ў час разгляду крымінальнай справы на Л. Цанаву, арыштаванага ў Маскве органамі МУС СССР за дапушчаныя злачынствы.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь знаходзіцца на захоўванні справа аб прызнанні несапраўднымі выдавецкіх дагавораў. 10 сакавіка 1956 года судовая калегія па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда БССР разгледзела іск пракурора БССР у інтарэсах дзяржавы аб прызнанні несапраўднымі дагавораў, заключаных Дзяржвыдавецтвам БССР з Цанавай Л. Ф. аб выданні кнігі. У якасці сведак на пасяджэнні суда выступілі А. В. Дзеравянка і М. В. Сапелкін.

Улічваючы абставіны напісання гістарычнай працы, суд вырашыў: выдавецкія дагаворы аб выданні кнігі, заключаныя з Лаўрэнціем Цанавай, лічыць несапраўднымі, пазбавіць Л. Цанаву аўтарскага імя.

Вось якой драматычнай аказалася гісторыя стварэння кнігі. Зараз яна знаходзіцца ў беларускім аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі. Калі- нікалі да яе звяртаюцца навукоўцы, бібліфілы. Праца, нягледзячы на ўсе абставіны з'яўлення, мае навуковае і гістарыяграфічнае значэнне.

**Вячаслаў СЕЛЯМЕНЕЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь;**
**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.**

# НА КРАЙНЯЙ ПОЎНАЧЫ ЛЯЖАЦЬ ЗАБІТЫЯ І ЗАБЫТЫЯ НАШЫ СУАЙЧЫННІКІ...

**У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (1972 года выпуску) у артыкуле «Насельніцтва Комі АССР» пішацца: карэннае насельніцтва комі, жывуць рускія, украінцы, беларусы і іншыя. Дарэчы, беларусаў у Комі не так ужо і мала. Па звестках нашага земляка, Георгія Усцілоўскага, тут пражываюць 30 тысяч беларусаў. А ў яго родным гарадку Саснагорску — 2 тысячы.**

Як вы думаеце, адкуль на краі свету, сярод вечнай мерзлаты ўзялося так многа нашых суайчыннікаў?

Давайце трохі звернемся да гісторыі. У пачатку XX стагоддзя ў Усць-Сысольску і Усць-Цыльме ўзніклі першыя групы ссыльных сацыял-дэмакратаў. У тундру да аленяў, на лесапавалы цар адпраўляў небяспечных людзей.

Вопыт барацьбы царскага рэжыму з іншадумцамі быў пераняты новай уладай — савецкай. Ужо ў 1933 годзе ў Комі пачалі прывозіць на вечную ссылку «ворагаў народа» — раскулачаных сялян з абшараў неабсяжнага СССР. Асабліва многа сярод іх было беларусаў. Усе гэтыя людзі былі пад строгім наглядам, а жорсткія лагерныя ўмовы скарачалі іх жыццё вельмі хуткімі тэмпамі.

Георгій Усцілоўскі, які трапіў у ссылку ў Комі са Смаленскай турмы ў 1937 годзе, прыгадвае, што Комі да 1955-га ўяўляла сабой суцэльны лагер-турму: уся абцягнутая калючым дротам і абкружаная трохметровым плотам.

Толькі цудам удалося выжыць у гэтых нечалавечых умовах Георгію Усцілоўскаму. Ён жывы сведка жахаў сталінскіх лагераў. «Ад холаду і голаду гінулі перш за ўсё фізічна слабыя, — кажа Георгій Іванавіч. — У вечнай мерзлаце засталіся ляжаць тысячы працавітых беларускіх сялян, гвалтоўна адарваных ад сваіх спрадвечных заняткаў на зямлі. Некаторыя пасля вызвалення засталіся жыць у Комі».

Ужо пасля рэабілітацыі Георгій Іванавіч разам з іншымі беларусамі ўзяўся за збіранне імёнаў сваіх суайчыннікаў, што трапілі ў Комі ў час сталінскіх рэпрэсій. Ён шмат працаваў у архівах, збіраў сведчанні людзей, пісаў запыты.

Было разаслана 567 пісьмаў у розныя інстанцыі, хадайніцтваў аб рэабілітацыі нявінных людзей. На гэтыя запыты было атрымана 200 адказаў. 72 чалавекі, якім давялося прайсці праз сапраўднае пекла паўночнай ссылкі, атрымалі дакументы, якія сведчылі, што яны пацярпелі бязвінна. Пад канец жыцця, хворым і скалечаным, па нейкай іроніі лёсу ім прадаставілі дзяржаўныя льготы, як кампенсацыю за нанесеную шкоду. Цяжка паверыць у гэта, але некаторыя з памёршых беларусаў і цяпер яшчэ лічацца «ў ворагах народа».

У 1992 годзе Георгій Усцілоўскі прыязджаў у Мінск на сход беларусаў блізкага замежжа, які ладзіла ЗБС «Бацькаўшчына». Ён прыехаў у Беларусь са спісам ахвяр-беларусаў, якія засталіся ляжаць у чужой зямлі. Спіс гэты надзвычай вялікі і складае дзесяткі соцень чалавек.

Тады Георгій Усцілоўскі шмат часу хадзіў па рэдакцыях газет і часопісаў, каб надрукаваць гэтыя спісы. Толькі газета «ЛіМ» зрабіла гэта.

Акрамя спіса ахвяр рэпрэсій у Георгія Іванавіча быў з сабой рукапіс кнігі — успаміны перажытага асабіста ім у ссылцы. Яму, пенсіянеру, безумоўна, цяжка было знайсці сродкі і на друкаванне рукапісу кнігі, і ўжо тым больш на яе выданне.

Георгій Іванавіч спадзяваўся на дапамогу ЗБС, беларускіх бізнесменаў і прадпрымальнікаў, што прыехалі на з'езд, афіцыйных асоб з Міністэрства культуры, з Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў. Але — вось яна, абыякавасць сучаснага беларускага грамадства! — усе абяцалі, але нічым не дапамаглі.

І сапраўды, многія цяпер ужо забылі пра тую старонку нашай гісторыі. Мяркуючы па той масавай настальгіі па савецкіх часах, па савецкай справядлівасці, роўнасці і братэрству, зусім забыліся альбо апынуліся ў глыбокай падсвядомасці факты генацыду супраць свайго народа, зверстваў і здзекаў над бязвіннымі людзьмі, якія свята паверылі ў тое, што яны ўдзельнічаюць у будаўніцтве новага справядлівага грамадства, і самі сталі яго ахвярамі.

Калі беларуская нацыя і мае цяпер праблемы з самасвядомасцю, з нігілізмам у адносінах да сваёй мовы, то гэта ў значнай ступені залежыць і ад таго, што лепшыя прадстаўнікі народа — вучоныя, пісьменнікі, добрасумленныя гаспадары былі прымусова вырваны з грамадскага жыцця, зняважаны, абылганы, забіты і забыты.

Гісторыя можа паўтарацца, калі людзі забываюць яе ўрокі.

Самае сумнае ва ўсёй гэтай гісторыі тое, што кніга Георгія Усцілоўскага так і ляжыць у яго рабочым стале.

Праўда, у Саснагорску дзейнічае беларуская суполка, ствараюцца беларускія суполкі і ў іншых гарадах Комі, дзе воляю лёсу апынуліся нашы суайчыннікі. Іх намаганнямі не толькі захоўваецца беларуская прысутнасць на поўначы Расіі, але і робяцца спробы ўшанаваць памяць бязвінна загінуўшых тут беларусаў. У прыватнасці, нашы землякі хацелі б устанавіць у Саснагорску мемарыяльны знак.

— Вельмі крыўдна ўсведамляць, што Бацькаўшчына не хоча нам дапамагчы ў гэтай справе, — сказаў у нядаўняй тэлефоннай размове са мною Георгій Усцілоўскі. — Літоўцы, латышы, палякі прыязджаюць у Комі і на месцах пахавання сваіх суайчыннікаў устанаўліваюць памятныя знакі, шануючы такім чынам памяць аб сваіх продках. А не шануючы свой народ, якая дзяржава можа спадзявацца на пашану з боку ўласных грамадзян?

**Таццяна АНТОНАВА.**

## У МАГІЛЁВЕ ЗАСТРЭЛЕНЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІК

У горадзе на Дняпры супрацоўнікі МУС сутыкнуліся з чарговым забойствам, ахвярай якога стаў мясцовы прадпрымальнік Аляксандр Піваварaў. Дакладна вядома, што дырэктар малога прадпрыемства быў застрэлены ў 9 гадзін 40 хвілін раніцы ў аўторак ва ўласным пад'ездзе. Забойца (або забойцы) зрабіў некалькі выстралаў. Іншыя падрабязнасці гэтага здарэння зараз высвятляюцца следствам.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## «ФОРД» УСЁ Ж РАЗМЕСЦІЦЦА Ў АПЧАКУ

**У панядзелак, 26 лютага, Прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка даручыў Кабінету Міністраў краіны ў дзесяцідзённы тэрмін падрыхтаваць пастанаўленне па стварэнню сумеснага прадпрыемства па зборцы аўтамабіляў «Форд».**

Рэалізацыя праекта патрабуе перадачы пляцоўкі ў Апчаку ў якасці долі статутнага фонду СП з беларускага боку. Рашэнне аб перадачы пляцоўкі канчатковае і пераглядацца не будзе. Ад рэалізацыі праекта краіна чакае штогод 60 млн. долараў ЗША прыбытку. Тэндэр на права будаўніцтва завода адбудзецца ў першай палове сакавіка.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## БЕЛАРУСЬ ВОЗЬМЕ АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У БАРАЦЬБЕ З ТУБЕРКУЛЁЗАМ

**На працягу мінулага года лячэбнымі ўстановамі рэспублікі былі выяўлены 4422 выпадкі захворванняў на актыўны туберкулёз з упершыню ў жыцці вызначаным дыягназам.**

За апошнія гады назіраецца невялікі, але даволі ўстойлівы рост колькасці хворых на гэтую хваробу. Калі яшчэ ў 1993 годзе на 100 тысяч насельніцтва прыпадала 156 хворых на актыўны туберкулёз, то ўжо праз два гады гэта лічба вырасла да 173 хворых, а ў асобных абласцях, напрыклад Гомельскай, да 237 хворых на 100 тысяч насельніцтва. Статыстыка далёка не абнадзейлівая. Крытычнае становішча, у якім апынулася эканоміка нашай рэспублікі, не магло адмоўна не адбіцца і на медыцыне. Аднак у барацьбе за здароўе і жыццё людзей нават у такіх складаных умовах медыкі робяць усё магчымае.

Сусветная арганізацыя аховы здароўя абвясціла 24 сакавіка Сусветным днём барацьбы з туберкулёзам, актыўны ўдзел у правядзенні якога возьме і наша рэспубліка. Планам правядзення Сусветнага дня барацьбы з туберкулёзам у Рэспубліцы Беларусь прадугледжана правядзенне рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Вынікі процітуберкулёзнай работы за 1995 год і задачы на 1996 год», пасяджэнняў абласных і Мінскага гарадскога навуковых таварыстваў фтызіятраў. Будуць падрыхтаваны памятка «Ранняе выяўленне і прафілактыка туберкулёзу», шэраг артыкулаў у рэспубліканскім друку і перадач па радыё і тэлебачанні, прысвечаных пытанням барацьбы з туберкулёзам. Гэтыя і іншыя мерапрыемствы будуць праводзіцца на працягу лютага-сакавіка, для ўдзелу ў многіх з іх запросяць журналістаў.

**Сяргей ПРОТАС.**



***КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЕРА***

# «ЗА ВАШУ І НАШУ СВАБОДУ!»

**У студзені 1995 года пошта рэспублікі выпусціла серыю марак, прысвечаную 200-годдзю паўстання 1794 года. Сярод гэтых мініяцюр адна была прысвечана Т. Касцюшку — нашаму славутаму земляку, кіраўніку паўстання. Паштовыя ведамствы шэрага краін свету прысвяцілі Касцюшку свае выпускі. Цяпер сярод гэтых марак ёсць і беларуская мініяцюра.**












А першая марка з партрэтам Касцюшкі была выпушчана ў 1932 годзе ў Польшчы. Марка не звязана з якой-небудзь канкрэтнай датай у жыцці нашага вядомага земляка: яна была прысвечана 200-годдзю з дня нараджэння Дж. Вашынгтона. Партрэт амерыканскага прэзідэнта быў змешчаны на марцы сярод дзяржаўных сцягоў Польшчы і ЗША і партрэтаў актыўных удзельнікаў войнаў за незалежнасць ЗША — Касцюшкі і Пуласкага. Выява Т. Касцюшкі на гэтай марцы — гэта частка партрэта А. Аляшчынскага, напісанага ім у 1829 годзе. Цікава адзначыць, што менавіта гэты партрэт неаднаразова рэпрадуцыраваўся на паштовых марках Польшчы. Менавіта гэтая марка ў польскай філатэліі палажыла пачатак шматлікім выпускам, прысвечаным паўстанню 1794 года і яго кіраўніку. У 1938 годзе на адной з марак гістарычнай серыі, выдадзенай да 20-годдзя незалежнасці Польшчы, паказаны нацыянальныя героі краіны — Касцюшка, Дамброўскі і Панятоўскі.

Шмат цікавых паштовых выпускаў аб паўстанні і Касцюшку было выдадзена ў пасляваеннай Польшчы. Паштова-філатэлістычны мемарыял Касцюшкі вельмі вялікі, і расказаць пра ўсе выпускі ў газетным артыкуле практычна немагчыма. Таму раскажам толькі пра самыя цікавыя выпускі.

На трох першых пасляваенных марках Польшчы былі змешчаны партрэты Т. Касцюшкі, Р. Траўгута і Я. Дамброўскага. На гэтай марцы зноў быў выкарыстаны партрэт Касцюшкі 1829 года мастака А. Аляшчынскага.

Наступны цікавы выпуск — гэта так званыя маркі лодзінскага выдання 1945 года. Сярод іх марка з адлюстраваннем помніка, узведзенага ў г. Лодзі ў 1930 годзе. Помнік быў створаны вядомым скульптарам М. Любельскім. У гады вайны ён быў разбураны фашыстамі. У 1960 годзе з удзелам аўтара адноўлены. А на марцы 1945 года быў паказаны даваенны помнік. Такі ж лёс помніка Касцюшку ў Кракаве. У 1960 годзе жыхары Дрэздэна (Германія) рэканструявалі помнік і падарылі яго жыхарам Кракава. Аднак адлюстраванне помніка Касцюшкі ў Кракаве на марцы было паказана ў 1945 годзе, і, як і ў выпадку з помнікам у Лодзі, на марцы паказаны даваенны помнік.

Цікавая серыя польскіх марак 1954 года, прысвечаная 160-годдзю паўстання 1794 года. На адной з мініяцюр — цэнтральны сюжэт карціны Я. Мацейкі «Касцюшка пад Роцлавічамі», напісанай вядомым мастаком у 1888 годзе. Арыгінал гэтага палатна знаходзіцца ў экспазіцыі Нацыянальнага музея ў Кракаве.

Можна адзначыць марку 1961 года з серыі «Вялікія палякі» з партрэтам Т.Касцюшкі работы мастака Ю. Касінскага, напісаным у 1798 годзе (Нацыянальны музей у Варшаве), а таксама 2 маркі да 150-годдзя з дня смерці Касцюшкі. На абедзвюх мініяцюрах Касцюшка напісаны ўсё тым жа А. Аляшчынскім. У 1970 годзе пошта Польшчы выпусціла мініяцюру з партрэтам Касцюшкі на косці работы мастака Я. Рустэма.

У 1775—1783 гадах Т. Касцюшка прымаў удзел у вайне за незалежнасць ЗША. І гэты перыяд яго дзейнасці знайшоў сваё адлюстраванне ў філатэліі. У 1975 годзе польская пошта выпусціла серыю марак з блокам, прысвечаным 200-годдзю незалежнасці ЗША. У серыі ёсць марка — Касцюшка на фоне групы валанцёраў амерыканскай арміі, а на блоку — партрэт Касцюшкі пад амерыканскім сцягам і подпіс: «За вашу і нашу свабоду».

У 1979 годзе з'яўляецца чарговая польская марка, прысвечаная Касцюшку. На гэты раз на ёй быў паказаны помнік — дар польскага народа амерыканскаму ў азнаменаванне 200-годдзя абвяшчэння незалежнасці ЗША. Помнік гэты ўстаноўлены ў Філадэльфіі (ЗША). Гэта не адзіны помнік нашаму земляку ў далёкай Амерыцы. Памяць аб ім увекавечана скульптарамі ў чатырох гарадах ЗША. Адзін з іх — у Саратозе, у бітве пад якой найбольш ярка праявіўся палкаводчы талент Касцюшкі. Гэты помнік паказаны на марцы ЗША, якая была выпушчана яшчэ ў 1933 годзе.

Адзначаючы 200-годдзе бітвы пад Саратогай, польская пошта прымяняла ў 1977 годзе спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі штэмпелем з партрэтным адлюстраваннем Касцюшкі на фоне карты ЗША. Штэмпелі спецыяльнага гашэння з імем ці партрэтам Т.Касцюшкі пошта Польшчы выкарыстоўвала неаднаразова — сярод іх 25-годдзе арганізацыі 1-й дывізіі Войска Польскага, названай імем Касцюшкі, адкрыццё помніка ў Філадэльфіі, 190-годдзе прысягі Касцюшкі і г.д. Імя Касцюшкі ў кагорце народных герояў Польшчы займае першае месца. Яно ўвекавечана ў назвах школ, ліцэяў, шахт, прадпрыемстваў, вуліц. Многія з гэтых арганізацый, адзначаючы свае юбілеі, прымялі спецыяльнае гашэнне. Напрыклад, 50 гадоў гімназіі імя Касцюшкі ў Мехаве, 30 гадоў Політэхнічнага інстытута імя Касцюшкі ў Кракаве, 50 гадоў шахце каменнай солі імя Касцюшкі ў Вапне і г.д.

Да розных юбілеяў, звязаных з імем Касцюшкі, Саюз польскіх філатэлістаў арганізоўваў філатэлістычныя выстаўкі, на якіх прымяняліся спецыяльныя штэмпелі. Імя Касцюшкі — на літоўскім спецыяльным штэмпелі да 200-годдзя паўстання 1794 года. Не ўсім вядома, што на далёкім кантыненце — у Аўстраліі ў горнай сістэме Вялікага водападзельнага хрыбта (на поўдзень ад Камберы) ёсць вяршыня ў 2230 м над узроўнем мора, названая імем Касцюшкі. У Аўстраліі быў выпушчаны канверт з малюнкам гэтай гары, таксама прымяняўся спецыяльны штэмпель з адлюстраваннем гары Касцюшкі. У перадваенныя гады на цеплаходзе «Касцюшка» прымяняўся ў паштовым аддзяленні спецыяльны штэмпель.

А вось яшчэ некалькі цікавых марак і штэмпеляў, прысвечаных Касцюшку. У гады другой сусветнай вайны ў Германіі ў некалькіх лагерах для польскіх афіцэраў ваеннапалонных працавала незвычайная пошта — лагерная. У 1943 годзе ў лагеры «Вольдэнберг» для патрэб пошты была выдадзена серыя марак «Гетманы». Адна з марак серыі была прысвечана Т. Касцюшку. Лагерны мастак Е. Піхель намаляваў партрэт Касцюшкі ў вянку з дубовага лісця і са зброяй паўстанцаў. У 1944 годзе ў іншым лагеры для ваеннапалонных польскіх афіцэраў — «Грос-Борн» была выдадзена для мясцовай пошты серыя марак «Змагары за свабоду», адна з марак якой прысвечана Касцюшку.

Нават з гэтага кароткага расказа бачна, што нашаму слаўнаму земляку — Т. Касцюшку, нацыянальнаму герою Польшчы, Беларусі, ЗША многія краіны свету прысвяцілі свае паштовыя выпускі.

**Рубрыку вядзе Леў КОЛАСАЎ.**



## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках на 28 лютага 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11900 | 12150 | 7950 | 8200 | 2.35 | 2.55 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11900 | 12150 | 7900 | 8300 | 2.35 | 2.55 | |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 12000 4840 | 12100 4940 | 8180 | 8350 | 2.45 | 2.50 | 531-504 |
| Мінскі транзітны банк*** | 11900 | 12100 | 7950 | 8200 | 2.35 | 2.50 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11950 | 12100 | 7950 | 8150 | 2.30 | 2.50 | 372-825 |
| Народны банк | 12000 | 12200 | 8100 | 8300 | 2.34 | 2.48 | 238-610 |
| «Алімп» | 12000 | 12150 | 8100 | 8400 | 2.44 | 2.54 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 12000 | 12100 | 7950 | 8100 | 2.40 | 2.50 | 291-646, 067 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 11800 | 12300 | 8100 | 8400 | 2.45 | 2.60 | 26-56-12 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7920.11 | | 2.38 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4815 | | 3320.69 | | 100 бел.р. 39.57 | | |

Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік
** — Аперацыя праводзіцца толькі па безнаяўнаму разліку
*** — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніввацца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах.

Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.

**Агенцтва Граўцова.**

***СЁННЯ***

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.01 | 17.44 | 10.43 |
| Віцебск – | 6.53 | 17.32 | 10.39 |
| Магілёў – | 6.51 | 17.33 | 10.42 |
| Гомель – | 6.46 | 17.32 | 10.46 |
| Гродна – | 7.16 | 17.59 | 10.43 |
| Брэст – | 7.15 | 18.02 | 10.47 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра**
**26 лютага**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Валента, Паўла, Іліі, Данііла**
**К. Фэлікса**

### НАДВОР`Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца невялікая воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Гродне і Брэсце — 2—4, Мінску і Гомелі — 3—5, Магілёве і Віцебску — 4—6 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак на большай частцы тэрыторыі снег. Тэмпература ўначы — 5—10, 1 сакавіка па паўднёваму ўсходу — да 15, удзень — 2—7 градусаў ніжэй нуля.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 29 ЛЮТАГА

Надвор'е будзе вызначацца полем павышанага атмасфернага ціску. Чакаецца нязначнае паніжэнне ўтрымання кіслароду ў паветры і ціску. У такіх умовах самаадчуванне метэазалежных хворых крыху палепшыцца, аднак у мэтах прафілактыкі па-ранейшаму рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, заспакаяльныя сродкі і полівітаміны.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# ЛАБАРАТОРЫЯ ДЭМАКРАТЫІ, або Як рэарганізаваць вышэйшую школу?

## АДЗІН ДЗЕНЬ У КЕМБРЫДЖЫ. УСТУП-ЗГАДКА

**Дзве гадзіны пасля язды па аўтастрадзе на паўночны захад ад Лондана, калі імклівы «БМВ» імчыць міма маленькіх кустарнікавых прысад дагледжаных і аголеных жоўтай восенню палёў, дзе ніводны лапік зямлі не пустуе, дбайна ўзараны і забаранаваны аж да самай шашы, амаль не ўязджаючы ні ў адзін населены пункт — прыгарад, вёсачку ці горад, — раптам можна апынуцца ў самым сэрцы еўрапейскай навукі, цывілізаванага свету — старадаўнім універсітэце ў цэнтры туманнага Альбіёна — у Кембрыджы. Што гэта за цуд! Такога ў свеце, колькі б я ні ездзіў, яшчэ не бачыў, ды і аналагаў, бадай, такіх мала, хіба што яшчэ называюць Оксфард у другой, процілеглай Кембрыджу, частцы Вялікабрытаніі ці Сарбону ў Парыжы. Ні ў Амерыцы, напрыклад, ні ў Германіі, Аўстрыі, Сербіі, Харватыі, Македоніі, Славеніі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі альбо ў іншых краінах, дзе мне давялося пабываць, такіх універсітэтаў няма. Многія універсітэты свету толькі аддалена нагадваюць падобны феномен.**

Кембрыдж — гэта горад студэнтаў, горад навукі, культуры, еўрапейскай цывілізацыі. Тут усё падпарадкавана вучобе, навуцы, спасціжэнню таямніц быцця, жыццю, працы і адпачынку студэнтаў і, безумоўна, прафесараў і выкладчыкаў.

Сюды — у Кембрыдж — мяне прывёз пасля Лонданскага універсітэта вядомы славіст, шчыры беларусазнавец, які выдатна ведае беларускую мову і добра на ёй размаўляе, жаданы госць на Беларусі ўжо і тады — у 1990 годзе — прафесар Джэймс Дзінглі, з якім мы нястомна доўгі светлавы, хоць і глыбока асенні дзень, хадзілі з аднаго каледжа ў другі, у тым ліку і ў той, дзе ён сам вучыўся, і прафесар усё распавядаў і распавядаў.

Я разумеў яго, калі ён перахрысціўся перад дзвярыма роднай «альма-матэр», бо для яго гэта было яшчэ і спатканне з юнацтвам, з гадамі мараў і спадзяванняў, хоць неаднойчы ён са скрухай гаварыў, што яго ўсе ўгаворвалі, маўляў, ідзі на славістыку, руская мова — перспектыўная, а якая перспектыва ў мяне, скажы, якая, са шкадаваннем і горыччу пытаўся ён, і пытанне тое павісла ў паветры без адказу.

...Адзін каледж суседнічаў з іншым, адзін палац ведаў змяняўся другім. Злева, калі ўваходзіш на тэрыторыю, высяцца карпусы бібліятэкі — з сярэдневяковым, здавалася б, яшчэ духам, з утульнымі невялічкімі чытальнымі заламі ўнізе, стэлажамі кніг і багатымі фондамі наверсе — на балюстрадзе, куды вялі шырокія лесвіцы, — усё даступна, максімальна наближана да дапытлівага знаўцы, са столікамі з настольнымі лямпамі для кожнага, з зашклёнымі вітрынамі-выстаўкамі старадрукаў і рэдкіх кніг з тоўстымі, ледзь не драўлянымі, вокладкамі, на кручках-замочках ці фаліянтаў з аксамітавай аздобай і цісненымі золатам назвах на пераплётах.

Бібліятэка пераходзіць у вучэбныя карпусы, а затым пачынаюцца жылыя пакоі для студэнтаў — на аднаго студэнта адзін выдатны па нашых мерках пакойчык, мэбляваная кватэра з кухняй і халадзільнікам, з дыванамі на падлозе, балконамі і стэлажамі кніг, з радыё- і тэлетэхнікай, што нікольки не перашкаджае тут займацца. А затым жылыя памяшканні завяршаюцца царквой ці касцёлам, а далей спартыўнай залай, гаспадарчым блокам, а ўсё разам — бібліятэка, жыллё, культавыя храмы, спартыўныя і бытавыя памяшканні — утвараюць адзіную цэласную замкнутую квадратную забудову — гэткі англійскі невысокі «палац» з вежамі, гмахамі, флігялёчкамі, масіўнымі акаванымі жалезам дзвярыма з зялёным газонам пасярод двара.

...Мы выходзім з прафесарам Джымам Дзінглі на зялёны лужок унутры аднаго з каледжаў і дзівімся на зялёную траву-мураву. Роўненькую, пастрыжаную — удзірванелы шматгадовы дзёран. Узгадваю наша — беларускае — выказванне з апавядання Янкі Брыля: «Глядзіце на траву — няхай на зеляніне адпачываюць вашы вочы», маўчу, каб усё абдумаць і асэнсаваць, ды раптам прыгадваю, па аналогіі, ужо з чыста англійскага гумару, што калі ў аднаго англічаніна спыталіся, якім чынам яны дабіваюцца такой прыгажосці зялёных газонаў, як трэба даглядаць такую траву, той адказаў: «А мы кожны дзень стрыжом траву і палiваем, стрыжом і палiваем. І так трыста гадоў!»

Разумею, што па той жа аналогіі, такі ж самы клопат, шматвекавы вопыт павінен прысутнічаць і пры падрыхтоўцы, самім навучанні і выхаванні кадраў вышэйшай кваліфікацыі, калі мы хочам мець не скараспелых верхаглядаў, а глыбока тэарэтычна і практычна падрыхтаваных спецыялістаў.

«Стрыжом і палiваем! Стрыжом і палiваем!» І так трыста гадоў запар. Але ў нас, беларусаў, няма ў запасе тых трохсот гадоў. Наадварот, нас выполвалі, стрыглі і выкарчоўвалі. Дык што ж рабіць?

## КУЗНЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КАДРАЎ

Універсітэты ў свеце сёння вызначаюць высокі інтэлектуальны патэнцыял навукі, якая акумуліруе дасягненні сусветнай і айчыннай навуковай думкі, культуры, дзякуючы чаму яны становяцца сапраўднымі цэнтрамі адукацыі, навуковага пошуку, выхавання.

Універсітэт стварае ў сабе асяроддзе для навуковага развіцця маладых людзей, якое не можа даць аніякая іншая вышэйшая школа менавіта толькі таму, што ва універсітэце выкладаюцца ўсе навуковыя катэгоры ведаў, з розных навуковых сфер, якія ў дадзены момант складаюць асноўны духоўны набытак чалавецтва. Студэнты жывуць у атмасферы гэтых ведаў.

Сапраўдныя адкрыцці ў навуцы сёння, як правіла, ажыццяўляюцца на памежжы, на стыку самых розных дысцыплін. Таму важна, каб студэнт не толькі назапасіў пэўную суму ведаў, узбагаціў сябе і сваю памяць, але і набыў, што называецца, навуковае развіццё, быў здольны ісці далей, самаўдасканальвацца, быў бы ў будучым генератарам ідэй, мог весці за сабою іншых і пастаянна вучыцца.

Універсітэт, калі ён сапраўды адпавядае свайму прызначэнню, накоплівае ў сабе вышэйшы інтэлектуальны патэнцыял грамадства, генерыруе, фарміруе і распаўсюджвае ў ім духоўныя, навуковыя, маральныя і культурныя каштоўнасці. І таму яны, універсітэты, у многім адказныя за сапраўднае становішча грамадства. Нязвыкла? Так. Але справядліва, па-мойму.

Сённяшні наш крызісны стан у краіне — не наступствы вайны, нават не духоўны Чарнобыль, не стыхійнае бедства ці вынік усеагульнай навалы, усеагульнага вынішчэння прыроднымі сіламі («не вымачыць, дык высушыць, не спаліць — дык замарозіць»), а вынік, часцей за ўсё, нашай агульнай некампетэнтнасці, неадукаванасці, бескультур'я на ўсіх узроўнях, фетышызацыі масы, яе маўклівага адабрэння нашых кіданняў, асабліва тых, хто намі кіруе.

У 1926 годзе ў 30-гадовым узросце, маючы ўжо сям'ю, паступіў у БДУ будучы народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва. Хто калі падлічваў, колькі спецыялістаў даў універсітэт на пачатку стагоддзя, які адкрыў дарогу да асветы, навукі, культуры сотням і тысячам сялянскіх дзяцей, якія ў іншых умовах зусім не мелі б магчымасці выбіцца ў людзі. Універсітэт выконваў сваю галоўную задачу забеспячэння кадрамі на ўсіх напрамках народнай гаспадаркі ў маладой Беларусі — у эканоміцы, філасофіі, правазнаўстве, палітыцы, літаратуры і культуры. Універсітэт стаў школай практычнага і тэарэтычнага вопыту, назапашвання фундаментальных ведаў для многіх. Універсітэт з гонарам выконваў пачэсную місію быць магутнай кузняй нацыянальных кадраў для Беларусі.

Але будаўніцтва нацыянальных дзяржаўных інстытутаў у нашай рэспубліцы неапраўдана зацягнулася на няпэўны і ўжо нябачны ў недалёкім і больш аддаленым будучым тэрмін. Мы ўсе разам, аб'яднаўшы нашы намаганні, агульнымі сіламі маглі б як найхутчэй і не так хваравіта выйсці з зацяжнога крызісу. Гэтага не адбылося. Страчаныя мажлівасці не вяртаюцца.

Моладзь, студэнцтва занепакоена будучыняй. І ўспрымаюць сябе ў вялікім свеце без аніякай долі нацыянальнай абмежаванасці, якой так баяцца сёння нашы «неистовые ревнители» ад рэфармацыі, з абсалютнай чысцінёй помыслаў і меркаванняў, гожа, варта, патрыятычна.

Яны хочуць самі быць гаспадарамі свайго лёсу. Ім трэба даць волю, свабоду дзеянняў. Але ўсякая цывілізацыя, каб існаваць і развівацца, павінна мець інтэгруючую ідэю, якая пакуль што можа ўсведамляцца няхай толькі і духоўнай элітай.

Для Беларусі і беларусаў такой кансалідуючай ідэяй можа і павінна стаць ідэя нацыянальнага будаўніцтва, якая ні ў чым і нідзе яшчэ не скампраметавала сябе. Беларусы — вечныя паязджане — мусяць вярнуцца ў сваю хату, адчуць і зразумець свае карані, навучыцца паважаць сябе. Неабходна «вырваць» народ-нацыю са стану прыніжанасці, занядбанасці, абяздоленасці. Патрэбна наступальная праграма дзеянняў. Народу патрэбна свая нацыянальна свядомая інтэлігенцыя. Папярэдняя — самая ранняя генерацыя — была жорстка вынішчана, пазнейшая — часткова мімікрыравала, а частка — здрадзіла народу.

Найбольш прыдатная пазіцыя думаючай інтэлігенцыі — быць заўжды ў духоўнай апазіцыі да існуючага ладу. «Старая» прафесура заўсёды так і рабіла. Нязгода з існуючым — духоўны вопыт усёй нашай айчыннай інтэлігенцыі. Сёння ад інтэлігенцыі патрабуецца многае: фарміраванне менталітэту нацыі, адказ на тое, як выжыць і як жыць, што далей, куды ісці, якое грамадства будаваць, нашы духоўныя прыярытэты, маральныя імператывы. Мы павінны нешта рабіць, каб дзеці і ўнукі нашы зноў і зноў не страчвалі Радзіму, Маці-Беларусь. За іх трэба падумаць, нам трэба зрабіць, каб не было сорамна перад будучыняй і тымі, хто яшчэ народзіцца. Пачынаць будаваць новую Беларусь трэба ўжо сёння. У лодцы не ўстоіш, адной нагой ад берага не адпіхнешся, сядзем на вёслы. Універсітэт адказны за стан грамадства. Прыгадаем тыя словы. Непрывычна? Але гэта так. Ці гатовы мы адказваць? Сёння нашы універсітэты — гэта аснова будучага будаўніцтва і нашага дабрабыту заўтра.

## ШЛЯХІ РЭФАРМІРАВАННЯ

Хто б ні прыязджаў, хто б ні знаёміўся з працай нашых вышэйшых школ, беларусы далёкага і блізкага замежжа ўсе ў адзін голас заяўляюць, што траціць наш бясспрэчны здабытак, нашу перавагу — бясплатнае навучанне — аніяк нельга ні пры якіх умовах. Ужо што-што, а падвучыцца ці хоць бы вывучыцца, атрымаць спецыяльнасць можна было і пры старой сістэме, даперабудовачнай, абы той, хто хацеў навучыцца, быў не лайдак, не раструхан і не бэйбус. Але вучоба ва універсітэце павінна быць прэстыжнай і ганаровай, элітнай, дзе клопат пра кожнага будучага спецыяліста павінен стаць клопатам дзяржаўным, дзе і месца будучай працы пры належным старанні бачыцца, і рост кар'еры праглядваецца пры ўмове дасканалага авалодання асновамі будучай прафесіі і захавання лепшых сваіх маральных і дзелавых якасцей. Самае галоўнае — узняць аўтарытэт універсітэта, узняць яго ролю ў параўнанні з іншымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Дасягнуць гэтага можна толькі падабраўшы лепшыя кадры, рэзка ўзняўшы ўзровень выкладання, што якраз вызначаецца прафесарска-выкладчыцкім саставам, яго прафесіянальнасцю, эрудыцыяй, інтэлектам.

Адзін з герояў Шэкспіра ўсклікаў: «Здрады няма, сэр. Ёсць недахват людзей і сродкаў». Бракуе сродкаў на падтрыманне адукацыі. Але час не церпіць, і калі мы хочам арганічна «ўвайсці» ў агульную «крывяносную сістэму» падрыхтоўкі будучых спецыялістаў з улікам сусветнага вопыту, дык мусім трансфарміраваць і адаптаваць сістэму падрыхтоўкі спецыялістаў найвышэйшай кваліфікацыі.

Што, на маю думку, трэба зрабіць?

**Першае.** Даць большую фінансавую і матэрыяльную самастойнасць факультэтам у рамках саміх ВНУ. Нашы факультэты ўжо даўно перараслі саміх сябе, а мы ўсё імкнёмся іх асаджваць пугаўём, каб загнаць у пракрустава ложа нашай схемы. Кожны з такіх факультэтаў — міні-ВНУ. Галіновая. А што цяпер? Лепш жыве той факультэт, які не разрастаецца, не вылузваецца са сваёй скуры. Ніякай канкурэнцыі, прэстыжнасці, элітнасці. Што маецца на ўвазе ў рэканструкцыі структуры універсітэта? Найперш аб'яднанне ці ўзбуйненне аднапрофільных структурных адзінак вучэбнага і навуковага плана.

Ва ўсім свеце не знойдзеш такіх формаў навучання, якія б адпавядалі нашаму завочнаму і вячэрняму навучанню. Гэта даніна казарменнаму сацыялізму. Даўно ўжо час адмяніць такія анахранічныя формы навучання, на якія расходуюцца немалыя сродкі.

Такім чынам, нашы універсітэты маглі б складвацца, як і Кембрыдж у Англіі, як і ў Маскве і ў Санкт-Пецярбургу, як і ў Зальцбургу ў Аўстрыі, з мноства самастойных інстытутаў розных профіляў. Сёння адно ў БДУ такіх структурных навуковых адзінак досыць: НДІ, ПФП, Інстытут хіміка-фізічных праблем, ядзерных даследаванняў, СКТБ з ВВ, ВЦ, навукова-даследчая частка, лабараторыі, аддзелы і да т. п.

**Другое.** Свабодны прыём-запіс ва універсітэты. Ён павінен існаваць на аднолькавых правах з дзяржаўным наборам. Тэсты, рэйтынгі, субяседаванні, конкурсы атэстатаў, рэкамендацыі з месцаў дапамогуць не памыліцца, а праз нейкі час можна будзе пакінуць сапраўды здольных, таленавітых, а тыя, хто правучыўся толькі 1—2 гады, змогуць быць карыснымі як лінейныя інжынеры, выхавальнікі, калі ім пашчасціла ўладкавацца на працу, якая, можа, і не патрабуе высокай універсітэцкай кваліфікацыі.

**Трэцяе.** Вучэбны працэс — індывідуалізаваны, навучанне — не паточнае, пры ўмове, што калі ты стаў у чаргу за дыпломам, дык абавязкова яго атрымаеш, але адраснае, — рыхтаваць канкрэтнага выпускніка для канкрэтнай работы. Ліквідаваць ураўнілаўку. Не выкладчык залежыць ад студэнта, ёсць ён ці няма, а студэнт трапляе ў залежнасць ад выкладчыка, выбірае сабе курсы, якія яму трэба засвоіць.

**Чацвёртае.** Ніякіх пасад, займаемых ад нараджэння. Выбарнасць і дэмакратызм — аснова рэфармацыі ў сістэме вышэйшай адукацыі. Сёння ВНУ — апошнія анклавы супраціўлення таталітарнага рэжыму.

Неабходна развіваць рэгіянальную сістэму адукацыі, каб ад Навагрудка, дзе будынак былой беларускай гімназіі яшчэ дагэтуль захаваўся, да Шклова (дзе існаваў тэатр з еўрапейскай вядомасцю), усе, хто хацеў бы, змаглі б атрымаць вышэйшую адукацыю.

Рэгіёны і сталіца павінны мець шырокую сетку спецыяльных і агульнаадукацыйных установаў, ад народных універсітэтаў, курсаў перападрыхтоўкі — да элітных каледжаў, закрытых інстытутаў і вядомых у Еўропе і свеце універсітэтаў з неабходнай матэрыяльна-тэхнічнай навуковай і вучэбна-выхаваўчай базай.

## СПРАВА — АСНОВА БЫЦЦЯ

*Існуюць сусветныя стандарты адукацыі. Трэці прэзідэнт ЗША Томас Джэферсан дэкларaваў: «Дайце людзям шырокую адукацыю, і тыранія, і прыгнёт як розуму, так і цела знікнуць накшталт злых духаў на золку». Сёння нам жыццёва неабходныя сувязі паміж адукацыяй, дэмакратыяй і эканамічнымі магчымасцямі. Нашы універсітэты павінны стаць лабараторыяй дэмакратыі, у якой выкладчыкі і студэнты прымаюць непасрэдны і актыўны ўдзел у свабодным абмеркаванні ідэй, праблем, шляхоў выхаду з духоўнага і эканамічнага крызісу, якія сёння дакучаюць нашаму грамадству. Патрэбны экспертныя саветы, камітэты гонару, прафесіянальныя асацыяцыі, рады даверу, усе мы маем патрэбу ў адкрытым свабодным дыялогу. Свабода выбару ў шэрагу разнастайных агульнаадукацыйных і прафесіянальных паслуг — характэрная рыса сучаснай дэмакратыі. Ад школы да ВНУ — вольны выбар праграм і формы навучання, дзе большая спецыялізацыя ці агульная падрыхтоўка.*

*Напрыклад, у ЗША існуе прыблізна 600 дзяржаўных універсітэтаў і каледжаў з 4-гадовым тэрмінам навучання. Каля 1550 універсітэтаў і каледжаў з'яўляюцца прыватнымі.*

*Хто павінен мець доступ да адукацыі? Што трэба выкладаць? Як трэба вучыць і вучыцца? Хто павінен кіраваць і хто даваць ацэнку? Як павінны фінансавацца ВНУ?*

*Акадэмічная вучоба ў ВНУ — гэта свабода навучаць прадмету ў межах сваёй кваліфікацыі, пазнанне і распаўсюджанне праўдзівых ведаў без прымусу. Акадэмічная служба — гэта пажыццёвы наём на пасаду выкладчыка. Нішто так не характарызуе ВНУ, як якасць падрыхтоўкі яе выпускнікоў. Такі універсітэт, як сукупнасць шматлікіх пачатковых каледжаў (у нашых умовах — факультэтаў), менавіта ў такой форме дазваляе стварыць атмасферу садружнасці, прагі да ведаў, прафесіянальнага росту, канкурэнтнасці, заснавання ўстойлівых маральных нормаў, зацікаўленасці сваёй «alma mater».*

*Наш, Усебеларускі універсітэт, я пачаў бы будаваць (гэта са сферы пражэктаў, мрояў, фантазій) метадам ударнай маладзёжнай будоўлі недзе пасярэдзіне дарогі з Захаду на Усход (у Міры, Нясвіжы), куды лёгка маглі б дабрацца для выкладання вучоныя з сусветным імем з Масквы і Берліна, з Санкт-Пецярбурга і Кембрыджа, з Варшавы і Вены, Кіева і Мінска.*

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**загадчык кафедры Белдзяржуніверсітэта,**
**дацэнт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

